Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 3 (4752) 17 студзеня 2014 г.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста СССР Васіля Ланавога з 80-годдзем. «Непаўторны талент і непераўзыдзенае акцёрскае майстэрства дазволілі Вам стварыць яркія гераічныя вобразы, якія сталі сімвалам мужнасці, патрыятызму і вернасці абавязку, прынеслі заслужаны аўтарытэт і ўсенароднае прызнанне», — адзначыў Кіраўнік дзяржавы. «Мільёны беларускіх гледачоў ведаюць і шануюць Вас як выдатнага акцёра і чалавека з цвёрдай грамадзянскай пазіцыяй», — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народнага мастака Беларусі Васіля Шаранговіча з 75-годдзем. «Ваша жыццё з'яўляецца яскравым прыкладам самаадданага служэння нацыянальнаму выяўленчаму мастацтву. Сваёй шматграннай дзейнасцю Вы ўнеслі значны ўклад у захаванне і развіццё традыцый кніжнай і станковай графікі», — падкрэслена ў віншаванні. «Спадзяюся, што Вы і ў далейшым будзеце працаваць гэтак жа плённа і самааддана ў імя роднай Беларусі», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

✔ Кіраўнік дзяржавы зацвердзіў рашэнні савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі. Са сродкаў фонду выдзелена звыш 1 млрд. рублёў на заахвочванне найлепшых прадстаўнікоў таленавітай моладзі, набыццё музычных інструментаў установам адукацыі сферы культуры для заняткаў мастацкай творчасцю. У тым ліку, прысуджана Гранд-прэмія ў памеры 91 млн. і званне лаўрэата спецфонду бронзаваму прызёру дзіцячага конкурсу песні «Еўрабачанне-2013» Ільі Волкаву, а ўдзельнікі яго музычнага нумара адзначаны заахвочвальнымі прэміямі.

✔ Паводле вынікаў конкурсу на атрыманне прэмій Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі 2013 года, прысвечанага 85-годдзю заснавання ўстановы, прэміяй НАН Беларусі ў галіне сацыяльных і гуманітарных навук адзначаны супрацоўнікі дзяржаўнай навуковай установы «Цэнтр даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі». Сярод іх — член-карэспандэнт, доктар філалагічных навук, галоўны навуковы супрацоўнік Міхаіл Мушынскі; кандыдат філалагічных навук, загадчык аддзела Мікалай Мікуліч; кандыдат філалагічных навук, вядучы навуковы супрацоўнік Яўген Гарадніцкі. Навукоўцы ўганараваны за цыкл прац «Сістэма мастацкіх кірункаў, стылістычных плыняў і творчых індывідуальнасцей беларускай літаратуры XX стагоддзя ў кантэксце сацыяльна-палітычнага развіцця і культурна-цывілізацыйнага ўзаемадзеяння».

✔ Міністэрства культуры Беларусі падоўжыла да 17 лютага конкурс эскізных праектаў на стварэнне помніка Уладзіміру Мулявіну ў Екацерынбургу. Помнік народнаму артысту СССР будзе ўсталяваны ў цэнтры горада. Згода на ўстаноўку помніка атрымана ад Прэзідэнта Беларусі, губернатара Свярдлоўскай вобласці і мэрыі Екацерынбурга.

Падрыхтавала
Іна ЛАЗАРАВА






Фота БелТА

# Расінкі на пялёстках лотаса

Мікола Мятліцкі, паэт, галоўны рэдактар часопіса «Полымя», атрымаў спецыяльную прэмію Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва. Нагодай для ўганаравання стала кніга перакладаў кітайскай паэзіі «Пад крыламі Дракона. 100 паэтаў Кітая», якая выйшла летась у Выдавецкім доме «Звязда». Шчаслівы лаўрэат пагутарыў з карэспандэнтам «ЛіМа».

**— Галоўнае пытанне: чаму менавіта кітайская паэзія?**

— Ведаеце, мы доўга глядзелі на Еўропу і пераканаліся, што там у творчасці пануе фармалізм. І мне хацелася знайсці процівагу. Таму я «рынуўся на Усход». Перш-наперш гэта Таджыкістан, Казахстан, Індыя. Ведаў я і паэзію Японіі, вельмі сімвалічную, і на той час думаў, што і паэзія Кітая такая ж. Ужо ў сталым узросце адкрыў для сябе адно: кітайская паэзія надзвычай рэалістычная. Яна належыць цывілізацыі, якая мае свой неперарыўны цыкл развіцця. Многія цывілізацыі сціраліся, забываліся, драбнелі, а кітайская — толькі вырастала, і мяне зацікавіла: чаму? Што ў ёй было такога адметнага? А паспрыялі гэтаму кітайская паэзія, філасофія, потым ужо — медыцына і, урэшце, эканоміка, якая расце на падмурку вялікага духоўнага пачатку.

Я думаў, што мая перакладчыцкая справа скончыцца двума-трыма публікацыямі ў часопісе «Полымя». Але потым, калі я адшукаў усе пераклады, рускія і беларускія, і азнаёміўся з імі, — адкрыў для сябе вялізныя абсяг і глыбіню. Кітайскай паэзіі 24 стагоддзі! Розуму непадуладна ўявіць такое. Узяць, прыкладам, шумераў. Так, мы пра іх ведаем, але як пра гістарычны факт. А паэзію Кітая ўспрымаем як жывую.

Заканчэнне чытайце на стар. 2

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

### Палажэнне аб літаратурным конкурсе Саюза пісьменнікаў Беларусі, прысвечаным 70-годдзю вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў

У 2014 годдзе наша краіна будзе святкаваць знамянальную дату: 70-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У мэтах пераемнасці традыцый беларускай літаратуры ў адлюстраванні тэмы Вялікай Айчыннай вайны, мастацкага прачытання новых і малавядомых старонак барацьбы нашага народа з ворагам, праслаўлення мужнасці і геразму савецкіх воінаў і партызанаў Саюз пісьменнікаў Беларусі пры ўдзеле Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь аб'яўляе літаратурны конкурс у наступных намінацыях:

I. Вялікая проза. Раман, аповесць.
II. Малая проза. Апавяданні.
III. Паэзія. Паэмы. Падборка вершаў.
IV. Дакументальная проза. Нарысы пра малавядомыя старонкі вайны.
V. Драматургія. Шматактовыя п'есы, інсцэніроўкі.
VI. Песенны жанр.
VII. Асобны прыз выдавецтву-папулярызатару патрыятычнай літаратуры.

Тэрміны конкурсу — з 1 студзеня 2014 года па 1 чэрвеня 2014 года. Творы просім дасылаць на адрас:

220034 г. Мінск, вул. Фрунзэ, 5,
Саюз пісьменнікаў Беларусі (на конкурс «70-годдзе вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў»).

Кантактныя тэлефоны:
(017) 392 59 05,
(017) 392 59 04.

Творы патрэбна падаваць у надрукаваным выглядзе, у адным экзэмпляры. Пасля падвядзення вынікаў конкурсу членамі журы ў складзе сямі чалавек пераможцам у чэрвені 2014 года будуць уручаны дыпломы СПБ і грашовыя прэміі. Творы пераможцаў будуць рэкамендаваны часопісам і рэдакцыям газет, тэатрам. Спадзяёмся на актыўны ўдзел у конкурсе нашых пісьменнікаў, прадстаўнікоў розных творчых саюзаў.

Жадаем поспехаў і натхнення.

**Арганізацыйны камітэт літаратурнага конкурсу**

# Аналітычны пленум

Адбыўся штогадовы справаздачны пленум Саюза пісьменнікаў Беларусі. «Год быў напружаны, — зазначыў кіраўнік арганізацыі Мікалай Чаргінец, — але ўсё ж дазволіў вырашаць праблемы, якія стаяць перад літаратарамі».



Фота Кастуся Дробава

Яны датычаць, перадусім, шляхоў, якімі сучасны творца ідзе да чытача. Менавіта дзеля гэтага ствараўся ў 1934 годзе, на I з'ездзе беларускіх пісьменнікаў, Саюз, пераемнікам якога з'яўляецца сучасны СПБ.

Па-першае, ён гарантуе «маральную бяспеку» творцы: выданні, прызнанне, узнагароды — ініцыятывы Саюза. Пісьменніку патрэбны водгалас, адказ. У рэчышчы такога дыялогу з грамадствам напрыканцы 2013 года адбыліся дзве выбітныя падзеі: віншаванне 90-гадовага ветэрана Вялікай Айчыннай вайны пісьменніка Алеся Савіцкага Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь і атрыманне Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта паэтам Міколам Мятліцкім за пераклад кнігі «Пад крыламі Дракона. 100 паэтаў Кітая». Прызнанне на дзяржаўным узроўні атрымала Т. Краснова-Гусачэнка — пісьменніца з Віцебска ўзнагароджаная Ганаровай граматай Савета Міністраў. За вялікі ўклад у літаратуру калегі-паплечнікі адзначылі В. Праўдзіна, М. Башлакова, П. Саковіча, В. Грышкаўца — яны атрымалі адпаведныя медалі.

Што да літаратурных выданняў (за 9 месяцаў 2013 года іх было каля 180), старшыня Саюза М. Чаргінец нагадаў пра неабходнасць умяшальніцтва творцаў у справу распаўсюджвання сваіх кніг. Кірункаў працы тут хапае. Адносна ўжо наяўных накладаў незапатрабаваных кніг варта непасрэдна ў кнігарнях запланаваць сустрэчы з чытачамі. Вядома, яны хутчэй набудуць кнігу, калі будуць дакладна ведаць, што за чалавек яе напісаў, пра што яна. Калі тое, што скажа на сустрэчы пісьменнік, знойдзе водгук у чытача, апошні, натуральна, захоча ўбачыць гэта ў мастацкай інтэрпрэтацыі.

Другі кірунак дыялогу з грамадствам — сустрэчы з мэтавай аўдыторыяй: школьнікамі, студэнтамі, чытачамі бібліятэк. Бракуе ўвагі працоўнай моладзі і навучэнцам сярэдніх спецыяльных устаноў. Гэта падкрэслівалі і старшыні абласных пісьменніцкіх арганізацый. М. Чаргінец адзначыў, што нарэшце маюцца ўсе ўмовы (уласны транспарт, папярэдняя практыка вандровак па рэгіёнах) дзеля ахопу літаральна ўсёй тэрыторыі краіны творчымі рэйдамі. Гэта духоўна ўзбагачае не толькі бок, які прымае, але і пісьменніка-«вандроўніка». Старшыня нават унёс прапанову выдаваць за дзяржаўны кошт — у ліку сацыяльна значных кніг — набыткі менавіта такіх творцаў.

Яшчэ адзін варты бок дзейнасці СПБ — падтрымка таленавітых маладых літаратараў. Паэтэсе Марыі Маліноўскай выдадзена накіраванне ў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага. Па ўсёй краіне дзейнічаюць літаратурныя студыі, гурткі, над якімі апякуюцца прафесійныя літаратары, — пра гэта падрабязна распавядалі прадстаўнікі абласных аддзяленняў СПБ падчас сваіх справаздачных выступленняў.

Надзвычайная місія творчага аб'яднання — міжнародныя сувязі. Дзякуючы ім нацыянальная літаратура мусіць стань часткай літаратуры сусветнай. Летась падпісана больш як 20 дамоў аб умацаванні сувязей паміж літаратурнымі саюзамі — у тым ліку такіх аддаленых краін, як Куба, Кітай, Азербайджан, Казахстан і інш. Нязменным застаецца літаратурны дыялог з Расіяй — на яго працуюць штогод «беларускія» нумары «Нашего современника» і «рускія» нумары «Нёмана», а таксама часопіс «Белая вежа», які пабачыў свет у абноўленым выглядзе.

М. Чаргінец не абмінуў увагай Мінскую міжнародную кніжную выстаўку-кірмаш, якая мае адбыцца з 5 па 9 лютага. Да яе плануецца арганізацыя спецыяльнага стэнда твораў беларускіх пісьменнікаў, іх сустрэчы з чытацкай аўдыторыяй — на гэтым кніжным форуме яна беспрэцэдэнтна вялікая.

**Лея ХАШЫМБА**

# З падарункамі!



Днямі Саюз пісьменнікаў Беларусі правёў дабрачынную калядную акцыю ў падтрымку цяжкахворых дзяцей. Адразу два пульманалагічныя аддзяленні — Мінскай абласной дзіцячай бальніцы і Мінскага абласнога супрацьтуберкулёзнага дыспансера — атрымалі ў падарунак друкаваныя выданні: больш як сто кніг і часопісаў.

Акрамя гэтага, ад імя СПБ сакратар грамадскай арганізацыі Георгій Марчук і старшыня Мінскага гарадскога аддзялення Міхась Пазнякоў уручылі юным пацыентам каштоўныя падарункі — шырокафарматныя лічбавыя тэлевізары.

Дэлегацыю пісьменнікаў сустракалі галоўныя ўрачы медыцынскіх устаноў Генадзь Гурэвіч і Дзмітрый Зайцаў. У пакоі адпачынку яшчэ зіхацела святочным убраннем прыгажуня-ёлка. Менавіта тут і прайшла сустрэча з дзецьмі, хворымі на сухоты. Пісьменнікаў вельмі чакалі, з некаторымі творамі Георгія Марчука і Міхася Пазнякова хлопчыкі і дзяўчынкі былі ўжо знаёмы — праходзілі па школьнай праграме.

Літаратары падзяліліся ўласнымі ўспамінамі з часоў дзяцінства і юнацтва, адказалі на шматлікія пытанні. Паэтэса Іна Фралова, якая таксама ўваходзіла ў склад творчай дэлегацыі, пажадала юным пацыентам хуткага выздараўлення і добрага настрою.

Багата ўдзячных слоў творцамі было выказана ў адрас медыцынскага персаналу.

**Ганна СТАРАДУБ,**
**фота аўтара**

# Расінкі на пялёстках лотаса

**Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.**

**— Вы абралі менавіта 100 паэтаў. Разумею, што лічба выглядае прыгожа, але ці не ўзнікала складанасцей з выбарам аўтараў?**

— Лічба не толькі прыгожая, але і сімвалічна насычаная. 100 ў Кітаі — лічба Сонца. Я хацеў прадэманстраваць узыход паэзіі Кітая. Прапусціўшы праз сэрца тысячы твораў, быў уражаны іх энергетыкай і неверагоднай сучаснасцю. Паэт, які жыў дзве тысячы гадоў таму, можа паказаць нам свой пакой, правесці пад сваім небам, у свой духоўны свет. І мяне парадавала, што тады жылі такія разумныя людзі, якія з такой павагай ставіліся да чалавечых каштоўнасцей. Нават больш — берaглі іх, стараліся перадаць будучым пакаленням. Не думаючы пра тое, што праз дваццаць стагоддзяў недзе ў Беларусі будзе сядзець Мікола Мятліцкі і думаць пра іх.

Так, Кітай стаіць на моцным духоўным падмурку і нават больш: я ўпэўнены, што ён будзе дамінаваць у духоўным плане ўва ўсім свеце. Ён навязвае свету духоўныя каштоўнасці, у адрозненне ад краін, скіраваных на іншае.

**— Хіба можна навязаць каштоўнасці?**

— Можна. Гэта вельмі проста робіцца. Краіны, у якіх багатая гісторыя, большая за тысячу гадоў, якія стварылі нацыянальны імідж дзякуючы многім высілкам і ахвярам, міжволі становяцца дамінантамі свету ў духоўных адносінах. Дарэчы, наша краіна адносіцца да такога ж тыпу. Гісторыя нашага развіцця напалову меншая за кітайскую, але і нашмат большая за гісторыю тых краін, якія сёння хочуць выступаць рупарамі пэўных ідэй.

**— Як вы думаеце, у кітайскай і беларускай паэзіі ёсць нешта агульнае?**

— Нават больш чым. У аснове кітайскай культуры таксама ляжыць вялікая прага да працы народа. Нашыя гісторыі — крывавыя, драматычныя, поўныя пераломаў — вельмі падобныя. Беларусь станавілася суцэльным папялішчам, але мы выстаялі, і ўсё дзякуючы духоўнай загартоўцы. Мы ніколі не гублялі сілы духу — як і кітайцы.

Я абіраў паэтаў розных эпох, каб паказаць рост паэзіі і разам з тым — што існуюць каштоўнасці вечныя. Вось цвіце лотас, квітнее ў сэрцы паэта. Паэт захоплены яго прыгажосцю, лічыць расінкі на яго пялёстках. І потым, праз тысячу год, я чытаю верш пра лотас і лічу тыя ж самыя расінкі!.. І ніводная з іх не страцілася. Краса засталася. Мне б хацелася, каб і ў нашага васілька не страцілася ні адна расінка прыгажосці. Вось дзеля чаго існуе паэзія. Гісторыя зафіксуе падзеі, паэзія ж — летапіс прыгажосці. Таму я вельмі раю пачытаць гэтую кнігу, каб паверыць, што сіла духу невычэрпная.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

Саюз пісьменнікаў Беларусі віншуе дырэктара выдавецтва «Чатыры чвэрці» Ліліяну Фёдараўну Анцух з высокай узнагародай — Каляднай прэміяй «Хрысціянскія традыцыі ў культуры і адукацыі» за 2013 год. Прэмія і памятны дыплом уручаны Міжнародным грамадскім аб'яднаннем «Хрысціянскі адукацыйны цэнтр імя св. Мяфодзія і Кірыла» «за асаблівы ўклад у справу хрысціянскай асветы і адукацыі, дбайнае служэнне Царкве Хрыстовай у справе выхавання моладзі, падтрымку лепшых традыцый беларускай культуры і выдавецкія праграмы 1994 — 2013 гадоў пад агульнай назвай "Нашы духоўныя каштоўнасці"».

Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі шчыра віншуе паэта, члена СПБ Міхаіла Паўлавіча Мамоньку з 85-годдзем, якое творца адзначыў 13 студзеня.

Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае 21 студзеня на творчы вечар паэтэсы Маргарыты Латышкевіч. Мерапрыемства адбудзецца ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Пачатак а 17-й гадзіне.

# Бабіцкае блаславенне

Вынік сумеснай працы Веткаўскага музея стараверства і беларускіх традыцый імя Ф. Р. Шклярава і Чачэрскага гісторыка-этнаграфічнага музея прадстаўлены на выстаўцы «Бог сялянскі, хрысціянскі. Бабіцкая ікона» ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.



Абраз «Каранаванне Багародзіцы».

Бабіцкі народны іканапіс — унікальная з'ява нацыянальнай культуры. Менавіта ў вёсцы Бабічы Чачэрскага раёна жылі і працавалі (яшчэ ў канцы ХХ ст.) апошнія майстры вядомай сялянскай дынастыі іканапісцаў — Уладзімір і Гаўрыіл Гераковы. Яны пісалі абразы як для мясцовых храмаў, так і для вяскоўцаў, якія верылі ў заступніцтва святых ад бяды, хваробы ды іншых нягод.

Захаваліся абразы, якімі бласлаўлялі маладых. Ёсць «гаючыя» іконы, а таксама тыя, што абаранялі хатніх жывёл. Першая згадка пра трох сялян-іканапісцаў «у вёсцы Бабічы Пакоцкай воласці Рагачоўскага павета» сустракаецца ў «Апісанні Магілёўскай губерні» за 1884 г. Гэтае ўнікальнае мастацтва перадавалі вучням. Сведчанне таму — подпіс на абразе «Троіца Новазапаветная» (1894). А калі былі паслядоўнікі, значыць, існавала і мастацкая школа.

На выстаўцы прадстаўлена 38 твораў на самыя розныя сюжэты. «Каранаванне Маці Божай» — абраз, які ўзыходзіць да «Песні песняў», «Псалтыра» і «Апакаліпсісу». У сакральным жывапісе сюжэт вядомы з XII ст. Свайго росквіту ён дасягнуў у культуры італьянскага рэнесансу. Многія заходнееўрапейскія майстры — ад Джота да Веласкеса — звярталіся да гэтай тэмы. Творчасць апошняга аказала найбольшы ўплыў на каталіцкі і ўніяцкі жывапіс Рэчы Паспалітай, у склад якой уваходзіла Чачэрскае староства. У абразах «Праабражэнне», «Цуд Георгія аб змii» бачныя ўжо рысы барока. Узорамі для мастакоў служылі гравюры з еўрапейскіх шэдэўраў і творы італьянскіх майстроў, якіх граф Захарый Чарнышоў, уладальнік Чачэрска ў XVIII ст., запрасіў для ўпрыгожвання заснаваных ім храмаў.

У бабіцкіх абразах арганічна спалучыліся заходнія ўплывы і глыбінная архаіка земляробчага ладу. Сёння ўнікальная рэгіянальная з'ява Гомельшчыны XIX — XX стст. стала своеасаблівым «брэндам» рэгіёна.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Праўдзівыя гісторыі для дзяцей




*Бунт в Числяндии: сказки: для детей млад. и сред. шк. возраста / сост. Эмилия Луканская. — Минск: Издательский дом «Звязда», 2014. — 64 с.: ил.*

Новы, 2014, год яшчэ толькі набірае свой разгон. А ўжо да чытача прыходзяць кніжныя навінкі з пазнакай «2014»… Адна з іх — зборнік казак «Бунт в Числяндии». Пад адной вокладкай сабраны творы, якія напісалі дарослыя і дзеці. Папярэдне яны былі надрукаваны ў часопісе «Качели», якому, між іншым, споўнілася 15 гадоў. Укладальнік кнігі — Эмілія Пятроўна Луканская. Сярод аўтараў — Ганна Лось, Ганна Цар, Аліса Крот, Уладзімір Жукоўскі, Кацярына Давыдзюк, Вольга Андрушова, Максім Кастылёў, Ліза Ліпай, Каця Дударчык, Люба Радкевіч, Галіна Сямёнава, Віктар Рашкевіч, Дзяніс Глебаў, Дзіма Андрыеўскі, Ніна Сакалова, Марына Бабарыка, Аляксандр Козел, Віталь Маліноўскі, Таццяна Кудраўцава, Наталля Саветная. Дарослыя і дзеці зазірнулі ў свет фантазій і мар, паспрабавалі праз казкі пагаварыць пра добра і зло. Як у каго атрымалася — меркаваць чытачам. Найперш — самым юным, малодшым школьнікам, каму і адрасавана кніга.

Кніга «Бунт в Числяндии» звяртае ўвагу дасведчанага чытача на два істотныя моманты. Першы. Ёсць патрэба ў выданні зборнікаў, дзе была б прадстаўлена дзіцячая літаратурная творчасць. Такія кнігі развіваюць мастацкую ініцыятыву, спрыяюць уваходжанню ў літаратуру новых сіл. Другі істотны момант. У Беларусі — шырокая палітра дзіцячых мас-медыя. І раней была запачаткавана традыцыя выдання зборнікаў, якія падсумоўвалі лепшыя публікацыі «Вясёлкі», «Бярозкі» за пэўны адрэзак часу. Спадзёмся, што з'явяцца такія кнігі і па матэрыялах публікацый іншых часопісаў.

**Сяргей ТУРЫНСКІ**

# Лапік да лапіка…

Ці ведаеце вы, што такое пэчворк? А квілцінг? Своеасаблівы кірунак лапікавага шыцця мае мноства назваў. Убачыць дэкаратыўныя пано і падушкі, якія мастак Уладзімір Цельных (г. Курск, Расія) вырабіў у тэхніцы пэчворк, можна на выстаўцы, што праходзіць у выставачнай зале палаца Румянцавых і Паскевічаў.

Тэхніка лапікавага шыцця з'явілася, можна сказаць, на світанку цывілізацый, прычым з практычных меркаванняў — ва ўмовах вострага недахопу тканін даводзілася эканоміць на кожным кавалачку... Зразумела, і цяпер існуе мноства лапікавых вырабаў, якія носяць выключна прыкладны характар. Але ёсць і такія, што па праве могуць называцца творамі мастацтва, — яркія, індывідуальныя, непаўторныя рэчы.

Уладзімір Цельных — чалавек шырокіх інтарэсаў, надзелены тонкім мастацкім густам і прыродным пачуццём прыгожага, з ранніх гадоў пачаў праяўляць цікавасць да творчасці. Ландшафтны дызайн, дызайн касцюма, мастацкая фатаграфія, разьба па дрэве — разнастайнасць напрамкаў, у якіх працуе майстар, уражвае. Яшчэ мацней уражвае ўзровень, якога дасягнуў мастак у сваіх творах, няхай гэта будзе карункавая разьба па дрэве або стыльныя пано ў тэхніцы пэчворк. Нядзіўна, што працы Уладзіміра Цельных высока цэняцца не толькі на радзіме, але і далёка за яе межамі.

Цяпер і беларускія аматары прыгожага могуць на свае вочы пераканацца, як з кавалачкаў рознакаляровых тканін, махры, тасьмы і караляў ствараюць шэдэўры, здольныя змяняць штодзённасць, дарыць прыгажосць і гармонію.

**Таццяна ЛАНКОЎСКАЯ**

*Імпрэзы*

# Спявае камерны

Чырвоны Касцёл Св. Сымона і Св. Алены запрашае сёння а 18-й гадзіне на калядны канцэрт «JubilateDeo».

Цуд Раства дорыць нам надзею і ўпэўненасць у жыцці. І калі не ўсё атрымліваецца, успомніце, што ёсць месцы, дзе вас заўсёды любяць і чакаюць.

Падчас канцэрта ў выкананні знакамітага калектыву — Дзяржаўнага камернага хору Рэспублікі Беларусь пад кіраўніцтвам заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Наталлі Міхайлавай — прагучаць калядныя песні, вядомыя творы заходняй духоўнай класікі, польскія і беларускія спевы, рамансы.

Вядомы беларускі калектыў працуе ва ўсіх вакальных жанрах — ад оперы і кантаты да джаза і эстраднай песні. Артысты хору супрацоўнічалі са знакамітымі дырыжорамі і аркестрамі Беларусі ды замежжа, але асноўным напрамкам дзейнасці калектыву застаецца спеў а капэла, які прадугледжвае адсутнасць інструментальнага суправаджэння, што з'яўляецца найбольш складаным відам ансамблевых спеваў.

У каталіцкай традыцыі калядкі спяваюцца падчас свята Раства Хрыстова аж да свята Ахвяравання Пана (Маці Божай Грамнічнай), якое адзначаецца 2 лютага.

**Святлана СТРОК**

# Імя лялькі

Сталічны Музей сучаснага выяўленчага мастацтва запрашае ў «дом лялек». Беларуская мастачка Ганна Балаш прадставіла шырокай публіцы візуальны праект «Мадэль Ані».

У інсталяцыю ўвайшло больш як 50 жывапісных і графічных работ, а таксама каля двух дзясяткаў аўтарскіх лялек. На палотнах Ганны Балаш — казкі, якія стварае яна сама.

У мастачкі на ўсё свой погляд: «Мне не цікава рабіць лялькі, мне цікава знітоўваць гісторыі. Мне не цікава маляваць казкі, мне цікава называць рэчы маімі імёнамі».

У гэтых чароўных ляльках і маляваных героях — сама мастачка. Такі вось своеасаблівы аўтограф.

**Таццяна ШЫМУК**



*«Кажан», 2013 г.*

*Абрысы*

Беларускі дзяржаўны музей народнай архітэктуры і побыту запрашае дзяцей і дарослых на мерапрыемства «Провады Каляды», якое будзе ладзіцца заўтра з 13.00 да 15.00. Падчас музейных святаў наведвальнікаў традыцыйна знаёмяць з унікальнымі абрадамі краіны. Сёлета прэзентуецца абрад «Цягнуць Каляду на дуба», які завяршаў святочныя гулянні ў вёсцы Новіны Бярэзінскага раёна і быў адроджаны ў 1998 г. Абрад унесены ў Дзяржаўны спіс нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны Беларусі. Акрамя таго, у музеі можна будзе пазнаёміцца з новай экспазіцыяй «Капліца з вёскі Каралеўцы Вілейскага раёна» — унікальным помнікам XVIII ст.

Новая выстаўка пад назваю «Можна спрычыніцца да красы» адкрылася ў музеі Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. Экспазіцыя знаёміць наведвальнікаў з аўтарскімі работамі Алены Ціханчук, выкананымі ў тэхніцы аб'ёмнага вязання кручком. Мастачку з дзяцінства акружалі сурвэткі, карціны, па-майстэрску вышытыя матчынымі рукамі. Кветкавыя кампазіцыі А. Ціханчук стварае ўжо больш як 20 гадоў. А яшчэ Алена Уладзіміраўна піша вершы. Іх тэксты таксама прадстаўлены на стэндах выстаўкі.

Прыём заявак на ўдзел у Міжнародным фестывалі студэнцкіх тэатраў «Тэатральны куфар-2014» пачаў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Запоўніць анкету на сайце фэсту да 1 красавіка можа любы маладзёжны калектыў. Свята праводзіцца з 2004 года. Мэта — падтрымка міжнароднага маладзёжнага фестывальнага руху і папулярызацыя аматарскай творчасці. У 2012-м за высокую арганізацыйную культуру «Тэатральны куфар БДУ» быў узнагароджаны срэбным медалём прафесійнага конкурсу «Брэнд года».

Заўтра ў Нацыянальным акадэмічным Вялікім тэатры оперы і балета Рэспублікі Беларусь адбудзецца выстаўка аднаго вечара, на якой будуць экспанавацца іконы і царкоўныя ўборы XVII — XVIII стст. з фондаў Музея старажытнабеларускай культуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Дэманстрацыя рарытэтных экспанатаў прымеркавана да паказу оперы «Хаваншчына» Мадэста Мусаргскага. Народная музычная драма — перыяд стралецкага паўстання і царкоўнага расколу — з'яўляецца адной з жамчужын творчасці кампазітара. Змест экспазіцыі перагукаецца з тэматыкай спектакля, дазваляючы бліжэй пазнаёміцца з падзеямі канца XVII стагоддзя, апісанымі ў оперы «Хаваншчына».

## Віктар ШНІП



### Бацькоўскія вазоны

*Ужо няма болей вазонаў у хаце,*
*Нібыта забралі іх бацька і маці*
*З сабой у той свет, каб у хаце яны*
*Не ссохлі ў самоце і ў горы адны.*
*Здаецца, яшчэ яны ўчора былі*
*І нават зімой больш, чым летам, цвілі,*
*І ў хаце штодзённа святочна было,*
*І хто ні прыходзіў —*
*казаў пра цяпло,*
*Якое ішло ад вазонаў зімой.*
*Няма больш вазонаў і ў хаце старой,*
*Нібыта ў скляпенні,*
*сцюдзёна і змрок.*
*Гляджу: дзе вазоны былі, павучок*
*Прадзе павуціну, як белую кветку*
*Стварае, якая цвіла тут улетку,*
*Калі яшчэ ў хаце вазоны раслі,*
*Калі яшчэ бацька і маці жылі.*
*Жыві, павучок,*
*ты цяпер мне радня,*
*Бо гэткі ж малы без бацькоў сёння я…*

***

*Калаўрот на гарышчы — я чую — рыпіць,*
*Там нябачную воўну прадзе мая мама.*
*Каля мамы нябачнай мой бацька стаіць,*
*Ён ужо цэлы год, як нябачны таксама.*
*Але бачу я іх, мяне бачаць яны,*
*І на змрочным гарышчы мне*
*добра і светла.*
*І бязбожнай самоты маёй груганы*
*Адляцелі цяпер ад мяне на край лета,*
*На якім сядзіць восень, фарбуе лісцё,*
*Каб засыпаць прыгожым у вёску дарогу,*
*У якой я жыццё адчуваю жыццём*
*І за гэта бацькам я ўдзячны і Богу.*
*І няхай калаўрот на гарышчы рыпіць,*
*Хай нябачную воўну прадзе мая мама,*
*І каго я люблю — буду вечна любіць,*
*А каго не любіў —*
*палюблю тых таксама…*

***

*Насценны гадзіннік,*
*як сэрца бацькоўскае хаты,*
*Прыехаўшы ў вёску дамоў,*
*кожны раз запускаю,*
*І хата ізноў ажывае, і дыхае святам,*
*Якое яна, як калісьці бацькі, тут стварае,*
*Пакуль б'ецца сэрца яе,*
*што ў гадзінніку ў хаце*
*Жыве адзінока, і веру — яшчэ будзе біцца.*
*І ходзяць па хаце нябачныя бацька і маці,*
*Балюча рыпяць пад нагамі*
*ў бацькоў палавіцы.*
*І я не магу тут спакойна сядзець, нібы муха,*
*Што ў хату бацькоўскую следам*
*за мной заляцела.*
*І буду з малітвай*
*бацькоўскія крокі я слухаць,*
*Пакуль на двары*
*і ў душы маёй не развіднела.*
*І вёску сваю, хоць у ёй не жыву,*
*я не страціў,*
*Мне доўга таксама*
*для вёскі маёй не згубіцца,*
*Бо ходзяць па хаце нябачныя бацька і маці,*
*Балюча рыпяць*
*пад нагамі ў бацькоў палавіцы…*

***

*З зімы табурэткі стаяць ля вакна.*
*На іх не саджуся —*
*мінулай зімой*
*Тут на табурэтках стаяла труна,*
*Стаяла труна, дзе ляжаў бацька мой.*
*Ён сам табурэткі на кухню купляў,*
*Каб дзеці сядзелі за поўным сталом.*
*Не проста купляў, а глядзеў-выбіраў,*
*Нібыта ён думаў не толькі пра дом,*
*Але й пра дарогу сваю на клады,*
*Дзе нашы вяскоўцы і родныя спяць.*
*Стаяць табурэткі ў чаканні бяды.*
*Бяда ўжо была. Табурэткі стаяць…*

### Паштовая скрынка

*Паштовая скрынка, як плачу сцяна,*
*Ужо другі год, як сумуе яна,*
*І я перад ёй, нібы грэшнік, стаю,*
*Што раптам забыўся малітву сваю,*
*Якая цяпер у яго ўжо адна*
*За маці і бацьку, яшчэ — каб вясна*
*Прыйшла ў родны край*
*найхутчэй назаўжды…*
*Паштовая скрынка чакае лісты,*
*Якіх больш не будзе. Каму тут пісаць?*
*Паштовыя скрынкі, як труны, вісяць*
*Ля хат апусцелых на рэштках платоў…*
*І я вось, як прывід, прыехаў дамоў.*
*Адзін у паштовую скрынку гляджу,*
*А там — павуціна і слёзы дажджу…*

***

*У печы схаладалай павуціна,*
*быццам белы дым,*
*Які, калі бацькі памерлі,*
*стаў таксама нежывым.*
*І попел у чаканні ветру*
*скамянеў за тры гады*
*І ўжо не помніць ён,*
*калі агонь рабіўся залаты*
*Душою печы,*
*і святлела ў хаце і ў маёй душы,*
*А за вакном то дробны снег ішоў,*
*то воўчыя дажджы,*
*І дома ўсе былі, глядзелі на агонь,*
*які, як Бог,*
*Заўсёды гаварыў нам пра любоў,*
*ды ўсё сказаць не мог.*
*Цяпер адзін у печ, дзе павуціна,*
*нібы дым, гляджу,*
*Не чуючы ні грому за вакном,*
*ні весняга дажджу…*

***

*Перад зімой замкнуты бацькам хлеў,*
*Які ўжо год ніхто не адмыкаў.*
*І ад хлява дзесь ключ заіржавеў,*
*Бо не знайшоў я ключ, хоць і шукаў*
*У тых шуфлядах, на паліцах тых,*
*Дзе бацька вечна пакідаў ключы,*
*Сярод якіх хапала залатых.*
*Калі я быў малы, і я ўначы*
*Іх браў, і дзверы ў казку адмыкаў,*
*І верыў, што прыдуманае мной*
*Сапраўднае, як сонца, як рака,*
*Як маці з бацькам, што пайшлі зімой*
*У свет, дзе не патрэбна замыкаць*
*Ні хлеў, ні хату, бо няма ключоў,*
*А ёсць Надзея, Вера і Любоў,*
*Якіх не трэба ад людзей хаваць…*


Фота Кастуся Дробава

## Дзмітрый ПЯТРОВІЧ



***

*Мой неспакой*
*малюе дождж начны*
*На чорным, з лісцем,*
*восеньскім асфальце.*
*Нібыта след*
*ад дзённай гаманы,*
*Шум колаў —*
*як вада скрозь пальцы*
*Пральецца —*
*і замоўкне далячынь,*
*Зноў мінскіх вуліц*
*чуецца дыханне.*
*…Вось дождж сціхае.*
*Трэба на спачын,*
*Бо з новым днём*
*так хутка на спатканне…*

***

*Ад ліхтароў*
*працята болем цемра.*
*І ўздыхаў горада начнога не пачуць.*
*І толькі ледзь улоўны подых ветру*
*Пераплятаецца*
*з крупінкамі дажджу.*

*А той ідзе ў святле ліхтарным спорна.*
*Ў бязгучны гэтым замірае час.*
*І навальніцы будучай валторны*
*Рыхтуюць свой нябесны кантраданс…*

***

*Ты помніш*
*язмінавы водар кахання*
*У нашых Пралесках,*
*ад спёкі стамлёных?*
*Смак вуснаў асмяглых тваіх…*
*Аж да рання*
*Шаптаў табе словы,*
*душой ухвалёныя.*
*І пошчак салоўкі,*
*нібы прадказанне,*
*У сэрцы гучаў,*
*бессаромна-шчаслівым…*
*…Адцвіў мой язмін —*
*як і гэта каханне,*
*Чый лёс — нібы птушкі*
*гаротна-бяскрылай…*

***

*Зімовая панурасць.*
*Нечаканне*
*Чагосьці лепшага,*
*чым гэты першы снег:*
*Спыніць не можа час,*
*на жаль, свой бег —*
*Калісьці з вечнасцю*
*адбудзецца спатканне.*
*Пакуль жывём сягоння.*
*І аднойчы*
*Нябёсы нам падораць цішыню,*
*Падзякаваць каб сонечнаму дню*
*І… згаснуць потым*
*у адхланні ночы…*

***

*Пульсуе час…*
*Напружанае заўтра*
*Чамусьці разбурае мой спакой.*
*І колаў шоргат з восеньскім асфальтам*
*Ірве цішынь.*
*І быццам талакой*
*Струменяць галасы начных прахожых,*
*Нібыта па каменьчыках вада.*
*Сціхаюць і яны…*
*І асцярожна*
*Тралейбус джаз зайграў на правадах.*
*Мо сапраўды то голас быў Сінатры?*
*Ці гэта восень нагадала мне,*
*Што хутка поўнач,*
*спіць мой Мінск*
*і заўтра*
*Ён стрэне у салодка-юным сне?..*

***

*Радзіма кліча: «Прыязджай, сынок!*
*Чакае дом цябе бацькоўскі, сад і гоні,*
*І малады, падрослы ўжо дубок,*
*Які адчуў калісь цяпло тваіх далоняў;*
*Заслаўскі луг з высокаю травой,*
*Чарнушка-рэчка ля якога ўецца…»*
*Маё Заслаўе, я заўжды з табой…*
*Жыві, квітней ты — горад майго сэрца!*



## Убачанае і перажытае

Творчая палітра пісьменніка Васіля Найдзіна надзвычай шырокая і шматгранная. Яна ахоплівае ўсе сферы сучаснага грамадства: вытворчую, навуковую, культурную, спартыўную — такі аўтарскі абсяг. Пра гэта яскрава сведчаць яго апавяданні, навелы, фельетоны, эсэ ў перыядычным друку і асобныя зборнікі яго твораў.

У Бялыніцкім раёне на Магілёўшчыне ў вёсцы з лірычнай назвай Бярозаўка ў 1944 годзе нарадзіўся вясёлы чалавек, які дзякуючы дараванаму Богам таленту адкрыў для чытача шмат цікавага і пазнавальнага ў вобразах і характарах сваіх герояў.

У творчасці В. Найдзіна выразна гучыць шчырая і непаўторная, зусім не сумная, сімфонія нашага сучаснага жыцця — імклівага, напорыстага, часам супярэчлівага і складанага. Жыццёвыя з'явы, вобразы і характары, псіхалогію сваіх герояў аўтар надзвычай удала падсвечвае яркімі сатырычнымі фарбамі.

Да свайго 70-годдзя творца падышоў з важкімі здабыткамі.

**Іван КАНАНОВІЧ**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае 3 лютага на юбілейны творчы вечар пісьменніка-гумарыста Васіля Найдзіна. Мерапрыемства адбудзецца ў вялікай зале Дома літаратара. Удзел бяруць вядомыя артысты і пісьменнікі.**

**Пачатак у 18.30. Уваход вольны.**

# Васіль Найдзін

*Апавяданні*

## Пісьмо з вострава

Паплавок вуды танцаваў на вадзе. Нават у гэтым заўсёды зацішным месцы рачныя хвалі бесперапынна ўтваралі халодныя вадзяныя ўзоры. Вецер зноў і зноў перарабляў іх на свой лад-манер і гнаў да берага.

Быў канец верасня.

Здавалася, вецер хацеў пералічыць на дрэвах і кустах усё лісце. І не мог змірыцца, што яго яшчэ так многа. Лісце разляталася ва ўсе бакі, блыталася ў пажоўклай калючай траве і ляцела далей. А падаючы ў ваду, адразу рабілася нейкім бездапаможным і непрывабным.

Рыба не бралася. У поліэтыленавым вядзерцы пляскаліся два маленькія акунькі.

Ды хто ў такое надвор'е рыбачыць?!. Мабыць, толькі той, хто любіць адзіноту.

Я выцягнуў вуду, зняў з кручка чарвяка — ён быў халодны і нерухомы — і кінуў у свінцовую ваду.

У сонечнае надвор'е дно ў гэтым месцы праглядалася да самай сярэдзіны ракі. Цяпер жа і ля самага берага была адна цёмная таямнічасць вады. Відаць, нясаладка там усяму жывому…

Асцярожна спусціўшыся з берага ўніз, я выпусціў на волю акунькоў. Рассунуў траву, каб памыць рукі. І тут убачыў бутэльку. Спачатку прыцягнулі ўвагу выкрундзелістыя яе формы. Чаго не зробіш для рэкламы пітва… Здаецца, бутэлька была пустая. Але чаму заліты сургучом корак?

Трымаючыся адной рукой за лазіну, дацягнуўся да бутэлькі і выкінуў яе на бераг.

Праз ружаватае шкло на дне бутэлькі віднеўся невялікі акуратны скрутачак. Ён мяне зацікавіў. Адразу ўспомніліся шматлікія гісторыі з бутэлькамі-вандроўніцамі, якія дзесяцігоддзямі і нават стагоддзямі захоўвалі вялікія і малыя чалавечыя тайны. А раптам...

Акуратна адкаркоўваць бутэльку не было сэнсу, ды і прылад патрэбных не было, і я ў бліжэйшым кусце разбіў знаходку.

Скрутачак быў абцягнуты шчыльнай паперай і перавязаны шаўковай ніткай. Хутка я ўжо трымаў у руках два невялікія пажоўклыя аркушы паперы. Разборлівы машынапісны тэкст чытаўся без цяжкасцей:

*«Таму, хто знойдзе гэтую бутэльку і ў чые рукі трапіць пісьмо.*

*Дзякую!*

*Не ведаю, хто Вы такі. Мабыць, вас нават некалькі. Але і ў гэтым выпадку вы адзіныя на зямлі людзі, якім я давяраю сваю тайну.*

*Упэўнены, вы таксама калісьці кахалі і марылі. І вельмі чакалі таго моманту, калі ступіце на свой — і толькі ваш — таямнічы востраў.*

*У жыцці кожнага чалавека заўжды ёсць перыяд, калі такі востраў яму неабходны. Як вада, як паветра. І абавязкова: нікім яшчэ не адкрыты, не разведаны, а таму прыцягальны. І ў вашым уяўленні — самы цудоўны.*

*Я таксама сустрэў, ступіў… Але на які востраў — даю вам магчымасць ведаць…»*

У той пахмурны восеньскі дзень, прачытаўшы некалькі разоў гэта пісьмо, я вырашыў нікому пра яго не расказваць. У кагосьці там асабістыя праблемы — хандра, разгубленасць. Жыццё паставіць усё на свае месцы, загояцца душэўныя раны.

Так і ляжала пісьмо некалькі гадоў у «надзейным» месцы — маім пісьмовым стале.

А нядаўна, праводзячы там рэвізію і разбіраючы розныя паперы, наткнуўся на два пажоўклыя аркушы… Успомнілася няўдалая рыбалка, золкае надвор'е і далёкі-далёкі «востраў». Неяк па-іншаму чыталіся радкі. Ці то пражыты час зрабіў сваю справу, ці то настрой. Дык будзе несправядліва, калі пісьмо з «вострава» застанецца тайнай, з якой чалавек хацеў падзяліцца з людзьмі.

Чытаем.

«Караблік сярод караблёў — усё роўна карабель. Нам дрэнна і сумна без караблікаў…

І сваю ўласную, ні да чыёй іншай не падобную брыганціну кожны будуе з маленства. З дня ў дзень, з месяца ў месяц, з года ў год. Не выключэнне і я. І вось наступае момант — пара ў дарогу. Зямныя шляхі ўжо справа звыклая. А там — рух па хвалях.

Да пабачэння, зямля!

Брыганціна з беласнежнымі ветразямі ляціць па моры. Вакол — хвалі і вецер. Сонца і неба.

Наперад! Там — нязведанае, прыцягальнае…

Бясконцы прастор таксама зморвае.

Нарэшце — вунь ён, востраў! Хутчэй да яго. Адпачнеш і ты, мая брыганціна, дзякуй вам, пругкія ветразі і вецер. Мы не плылі, мы ляцелі. Насустрач мэце.

Прывітанне табе, незнаёмая зямля. Будзь ласкавая…

І вось ужо я раблю першы крок па ёй. Потым — другі… Бягу… І кідаюся на гарачы пясок, раскінуўшы рукі, прыціскаюся да яго не толькі целам, а і смяглымі губамі.

Мне хочацца зліцца з ім, маім востравам, стаць адзіным цэлым. Я — першы тут! І гэты пах пяску, пальмаў і ракавінак здаецца даражэйшым за ўсё на свеце. Ніхто яшчэ не ўдыхаў яго, ніхто ніколі не лашчыў так гэтую зямлю, не глядзеў на пальмы і не кратаў ракавінкі.

Я — першы!

ПЕР-ШЫ-Ы-Ы!!.

Я — Калумб! Я адкрыў сваю Амерыку, знайшоў свой востраў. Мне не трэба цяпер хісткая палуба карабля. Бывай, мора! Прабач, мая брыганціна. Табе не зразумець: няма на свеце нічога лепшага за зямлю, якая прыняла цябе, прыгрэла і прытуліла.

Цяпер маё усё гэта — пальмы, пясок і ракавінкі…

Новы ранак, новы дзень. Я крочу па сваім востраве.

І раптам, зрабіўшы сотню крокаў, я заўважыў сляды. Я ўбачыў іх на ўласныя вачы! Убачыў тое, што тут пакінуў мой папярэднік.

Быццам бы востраў шашкай з усяго маху секанулі па галаве. І я апынуўся ў свеце іншым, халодным і незразумелым.

Дык гэта ж не мой востраў! Я памыліўся…

Заплюшчыў на момант вочы, уявіў, як нехта той, другі, калісьці таксама радаваўся яму. Лашчыўся ў пяску, кратаў сваімі пальцамі ракавінкі, шукаў прахалоду ў цяні пальмаў.

Чый гэта востраў?! Толькі не мой...

І я памчаў да вады. Пабег да сваёй прыгажуні брыганціны з беласнежнымі ветразямі.

Пякучыя промні паўднёвага сонца і раптоўная нечаканасць кінулі ў ледзяны пот, пазбаўлялі паветра жыццёвай сілы, здавалася, выпальвалі мае сляды на пяску, пакуль тыя не схаваліся ў хвалях…

І тут я ўбачыў: бялюткія ветразі маёй брыганціны ўжо ледзь віднеюцца ўдалечыні. Іх усё больш і больш хаваюць хвалі.

Там — палуба, ветразі, надзеі…

Ніхто ўжо не дапаможа. Што было, тое здзейснілася.

Хто ведае, куды прыб'е хуткі мой карабель. Магчыма, зусім праглыне яго мора, і ляжаць яму на глыбокім дне. А мабыць, прыстане да сапраўды бязлюднага, не зведанага нікім вострава…

Я павярнуўся і пайшоў назад. Па сваім ужо навекі востраве.

Усё тут мне вядома і знаёма. І ўсё распісана наперад: апошні раз у жыцці буду бачыць сонца тут. І толькі тут, у апошні раз, гэты пах пяску, пальмаў і ракавінак адчуе маё сэрца, рыхтуючыся зрабіць апошні, развітальны, стук.

З павагай да ўсіх вас,
хто шукае свой востраў, — Я».

## Пацалунак

Праз яго і разгарэлася спрэчка. А спачатку ўсё ішло — лепш не прыдумаеш. І тое добра, і гэта правільна. Усё цікава і захапляльна.

Прыемна было глядзець на рэдактара, які чытаў маё новае апавяданне. Але неўзабаве на яго твары адбыліся трывожныя для мяне перамены.

Як толькі на другой старонцы мой герой Сцяпан цмокнуў Насцю ў аўтобусе, тут і пайшло:

— Першы раз? На людзях… Не паверу! У грамадскім транспарце, без падрыхтоўкі…

— Прабачце, — стаў апраўдвацца і ўдакладняць я. — Сцяпан яшчэ на прыпынку сказаў: «Насця! Я жыць без цябе не магу. Я кахаю цябе…» Насця ж яму: «Не веру!» Дык што было рабіць Сцяпану?

— Не ведаю, — рэдактар сурова звёў бровы і без патрэбы паправіў на носе свае вялікія акуляры. — Тут бы нейкі іншы паварроцік…

Як паважаючы сябе аўтар працягваю даказваць сваё:

— Дзе сапраўднае каханне, там нельга прадугледжваць ход падзей. Іншы раз закаханы можа выкінуць такога коніка, што вочы заплюшчыш, вушы заціснеш, уцячэш з таго месца… Ці ж вы не чулі пра выпадкі, калі кідаліся з моста ці з крутога берага ў рэчку. У новым адзенні і пры гальштуку. Калі ж выплывалі, траплялі прама ў абдымкі той, якая толькі што казала: «Не, ты мяне не кахаеш. А калі кахаеш — дакажы!» Сцяпан жа зрабіў што? Ды нічога дрэннага. Па парэнчах моста не хадзіў, з разбегу ў рэчку пры гальштуку не скакаў, на ўвесь квартал не крычаў: «Насця, я кахаю цябе!» Сцяпан проста шмыгнуў за сваёй абранніцай у аўтобус маркі «МАЗ» і толькі тады пацалаваў… Мабыць, першы раз у жыцці. Пры людзях. Тонка, далікатна так… Каб ніхто нічога не падумаў, давайце зараз дапішу: ён перад гэтым закампасціраваў два білеты…

Тут рэдактарскі худы кулак квёла ляснуў па стале. Я зразумеў: не дакажаш! Ніколі ў жыцці яго ніхто не пераканае ні ў чым. Такія самі сабе не дазваляюць цалаваць сваіх жонак дома, не гаворачы пра розныя віды транспарту.

— Вы мне лекцыю не чытайце, малады чалавек! — рэдактар яўна пайшоў у наступленне. — Будзе вам вядома, што ёсць ужо краіны, у якіх за пацалунак у грамадскім месцы адразу можна трапіць за краты…

— Месцаў у турмах не хопіць. На першым плане ў нас бандзюгі і зладзеі. Астатні народ няхай цалуецца-мілуецца ўволю. Мы ж і ў гэтай справе за апошні час у корані перабудаваліся. Разняволіліся.

— Далей ужо няма куды і без усялякай меры… На мінулым тыдні на цэнтральнай плошчы я сам малюначак бачыў. Прыліплі, значыць, адзін да аднаго два галубкі… Наколькі вы думаеце? Засёк я па сваім гадзінніку. На 39-й хвіліне толькі расклеіліся! Крыху перадыхнулі — і па новай…

— Цалавацца?

— Відаць, так. Але ж з гэтага ўсё і пачынаецца. І цудоўнае, і — наадварот. Так што давайце агульнымі намаганнямі тармазіць прапаганду вольнага кахання ўвогуле і падступаў да яго — у прыватнасці. Што я маю на ўвазе — вы разумееце.

Злёгку кіўнуўшы галавой, я папрасіў шклянку вады. Некалькі глыткоў яе, празрыстай і халоднай, патушылі дзесьці ўнутры пажар. А-а, думаю, буду яшчэ спрачацца з-за аднаго пацалунка… Дзе-небудзь далей па тэксце дадам пяток… Але, з іншага боку, пазбаўляцца і гэтага пацалунка шкада.

— Добра! — хітрую я. — Зраблю так, каб Сцяпана моцна сціснулі ў аўтобусе пасажыры і яго вусны самі наблізіліся да вуха каханай. Тады ён паўторыць словы, якія вы ўжо ўхвалілі. І — цмок у вуха!

— Ні ў якім разе! — рэдактар аж здрыгануўся. — Што гэта за работа — у вуха. Няхай пацалуе ў вусны. Толькі яшчэ на прыпынку. Сканцэнтруецца, прыцэліцца… І каб ліхтары не гарэлі. І ніводнага мне разявакі…

— Згодзен! — здаўся, нарэшце, я і памкнуўся ўзяць са стала рукапіс.

— А ўвогуле апавяданне мне спадабалася, — усміхнуўся рэдактар. І дадаў на развітанне: — У наступны нумар абавязкова пойдзе! Зрабіце толькі адпаведную праўку.

# Ад Платона — да Купалы

Беларускае акадэмічнае літаратуразнаўства... Гадоў сто таму гэты выраз успрымаўся б як штосьці немагчымае. Яго ўзнікненне адносіцца да легендарных дваццатых гадоў мінулага стагоддзя, калі адбывалася фарміраванне асноў беларускай дзяржаўнасці, калі ў маладой рэспубліцы паўсталі спачатку ўніверсітэт, а затым і Акадэмія навук, якая была ўтворана ў студзені 1929 года.
Менш чым за стагоддзе беларускае літаратуразнаўства пераўтварылася ў сур'ёзную навуковую, сапраўды акадэмічную, дысцыпліну. Вядучую ролю ў гэтым працэсе адыгралі даследчыкі літаратуры з Акадэміі навук, якая адзначае сваё 85-годдзе.

## НАЦЫЯНАЛЬНАЯ НАВУКА

Навуковыя ўстановы, у якіх ажыццяўляліся літаратуразнаўчыя даследаванні, называліся ў свой час па-рознаму. Асноўныя дасягненні былі здзейснены цягам многіх дзесяцігоддзяў пад шыльдай «Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы». На сучасным этапе даследчая праца ў галіне літаратуразнаўства паспяхова вядзецца ў аб'яднаным Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы, які ўваходзіць у склад Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

« **Характэрнай адметнасцю беларускага літаратуразнаўства і крытыкі з'яўляецца тое, што значны ўклад у іх зрабілі самі пісьменнікі. Сярод пачынальнікаў гэтай традыцыі варта апрача М. Багдановіча назваць М. Гарэцкага, аўтара першай «Гісторыі беларускай літаратуры», сярод прадаўжальнікаў — А. Адамовіча, В. Вольскага, У. Гніламёдава, А. Лойку, І. Навуменку, Р. Семашкевіча, М. Стральцова, Я. Чыквіна і інш.**

Літаратуразнаўства і лінгвістыка, як вядома, найбольш блізкія навуковыя дысцыпліны. Матэрыялам стварэння літаратурнага твора і асноўным сродкам мастацкага выражэння з'яўляецца слова. Хоць названыя дысцыпліны выкарыстоўваюць пры гэтым розныя падыходы, карыстаюцца адметнай даследчай метадалогіяй. І пэўнае супадзенне прадмета даследавання, і нават рознагалоссе ў падыходах да яго садзейнічаюць актыўнаму ўзаемадзеянню літаратуразнаўства і лінгвістыкі, узаемаўзбагачэнню іх навуковадаследчага патэнцыялу.

У наш час стала цалкам відавочным, што для паспяховага развіцця літаратуразнаўства немагчыма яго існаванне без узаемадзеяння з іншымі навуковымі дысцыплінамі, асабліва гуманітарнага профілю. Але не толькі гуманітарнага. Сённяшняя для ўсёй сучаснай навукі характэрна якасна новая ступень інтэграванасці яе асобных адгалінаванняў. І перш за ўсё яна выяўляецца ў феномене інтэрдысцыплінарнасці, то бок у перанясенні даследчых прынцыпаў, спецыфічнай тэрміналогіі адной навуковай дысцыпліны ў другую. Не заўсёды, безумоўна, гэта дае належны эфект. Надараюцца выпадкі, калі такія запазычанні маюць даволі павярхоўны характар, калі яны не выкліканыя глыбокай неабходнасцю, унутранай запатрабаванасцю. Аднак іх можна разглядаць як непазбежныя выдаткі ў цэлым пазітыўна скіраванага працэсу.

Акадэмічны статус беларускай літаратуразнаўчай навукі якраз дае магчымасць для яе больш цеснай паяднанасці з іншымі навуковымі дысцыплінамі і напрамкамі. Тут, у акадэмічным асяроддзі, здаўна існуе спрыяльная атмасфера для навуковага пошуку, творчага супрацоўніцтва, інфармацыйнага ўзаемаабмену, кааперыравання і каардынацыі даследаванняў. Паміж асобнымі навукамі вядзецца няспынны дыялог, як гэта і было калісьці прадугледжана яшчэ пры ўзнікненні першага праўобраза сучасных акадэмій — Платонавай Акадэміі.

Навука па сваёй прыродзе ў многім інтэрнацыянальны (наднацыянальны) від творчай дзейнасці чалавека. Гэта датычыць, хоць і ў меншай ступені, і гуманітарных дысцыплін, у якіх універсальнае своеасабліва пераплятаецца з нацыянальна адметным. Таму беларускае літаратуразнаўства, канцэнтруючыся на вывучэнні нацыянальнай літаратуры ва ўсіх яе праявах, разам з тым самым непасрэдным чынам спалучаецца з агульнай даследчай прастораў літаратуразнаўчай навукі, тэорыі і канцэпцыі якой маюць універсальнае значэнне. Сапраўды, асноўныя літаратуразнаўчыя паняцці і катэгорыі з аднолькавым поспехам прымяняюцца пры даследаванні ўсіх нацыянальных літаратур. Тэма і сюжэт, аўтар і герой, апавяданне і верш, сімвал і метафара і г. д. — падобныя паняцці не «вынаходзяцца» кожны раз знoўку прадстаўнікамі нацыянальных літаратуразнаўчых школ, а выкарыстоўваюцца ў патрэбнай сітуацыі і адпаведным кантэксце як бы ў «гатовым» выглядзе.

Варта заўважыць, што інтэнсіўнасць узаемадзеяння, эфектыўнасць узаемаўплываў найбольшыя ўсё ж, як правіла, паміж роднаснымі, блізкімі па многіх паказчыках навуковымі дысцыплінамі. Гэтая ж заканамернасць, мабыць, яшчэ ў большай ступені праяўляецца ва ўзаемадзеянні літаратур, а таксама навук пра гэтыя літаратуры. Айчыннымі літаратуразнаўцамі грунтоўна паказана роля дабратворнага ўплыву на маладую беларускую літаратуру суседніх славянскіх літаратур, якія валодалі вялікім мастацкім патэнцыялам і мелі вядомыя дасягненні. Гэта, безумоўна, не выключае таго, што ўздзеянне на маладую нацыянальную літаратуру магло зыходзіць і ад больш аддаленых у прасторы (таксама і ў часе) літаратур, а ў агульным выніку — і ад мастацкага досведу сусветнага літаратурнага развіцця.

« **Беларускае літаратуразнаўства ў апошнія дзесяцігоддзі найбольш актыўна звяртаецца да засваення і творчага выкарыстання тых тэорый, метадаў, даследчых практык, якія ўжо пэўным чынам выявіліся ў гуманітарных навуках іншых краін. Так, усё больш відавочнае значэнне для развіцця сучаснага літаратуразнаўства ідэй і канцэпцый М. Бахціна, у прыватнасці, распрацаванай ім эстэтыкі слоўнай творчасці як асаблівай творча скіраванай і каштоўнасна арыентаванай дзейнасці чалавека.**

## КРЫТЫК БАГДАНОВІЧ

Разам з імклівым прагрэсам на пачатку XX стагоддзя беларускай літаратуры адбывалася ўпэўненае станаўленне літаратурнай крытыкі, а крыху пазней і літаратуразнаўчай навукі, аб'ектам даследавання якой стала маладая нацыянальная літаратура. Адным з першых літаратурных крытыкаў, заснавальнікам беларускай літаратурнай крытыкі быў М. Багдановіч. Яго артыкулы па гісторыі беларускай літаратуры са старажытных часоў і да пачатку XX ст., агляды бягучага літаратурнага працэсу не страцілі свайго значэння і па сённяшні. Яны з'яўляюцца ўзорамі глыбокага пранікнення ў нацыянальную спецыфіку, мастацкую адметнасць беларускага слоўнага мастацтва.

М. Багдановіч з'яўляецца, па сутнасці, пачынальнікам і літаратуразнаўчых штудый. Прыкметны яго ўнёсак у распрацоўку вершазнаўчай тэорыі. У артыкулах «Краса и сила», «Грицько Чупринка» беларускі даследчык аналізуе досвед гістарычнага развіцця ўкраінскай паэзіі, характэрныя для яе спосабы пабудовы верша. Адным з ключавых пытанняў у вершазнаўчых даследаваннях М. Багдановіча з'яўляецца пытанне пра ролю ў структурнай арганізацыі паэтычнага твора *рытму*, яго ўзаемаадносіны з іншымі спосабамі мастацкага выражэння. Пра вялікі даследчыцкі патэнцыял тэарэтычнага характару сведчаць невялікія працы М. Багдановіча, якія, на жаль, засталіся няскончанымі. Гэта перш за ўсё такі фрагмент, як «Санет», які меўся быць разгорнутым тэарэтыка-гістарычным нарысам дадзенай паэтычнай жанравай формы.

Характэрнай адметнасцю беларускага літаратуразнаўства і крытыкі з'яўляецца тое, што значны ўклад у іх зрабілі самі пісьменнікі. Сярод пачынальнікаў гэтай традыцыі варта апрача М. Багдановіча назваць М. Гарэцкага, аўтара першай «Гісторыі беларускай літаратуры», сярод прадаўжальнікаў — А. Адамовіча, В. Вольскага, У. Гніламёдава, А. Лойку, І. Навуменку, Р. Семашкевіча, М. Стральцова, Я. Чыквіна і інш.

## РУСКІ ЎПЛЫЎ

Нельга не згадаць тое, што беларуская літаратуразнаўчая навука фарміравалася пад значным уплывам рускага літаратуразнаўства. На першым этапе гэта выяўлялася і ў форме непасрэднай дапамогі навуковымі кадрамі. Для ўдзелу ў станаўленні навукі ў Беларусь прыехалі такія выдатныя вучоныя, як І. Замоцін, А. Вазнясенскі, прадстаўнікі рускага акадэмічнага літаратуразнаўства, якія прыўнеслі ў даследаванні беларускага літаратурнага матэрыялу досвед перш за ўсё культурна-гістарычнай школы.

У далёкія дваццатыя гады мінулага стагоддзя ў рускім літаратуразнаўстве, якое мела да таго часу працяглую гісторыю развіцця і значныя здабыткі, вяліся ажыўленыя дыскусіі наконт далейшых шляхоў развіцця літаратуразнаўчай навукі. У прыватнасці, рускімі фармалістамі выказваліся ідэі наконт надання літаратуразнаўству большай навуковасці. Дзеля гэтага прапаноўвалася адпаведная метадалогія, сутнасць якой зводзілася да вылучэння фармальных прыкмет літаратурнага твора ў якасці вызначальных для яго эстэтычнай вартасці. Фармалісты памыляліся, вядома, у сваёй абсалютызацыі формы і яе адасабленні ад змястоўных паказчыкаў, у ігнараванні пазатэкставай рэальнасці. Аднак іх неацэнная заслуга заключаецца ў тым, што яны сапраўды адкрылі шляхі да аваладання навуковымі, эмпірычна пацвярджальнымі метадамі даследавання літаратурнага твора, сталі піянерамі ў гэтай сферы, прадвызначыўшы далейшы рух літаратуразнаўчай навукі ў дадзеным напрамку.

Цікава, што падобны шлях прадчуваўся ў свой час і М. Багдановічам, што выявілася ў яго накідзе тэарэтыкалітаратуразнаўчай працы, які ў зборы твораў паэта азагалоўлены рэдкалегіяй паводле пачатковых слоў першай фразы — «Стремление найти метод научной критики…».

Трэба заўважыць, што тэорыі і канцэпцыі, якія фарміруюцца ва ўлонні той або іншай нацыянальнай літаратуразнаўчай школы, могуць аказваць не толькі сінхранічнае, але і дыяхранічнае ўздзеянне на агульны працэс развіцця літаратуразнаўчай навукі ў свеце. Так адбылося, да прыкладу, і з рускім фармалізмам, ідэі якога былі значна пазней развіты, а ў чымсьці і перагледжаны, структуралістамі і постструктуралістамі.

« **Адным з першых літаратурных крытыкаў, заснавальнікам беларускай літаратурнай крытыкі быў М. Багдановіч. Яго артыкулы па гісторыі беларускай літаратуры са старажытных часоў і да пачатку XX ст., агляды бягучага літаратурнага працэсу не страцілі свайго значэння і па сённяшні. Яны з'яўляюцца ўзорамі глыбокага пранікнення ў нацыянальную спецыфіку, мастацкую адметнасць беларускага слоўнага мастацтва.**

Беларускае літаратуразнаўства якраз у апошнія дзесяцігоддзі найбольш актыўна звяртаецца да засваення і творчага выкарыстання тых тэорый, метадаў, даследчых практык, якія ўжо пэўным чынам выявіліся ў гуманітарных навуках іншых краін. Так, усё больш відавочнае значэнне для развіцця сучаснага літаратуразнаўства ідэй і канцэпцый М. Бахціна, у прыватнасці, распрацаванай ім эстэтыкі слоўнай творчасці як асаблівай творча скіраванай і каштоўнасна арыентаванай дзейнасці чалавека.

Важна адзначыць, што многія плённыя для сучаснай навукі ідэі вялікага рускага мысліцеля і філолага ўпершыню аформіліся ў той час, калі ён жыў і працаваў у Віцебску, дзе якраз і склаўся славуты бахцінскі «круг». Тут ім былі напісаны такія значныя працы, як «Аўтар і герой у эстэтычнай дзейнасці», «Да філасофіі ўчынка». На беларускай зямлі пачынаў сваю навуковую дзейнасць і яшчэ адзін выдатны літаратуразнаўца, якога па праве можна лічыць не толькі рускім, але і беларускім даследчыкам. Гэта Б. Корман, які прадставіў грунтоўную тэорыю аўтара і чые канцэптуальныя распрацоўкі становяцца ў наш час усё больш пільным аб'ектам увагі ў навуковым свеце. Для беларусаў Б. Корман цікавы яшчэ і тым, што ён аўтар кандыдацкай дысертацыі «Поэзия Максима Богдановича (творческий путь)» (1951).

Беларуская літаратуразнаўчая навука сёння ўсё больш актыўна засвойвае досвед згаданых і многіх іншых вучоных розных краін, тэорыі і канцэпцыі якіх выходзяць далёка за межы ўласна літаратуразнаўства. Структурны падыход, семіятычны аналіз, новае ўспрыманне магчымасцей сацыялагічнага даследавання літаратурнага працэсу і г. д. — усё гэта ў той або іншай ступені выяўляецца ў працах беларускіх літаратуразнаўцаў. Філасофія, эстэтыка, лінгвістыка, псіхалогія, сацыялогія, мастацтвазнаўства, семіётыка — вось далёка не поўны пералік гуманітарных дысцыплін, з якімі сёння ўступае ў кантакт, у творчы дыялог беларускае літаратуразнаўства, асабліва літаратуразнаўства тэарэтычнае, акадэмічнае. Адкрываюцца перспектывы для супрацоўніцтва і ў новых кірунках: сінергетыка, тэорыя камунікатыўнасці, кагнітывістыка...

**Яўген ГАРАДНІЦКІ,**
**вядучы навуковы супрацоўнік Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі**

# З няўмення маўчаць

**Здаецца, не так даўно развіталіся з рускім пісьменнікам і патрыётам Аляксандрам Салжаніцыным (1918 — 2008). Між тым надышоў ужо другі яго юбілей без юбіляра. Сціплае, без шырокага розгаласу 95-годдзе.**



Лёс Аляксандра Ісаевіча Салжаніцына пакручасты і драматычны, хоць значная частка яго драматызму ўласцівая ледзь не палове лёсаў сучаснікаў «Архіпелага ГУЛАГ». Здабыты крывёй і потам дабрабыт бацькоў разбурыла рэвалюцыя. Гадаваўся без бацькі — той загінуў яшчэ да нараджэння сына. З шасці гадоў разам з маці — у Растове-на-Доне. «Узорная» для таго часу галеча — і пры гэтым выдатныя поспехі ў навучанні, імкненне да гістарычна-літаратурнай творчасці — тады яшчэ з камуністычных пазіцый. Перад вайной з бляскам закончаны фізіка-матэматычны факультэт Растоўскага ўніверсітэта, завочна — два курсы маскоўскага Інстытута філасофіі, гісторыі і літаратуры. Баявы шлях падчас Вялікай Айчыннай — ад Арла да Усходняй Прусіі, ад радавога да камандзіра батарэі і капітана Савецкай Арміі.

Ужо тады Салжаніцын быў з тых, хто «не могуць маўчаць»: расчараваны ў сталінскай ідэалогіі і палітыцы, ён падзяліўся думкамі з сябрам у лістах. Вынік (у апошні год вайны) — арышт, следства, прысуд да 8 гадоў лагераў і ссылка. Шлях «па этапах»: маскоўскія будоўлі — авіярамонтныя майстэрні, НДІ («шарашкі») — Стэплаг у Паўночным Казахстане. Апошняе — зноў вынік «няўмення маўчаць»: крытыка начальства каштавала «зэку» Салжаніцыну страты адносна чалавечых умоў зняволення «на карысць» умовам нечалавечым, г. зн. прысуду да агульных работ. Вось тут і ляжаў «матэрыял» для найбольш знакамітых твораў. Падмаскоўныя «шарашкі» — для рамана «У крузе першым», Стэплаг — для аповесці «Адзін дзень Івана Дзянісавіча», а ўсё перажытае, разам з допісамі чытачоў — былых вязняў, — для «Архіпелага ГУЛАГ», манументальнага «досведу мастацкага даследавання» савецкай лагернай сістэмы 1918 — 1956 гадоў. І яшчэ адна трагічная старонка, пра якую не змог маўчаць пісьменнік: гісторыя хваробы, лячэння, шпітальныя ўражанні — аснова аўтабіяграфічнай аповесці «Ракавы корпус», аднаго з нешматлікіх тэкстаў, незалежных ад прысуду аўтара камуністычнай сістэме.

З пачатку 1960-х гадоў — часу публікацыі першых твораў у часопісе «Новый мир» — разгортваюцца ўнікальныя старонкі салжаніцынскага лёсу: прызнанага, але зганьбаванага пісьменніка, дысідэнта, выгнанніка, эмігранта, урэшце — нібыта гранічна далёкага ад рэчаіснасці «вяртанца», прарока і маралiста ў няўдзячнай Айчыне.

* * *

Вяртанне А. Салжаніцына на радзіму 27 мая 1994 года было падзеяй. «Культурная прастора» СНД толькі-толькі пазнаёмілася з «Архіпелагам», іншымі творамі. Вядома, яны ўспрымаліся неадназначна: значная частка, пераважна людзі сталага ўзросту, лічыла ганьбай лавіну выкрыванняў сістэмы. Ды і рэчаіснасць не выклікала аптымізму і не падштурхоўвала да пошуку «адвечных ісцін». Сорам прызнацца, але і ў нашай сям'і прамовы напорыстага барадатага старца ў тэлевізары ўспрымаліся як нешта недарэчнае — перадусім яго імідж і тон, а да слоў ужо не надта прыслухоўваліся. Між тым варта было: такая «рэцэптыўная» праўка ўзнікла праз некалькі год, калі былі прачытаныя ўсе асноўныя творы пісьменніка, а сам ён выказаў усё, што лічыў неабходным.

1990-я. Расія ў небяспецы («у абвале») — асноўны тэзіс тых прамоў. Адсюль прароцкі пафас і тон — адчай звароту да глухіх і сляпых, перад якімі распасцерлася бездань. «Раскол» на ўсіх узроўнях (палітычным, эканамічным, культурна-ментальным); страта традыцыйных каштоўнасцей, у тым ліку рэлігійных; крызіс ідэнтычнасці; цэнтралізацыя ўлады побач з татальнай перыферызацыяй рэгіёнаў — усіх, якія «не сталіца», закінутая, «адмежаваная» вёска; улада «нуворышаў і зладзеяў»... Як было пра гэта не крычаць?

У якасці паратунку прапаноўваліся патрыятызм, праваслаўе, мясцовае самакіраванне («земская вертыкаль»). «Раскаянне і самаабмежаванне» як выток усіх дзейсных крокаў і рэформ: «Мой *дух*, мая *сям'я* ды мая *праца* — добрасумленная, няўсыпная...» Толькі так можна было пачынаць «будаваць Расію маральную — або ўжо ніякую». Напэўна, асабліва дзіка гучалі словы «маральнасць», «дух» і да т. п.

І ў сённяшняй Расіі салжаніцынскія прамовы ўспрымаюць неадназначна.

* * *

Сваёй працай для Салжаніцына была літаратура. Пра яе ролю ў грамадстве пісьменнік таксама выказваўся прынцыпова і патрабавальна — перадусім у нобелеўскай лекцыі (1970).

Мастацкі творца ўвогуле — «маленькі чаляднік пад Боскім небам». «Не ім створаны свет, не ім кіруецца, няма сумнення ў яго асновах, мастаку дадзена адно вастрэй за іншых адчуць гармонію свету, прыгажосць і агіду чалавечага ўмяшальніцтва ў светабудову — і гэтаксама востра прадэманстраваць людзям. У паразах і на дне існавання — у галечы, у турме, у хваробах — адчуванне ўстойлівай гармоніі не пакідае яго».

Ці варта мастаку дзяліцца сваім адчуваннем гармоніі і дысгармоніі? «Для мяне тут няма пытання... <Мастак> толькі часткова разгортвае свой дар сам, у большай ступені ён натхнёны ад нараджэння — і разам з талентам пакладзеная адказнасць...» Схаваць свой дар, сваё светабачанне — значыць «аддаць свет у рукі людзей карысных, ці ніякіх, ці нават вар'ятаў».

Мастацкае слова здольнае на многае. Перадусім — злучаць адасобленыя погляды на рэчаіснасць. «...Накат падзей, паўсвета за адну хвіліну даведаецца пра іх усплёск, але мерак <успрымання> не даносіцца... У розных краінах да падзей прыкладваюць уласную, выпакутаваную шкалу ацэнак — і самаўпэўнена мяркуюць толькі па <ёй>». Хто і як параўнае ды абагуліць «шкалы»? «На шчасце, сродак такі ёсць! Гэта — мастацтва. Гэта — літаратура». Сапраўдная літаратура прапануе пазачасны, усюдысны, агульначалавечы погляд на рэчаіснасць — і, дарэчы, погляд *даходлівы*.

Літаратура — той жа досвед. Уяўны, «прачытаны» досвед мае сілу рэальнага: памылкі неабавязкова здзяйсняць самому, каб адчуць іх ганебны цяжар. Тут, дарэчы, падкрэсленая не толькі адказнасць творцы, але і адказнасць чытача — прадстаўніка свайго пакалення, нацыі, чалавецтва.

**Таццяна СТУДЗЕНКА**

*Нататкі чытача*

# Каньяк для каскадзёраў,

## АБО ХТО КЛАНІРУЕ ГІТЛЕРА?

Яшчэ ў дзяцінстве я пачаў збіраць літаратурна-мастацкія часопісы, у якіх друкаваліся прыгодніцкія і дэтэктыўныя творы. Такія выданні тады адразу знікалі з кіёскаў, і ў бібліятэках па іх выстройваліся доўгія чэргі. Памятаю, з якім нецярпеннем хацелася пазнаёміцца з новымі раманамі і аповесцямі Аркадзя Адамава, братоў Вайнераў, Юліяна Сямёнава, Анатоля Ромава. Беларускія аўтары прыгодніцкага жанру — Кастусь Тарасаў, Мікалай Чаргінец, Уладзімір Шыцік, творчы дуэт у складзе Германа Круглова і Навума Цыпіса — таксама выглядалі прыстойна. Цікавасць да вострага сюжэта засталася па сёння, таму зусім не выпадкова ў маіх руках апынуліся часопісы «Нёман» (№ 1, 2013) і «Полымя» (№ 6, 2013), дзе якраз друкаваліся прыгодніцкія творы Сяргея Трахімёнка.

У «Нёмане» змешчана кінааповесць «Уехать в Париж». Аўтар хоча пабачыць сваіх герояў на экране — што ж, цікава! Аднак вельмі хутка цікавасць мая змянілася іншымі пачуццямі. Вось немудрагелісты сюжэт аповесці. У Мінску знікае малады хлопец Павел, а яго маці, былой актрысе Алене Леанідаўне, якая цяпер жыве ў Парыжы, тэлефануе нехта з беларускай сталіцы і патрабуе грошы за вызваленне сына. Маці адразу прылятае ў Мінск, ідзе з адпаведнай заявай у міліцыю, і раптам высвятляецца, што бандыты цесна звязаны з праваахоўнымі органамі і ўважліва сочаць за кожным яе крокам. Разгубленая актрыса забірае сваю заяву, і тут на сцэне з'яўляюцца яе былыя сябры і калегі па здымачнай пляцоўцы — каскадзёры. Адзін з іх абяцае звязацца са знаёмымі бандытамі, якія нядорага возьмуць за свае паслугі. Але бандыты ў творы так і не з'яўляюцца. Каскадзёры самі бяруцца за працу: хапаюць у палон бандыцкага пасрэдніка з групоўкі, што скрала хлопца, і ад яго даведваюцца: Паўла трымаюць у падвале лецішча. Адважныя героі едуць туды і вызваляюць ахвяру. Чамусьці ніякай аховы тут няма, але ў адным пакоі, невядома для чаго, яны знайшлі прыкаваную да батарэі ацяплення бандыцкую атаманку. Хто яе прыкаваў, навошта — аўтар так і не тлумачыць да канца аповесці.

Адзін абсурд насоўваецца на другі. У нейкі момант высвятляецца, што маці скрадзенага хлопца завуць не Алена Леанідаўна, а Алена Львоўна, аднак затым яна зноў фігуруе як Леанідаўна. Я параіў бы аўтару ўсё ж такі вызначыцца ў гэтым важным пытанні!

Яшчэ адзін цікавы момант. Каскадзёры едуць вызваляць Паўла ўтрох. Праз некалькі старонак С. Трахімёнак апісвае падзеі так, быццам адзін каскадзёр у аперацыі не ўдзельнічаў. Дык удзельнічаў ці не?

Некаторыя эпізоды твора выглядаюць камічна. Адстаўныя каскадзёры (цяпер — аўтамеханік, цыркавы артыст і бамжаваты п'яніца) збіраюцца адзначыць баявыя поспехі грэчаскай «Метаксай» і пасля першай порцыі напою дружна заяўляюць: каньяк — падробка. Па ўсім відаць, яны кожны дзень ласаваліся дарагімі якаснымі напоямі.

«Полымя» надрукавала аповесць С. Трахімёнка «Слава пераможцу». Гэта прыгодніцкі твор з элементамі фантастыкі. Або фантастычная аповесць з прыгодніцкімі элементамі — разабрацца цяжка. Галоўная ідэя — адказнасць вучоных перад чалавецтвам. Тэма, адзначым, не новая. Падобныя кнігі былі вельмі папулярныя некалькі дзесяцігоддзяў таму. Сяргей Трахімёнак звярнуўся да ўжо досыць распрацаванага ў літаратуры сюжэта і, на маю думку, не выцягнуў яго. У аповесці шмат разваг пра жыццё і смерць, якія падаліся мне досыць банальнымі.

І зноў — недакладнасці сюжэта. Хапаешся за галаву, калі з тэксту даведваешся, што кланіраваннем Гітлера займаюцца спецыяліст у камп'ютарных тэхналогіях і… філолаг, праўда, нямецкі (на нямецкім філфаку гэтаму вучаць у першую чаргу?). Карацей кажучы, аповесць С. Трахімёнка не стала стрыжнем нумара. Падумалася: можа, толькі ў двух творах аўтара спасцігла творчая няўдача?

Пяру Сяргея Трахімёнка належыць ці не з паўтара дзясятка кніжак, выдадзеных у Беларусі і Расіі. Пры такой працавітасці, бясспрэчна, могуць быць розныя збоі. У бібліятэцы я ўзяў кнігу пісьменніка — раман «Записки “чёрного полковника”» (Мінск, 2010). Гэта шпіёнскі трылер. І зноў ужо з першых старонак дзівішся своеасабліваму аўтарскаму стылю. Вось толькі адна з ліній сюжэта. Адстаўнога савецкага разведчыка Віктара Сяргеевіча, які цяпер жыве ў Мінску, расійская (!) ФСБ вырашае накіраваць на Гаваі для ўсталявання сувязі з былым савецкім агентам. Каб амерыканская контрразведка не выкрыла нашага «Шцірліца», робіцца наступнае. Віктар Сяргеевіч з Мінска пераязджае ў Вільню, але і там застаецца Віктарам Сяргеевічам і ўжо адтуль, быццам бы ён літовец, едзе на аўтобусе ў Італію. Для таго, каб сёе-тое сэканоміць на квітках, наш герой крыху падзарабляе, выконваючы ў гэтым аўтобусе абавязкі сцюарда. Вось гэта нумар! Аднак у Аўстрыі Віктар Сяргеевіч ледзь не «спаліўся», таму што (рыхтуйцеся!)… не ведаў мовы. Ну, дзякуй богу, неяк абышлося. Але і на экзатычных Гаваях да яго адразу падышла суайчынніца і нешта спыталася па-руску. Відаць, і з гавайскай мовай у разведчыка было слабавата…

У адным з інтэрв'ю Сяргей Трахімёнак сказаў, што дэтэктывы — гэта ў першую чаргу літаратура. З такой слушнай заявай нельга не пагадзіцца.

**Юры КАМЯГІН,**
**г. Гродна**

Адначаснікі



# Зямляк

Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ

Яго сын Андрэй стаў у дзевяностых гадах адказным сакратаром «ЛіМа». Калі я ўпершыню прачытаў прозвішча ў тытульных дадзеных штотыднёвіка, мне ўзгадаўся Віцебск, кватэра на пятым паверсе праспекта Фрунзэ і школьнік Андрэй Ганчароў, старэйшы сын майго даўняга таварыша, я баюся сказаць сябра, Уладзіміра Пятровіча Ганчарова, загадчыка літаратурнай часткі славутага тэатра імя Якуба Коласа.

На працягу гадоў, калі я прыязджаў на сесіі ў Віцебскі педінстытут, спыняўся ў Ганчаровых. З Уладзімірам Пятровічам нас звязвау родны Полацк, газета, у рэдакцыі якой яго маці некалі працавала прыбіральшчыцай. Пазнаёміліся мы, калі ён прыязджаў у родны горад, будучы адказным сакратаром абласной газеты «Віцебскі рабочы», браў удзел у рэгіянальных «лятучках». Потым лёс зводзіў нас на абласных семінарах творчай інтэлігенцыі, якія праходзілі штогод у розных маляўнічых кутках Віцебшчыны. Сёння, калі гавораць пра няўвагу да патрэб творчых людзей з боку чыноўнікаў, я не раз узгадваю гэтыя тыднёвыя семінары з вогнішчамі і сяброўскімі гутаркамі, са шматлікімі сустрэчамі і выступленнямі, з добразычлівым абмеркаваннем творчасці.

Ганчароў быў старэйшы за мяне больш чым на дзесяць год, але розніцу ва ўзросце ніколі не падкрэсліваў.

Быў ён шчыры прыхільнік беларускага слова, вельмі інтэлігентны, адукаваны чалавек. Магла б скласціся добрая кар'ера ў журналістыцы, але нейкі мярзотнік «накатаў» данос пра мінулае яго бацькі, і Ганчароў мусіў пакінуць рэдакцыю.

Тэатр спачатку ён успрыняў як вымушаны прыстанак. Але патроху ўцягнуўся ў творчую атмасферу, балазе, у той час там склаўся вельмі цікавы калектыў. Уладзімір Куляшоў і Яўген Шыпіла, Таццяна Мархель, маладыя на той час Пятро Ламан і Алесь Лабанок, галоўны рэжысёр Валерый Мазынскі, выдатны мастак Аляксандр Салаўёў… Яны сталі не проста калегамі па працы для Ганчарова, а і блізкімі сябрамі, аднадумцамі.

Ён стаў аўтарам сцэнічнай пастаноўкі па паэме Якуба Коласа «Сымон-музыка», наладзіў сувязь тэатра з Уладзімірам Караткевічам, і п'еса Уладзіміра Сымонавіча «Кастусь Каліноўскі» з народным артыстам Куляшовым у галоўнай ролі ўпершыню ўбачыла свет менавіта на коласаўскай сцэне.

Дзякуючы Уладзіміру Пятровічу я бываў за кулісамі тэатра, разам з ім удзельнічаў у сяброўскіх гутарках з Яўгенам Шыпілам, Леанідам Трушко, Алесем Лабанком, Мікалаем Цішачкіным… Нават браў удзел у падрыхтоўцы аднаго спектакля ў якасці перакладчыка вершаў азербайджанскага паэта Расула Рзы.

На чацвёртым курсе інстытута ў мяне ўзніклі праблемы з вышэйшай матэматыкай. Я і ў школе не дужа захапляўся дакладнымі навукамі, а тут проста ўявіць не мог, як можна здаць такі прадмет. Кінуць вучобу? Але Ганчароў так прысарамаціў мяне, сказаўшы, што цяжкасці трэба пераадольваць уласным стараннем і барацьбой, што я разззлаваўся і... здаў злашчасную матэматыку!

У Ганчаровых дома панавала беларуская мова. Яго жонка Тамара працавала ў абласной бібліятэцы, выдатна ведала айчынную літаратуру, сыны таксама шмат чыталі, любілі роднае слова.

Памятаю, Уладзімір Пятровіч расказваў мне: калі Андрэй паведаміў яму, што хоча стаць журналістам, ён пачаў адгаворваць. Андрэй адказаў:

— Я хачу быць такім, як бацька. Ты хіба супраць?

Загінуў Ганчароў трагічна і недарэчна. Грузавік нечакана выскачыў на тратуар, па якім крочыў Уладзімір Пятровіч, і збіў яго. Пра гэта я даведаўся позна і на пахаванні не быў.

Шкада, што не так часта сустракаемся ў Мінску з Андрэем. Хочацца разам з ім светлым словам успомніць яго бацьку, майго земляка і таварыша, сапраўднага беларуса Уладзіміра Пятровіча Ганчарова.

# Даражэй за ўсё — лісты чытачоў

**Тамара Краснова-Гусачэнка, старшыня Віцебскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, уганараваная граматай Савета міністраў Рэспублікі Беларусь за плённую творчую і грамадскую працу. З узнагародай паэтэсу павіншавала і карэспандэнт «ЛіМа» Таццяна Студзенка.**

**— Мінулы год быў для вас плённым: да ўсяго вы перамаглі яшчэ ў конкурсе на стварэнне гімна Віцебска.**

— Сем гадоў я пераконвала адміністрацыю, што гораду патрэбны гімн, які будзе гучаць у асаблівa ўрачыстых выпадках, у тым ліку на «Славянскім базары». Нарэшце быў абвешчаны конкурс, прыйшло мноства заявак. Галасаванне было тайным — кампазіцыі ішлі пад нумарамі, а не пад аўтарскімі подпісамі. Большасць выказалася за наш варыянт. Я вельмі доўга і напружана працавала над тэкстам, перараблівала шматкроць. У аснове гімна — легенда пра заснаванне горада Віцебска княгіняй Вольгай. Арыгінальны тэкст — рускамоўны, а на беларускую яго пераклала Тамара Таўкачова. Музыку напісаў віцебскі кампазітар Аляксандр Рауза.

**— На чые водгукі вы звяртаеце большую ўвагу?**

— Дасведчаныя і аўтарытэтныя філолагі разглядалі мае творы: Т. Шамякіна, У. Гніламёдаў, А. Лукашанец, С. Ганчарова-Грабоўская — і я вельмі ўдзячная ім. Але даражэй за ўсё мне лісты, якія атрымліваю ад «непрафесійных» чытачоў. Вось пішуць з Шаркаўшчыны: «Дзякуй вам за вашу кнігу вершаў «Спас», за яе вялікую жыццесцвярджальную сілу. Я павінная ўжо вярнуць яе ў бібліятэку, бо стаіць чарга, але не магу растацца з ёю...»



**— Цікава, адкуль яна расце, «вялікая жыццесцвярджальная сіла»?**

— Я пражыла вельмі складанае жыццё: страты блізкіх людзей, цяжкія хваробы, нават клінічная смерць. Успрымаю гэта як выпрабаванне, якое даецца дзеля таго, каб ачысціць душу і розум ад усяго павярхоўнага, несапраўднага. І не хацела б, каб такі боль трываў нехта яшчэ, таму пераствараю яго ў словы, словаформы і словаформулы, якія, спадзяюся, падкажуць, як перажыць боль уласны.

Уся мая творчасць — служэнне людзям. Пішу, каб ім было лягчэй.

**— Пачаўся новы год, з ім — новыя падзеі і справы ў пісьменніцкім жыцці. Што плануецца на Віцебшчыне?**

— У 2014-м мусім выдаць альманах «Дзвіна». Ён выходзіць раз на пяць год, таму робім яго грунтоўным, салідным — старонак 700 ці нават болей. Акрамя твораў змяшчаем бібліяграфічныя даведкі. Усе адчуваюць гонар ад удзелу ў стварэнні такога сур'ёзнага выдання.

Нядаўна з нагоды 70-годдзя вызвалення Віцебска і 70-годдзя Перамогі абвясцілі конкурс на лепшы твор, прысвечаны ваеннай тэме.

З абласным перыядычным друкам існуе дамоўленасць пра выпуск спецыяльных палос з творамі пісьменнікаў Віцебшчыны. Спачатку, каб заахвоціць творцаў, мы змяшчалі па адным вершы ад кожнага. Цяпер друкуем падборкі пяці-шасці паэтаў. Існуе дамоўленасць і з Віцебскім тэлебачаннем, дзе выступаюць дасведчаныя пісьменнікі, тыя, каму ёсць што сказаць не толькі пра сябе, але і пра беларускую літаратуру, пра стан грамадства. Думаю, сапраўдны аўтар павінен весці асветніцкую працу. Калі ж ён толькі чытае творы, карысці мала.

**— А пісьменнікі Віцебшчыны адпавядаюць такім высокім памкненням?**

— За мінулы год агульнымі намаганнямі мы правялі каля 500 творчых сустрэч — у бібліятэках, дзіцячых садках, школах, гімназіях, ва ўсіх без выключэння абласных ВНУ, дамах інвалідаў і састарэлых. Найбольш актыўныя ў гэтым плане — Галіна і Сяргей Трафімавы, Барыс Беляжэнка, Васіль Руды, Фёдар Палачанін, Канстанцін Нілаў, Віктар Уліценка, Мікалай Балдоўскі, Галіна Загурская. Усім ім вялікі дзякуй. На жаль, у мінулым годзе пайшоў з жыцця Алесь Шпыркоў, выдатны паэт. Нягледзячы на тое, што ён быў невідушчы, мы часта ладзілі разам творчыя вечары.

Асабіста на маім рахунку ў мінулым годзе 56 сустрэч, у пазамінулым — 96. Але не трэба думаць, што гэта фармальная праца. Мы не выдумляем план сустрэч, а складаем яго па заяўках арганізацый, якія пазначаюць, каго канкрэтна хацелі б убачыць і паслухаць. Таму і чытачы прыходзяць не прымусова. Ім цікава, і яны ўмеюць цаніць тое, што ты аддаеш. Канечне, часам адчуваю сябе эмацыянальна і фізічна стомленай, але гэта добрая «падпітка» творчасці і жыццядзольнасці ўвогуле. Дзеля сустрэч з людзьмі я свядома ахвярую магчымасцю выдання новых кніг.

**— Але ў гэтым годзе мы пабачым вашы новыя кнігі?**

— У РВУ «Выдавецкі дом «Звязда» павінна выйсці мая кніга вершаў для дзяцей, а таксама казка «Навагоднія прыгоды Марусі» — накшталт «Алісы ў краіне цудаў», толькі пра нас і нашу рэчаіснасць.

# Тое, што хвалюе

**Пра такіх людзей, як Аляксандр Бардоўскі, кажуць: калі чалавек таленавіты, дык ён таленавіты ва ўсім. Кандыдат тэхнічных навук. Мастак. Паэт. Свае карціны, як і вершы, неаднаразова выносіў на суд жыхароў Гомеля, дзе сёння жыве, а таксама на суд землякоў — прыхільнікаў свайго таленту з вёскі Бялынкавічы Касцюковіцкага раёна, дзе нарадзіўся і куды, трэба заўважыць, ніколі не забываў і не забывае дарогі.**

Некалькі разоў з Аляксандрам Бардоўскім пабываў на яго малой радзіме і аўтар гэтых радкоў. Былі нагоды — юбілейныя даты паэта-земляка Алеся Пісьмянкова. У свой час я меў гонар пазнаёміць іх. У двух бялынкавічан завязаліся цёплыя сяброўскія стасункі. Помніцца, калі Алесь Пісьмянкоў узначальваў часопіс «Вожык», Аляксандр Бардоўскі дапамог вожыкаўцам знайсці сродкі на правядзенне Дня гумару ў Горках. На вялікі жаль, Пісьмянкоў рана пайшоў з жыцця. А. Бардоўскі пачаў рупіцца пра захаванне светлай памяці паэта. Намаляваў партрэт Алеся і падараваў школе. Зрабіў шыльду з ягонай вывай, якая цяпер сустракае кожнага, хто прыходзіць у мясцовую дзесяцігодку. І на гэтым не спыніўся. Калі касцюковіцкай дзіцячай бібліятэцы было нададзена імя Алеся Пісьмянкова, стараннямі сябра на яе будынку з'явілася шыльда паэта.

З паэзіяй Аляксандра Бардоўскага знаёмыя аматары літаратуры не толькі нашай краіны — па публікацыях у часопісе «Нёман», тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», у газеце «Звязда», — але і чытачы Расіі і Украіны.

Такія паэты, як А. Бардоўскі, шмат не пішуць, друкуюцца рэдка, але калі ўжо стрэляюць, то на дзіва трапна. Пацвярджэнне гэтаму — новая кніга вершаў «Выспы часу» (2013). У чатырох раздзелах — «Рэха журбы», «Спомін лета», «Вербная нядзеля» і «Дарога на радзіму» — значная частка твораў прысвечана радзіме і самым блізкім людзям — маці, тату, бабулі.

*Я у памяці ў вечным палоне.*
*Быццам свежую рану кранаў —*
*Я аб ружы параніў далоні,*
*Як кідалі пясок на труну.*
*І паветра грудзям стала*
*мала,*
*Так балюча я страту адчуў —*
*Там жа мама мая,*
*там жа мама!*
*Я крычаў, ды ніхто не пачуў…*
*Думаў я, што я моцны і дужы,*
*Ды не здолеў стрымацца*
*ад слёз…*
*На магіле пакінуў я ружы,*
*Па жыцці*
*боль нясцерпны панёс…*

Ён і цяпер без руж да маці не прыходзіць. Ведаю. Бачыў.

Нельга без хвалявання чытаць вершы «Хросныя», «Мы ўсе народжаны казаць», «Царква», «Па-над Бесяддзю кружыць бусел», «Зноў я бегаў у сне басаножам».

*У роспачы, у скрусе*
*Кранае ветрык скронь —*
*На Пісьмянковым лузе*
*Чужы пасецца конь.*
*Чужыя людзі ў хаце.*
*Чужыя, не сыны.*
*А бацька побач з маці —*
*На могілках яны.*
*А сын далёка дзесьці—*
*Там, дзе свае крыжы…*
*Куды ж прыедуць дзеці,*
*Як дзедаў дом — чужы?*
*І хлапчукам вясковым*
*Не чутны гэты боль —*
*На лузе Пісьмянковым*
*Чужы пасецца конь…*

Верш аўтабіяграфічны. Ёсць Пісьмянкоў луг у Бялынкавічах. А з нядаўняга часу — і абласное літаратурнае свята, якое так і называецца — «Пісьмянкоў луг». Мне даводзілася пабываць на ім двойчы. Тут збіраюцца літаратары не толькі з Магілёўскай вобласці, а і з суседніх, таксама — з Расіі. На стромкім беразе Бесядзі гучаць вершы, і здаецца, іх чуе і сам Алесь!

Пра тое, што баліць, Аляксандр Бардоўскі гаворыць узрушана і ўсхвалявана: «Не прымушайце красці, падайце жабраку!» («Жабрак»); «Баліць параненая скронь, туга душу яго скрабе, і выкліке ён агонь у снах штоночы на сябе» («Хата з краю»). Ці: «Чалавек памірае двойчы ад хваробы ці ад тугі. Першы раз — як закрые вочы, як забудуць яго — другі» («Чалавек памірае двойчы»).

Добрую, цікавую кнігу стварыў Аляксандр Бардоўскі. Галоўнае, што яна нікога не пакіне абыякавым.

*Я рукі ў неба акунаю,*
*Калі вяртаюся сюды,*
*І зоркі вуснамі кранаю,*
*Набраўшы ў прыгаршчы*
*вады.*
*Яна і боль, і сум змывае,*
*І колькі моцы ў той вадзе!*
*Яна гаючая, жывая.*
*І больш такой няма нідзе…*
*Не веру ў цуды і прыкмету.*
*І час назад не павярнуць,*
*Але я зноў сюды прыеду*
*У Бесядзь рукі акунуць, —*

гаворыць паэт з уласцівай яму інтанацыяй. Калі знаёмішся з творамі, змешчанымі ў кнізе «Выспы часу», не можаш не адзначыць, што такая радзіма ёсць у кожнага з нас, у кожнага — свая, але — аднолькавая.

**Васіль ТКАЧОЎ**

*Форум-2014*

# Новыя звесткі пра мінуўшчыну

Падчас XXI Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу адно з цэнтральных месцаў прасторы комплексу «БелЭкспа» традыцыйна зойме калектыўны стэнд выдавецтваў, што працуюць у сістэме Міністэрства інфармацыі краіны. У іх ліку — наша найстарэйшае выдавецтва «Беларусь». Тут будуць прадстаўлены як ужо знаёмыя чытачам праекты — серыі «Славутыя мастакі з Беларусі», альбомы па мастацтве, гістарычныя і краязнаўчыя выданні, — так і новыя кнігі. Сёння мы пазнаёмім з даследаваннямі, якія не так даўно пабачылі свет у межах серыі «Беларуская гісторыя».




## АБЯРЭГІ: ТРАДЫЦЫІ І СУЧАСНАСЦЬ

Цягам некалькіх апошніх год выданні, прысвечаныя традыцыйнай культуры беларусаў, стала знаходзяцца на вяршыні розных рэйтынгаў. Такія даследаванні — вялікая ўдача для выдаўца, бо іх набываюць, дораць, чытаюць, вывучаюць. Варта хаця б прыгадаць знакамітую кнігу Аксаны Катовіч і Янкі Крука «Залатыя правілы народнай культуры», якая амаль штогод перавыдаецца ўсё большымі і большымі тыражамі. Выдатна, што звесткі, выкладзеныя ў гэтых кнігах, знаходзяць ужыванне і ў жыцці: усё больш папулярным становіцца правядзенне традыцыйнага беларускага вяселля, музыкі часцей і часцей «уплятаюць» фальклорныя элементы ў сучасныя кампазіцыі, а нашы старажытныя абрады нібыта ажываюць, трансфармуючыся ў новы, гарадскі, фармат.

Таму, думаецца, і манаграфія вядомага харэографа, кандыдата філалагічных навук **Вольгі Корсак «Таямніцы беларускіх абярэгаў»**, што выйшла ў выдавецтве «Беларусь», абавязкова зойме месца на паліцы самых запатрабаваных кніг па традыцыйнай культуры нашага народа. Абярэг — вельмі цікавая і шматгранная з'ява. Ён дае магчымасць для вывучэння веры, светапогляду, маралі, каштоўнасцей беларусаў. Вельмі важна таксама, што гэтае даследаванне праведзена на надзвычай шырокім матэрыяле — тут аналізуюцца звесткі, сабраныя фалькларыстамі на тэрыторыі нашай краіны за два стагоддзі.

У прадмове да выдання аўтарка зазначае: «Абярэгі, або апатрапеі, — своеасаблівая фальклорная з'ява, пачатак фарміравання якой адносіцца да часоў глыбокай старажытнасці, пераважна перыяду язычніцтва. Абярэгі настолькі моцна ўкараніліся ў жыццё як




старажытных, так і сучасных людзей, што сталі цалкам натуральным яго элементам, падобна да тых патрэб чалавека, што існуюць на падсвядомым узроўні». Таму і не дзіўна, што свет беларускага абярэга настолькі багаты і разнастайны з пункту гледжання яго аб'ектаў, суб'ектаў, сродкаў і рытуальнага выяўлення самога апатрапея.

У якасці абярэга могуць выступаць матэрыяльныя рэчы, рэчы з сімвалічным значэннем і ўласна магічныя сімвалы. У кожны з аберагальных сродкаў дадаткова «ўносяцца» пэўныя звышнатуральныя якасці, не ўласцівыя ім з пункту гледжання матэрыяльнай структуры. Да прыкладу, пры пэўных умовах апатрапеем могуць стаць вада, свечка (асабліва грамнічная), вярба, нейкія магічныя фігуры ці проста словы-замовы, мэта выкарыстання ці вымаўлення якіх — абараніць ад варожых сіл, вылечыць, дапамагчы.

Але калі лічаць, што абярэг — з'ява, звязаная выключна з гісторыяй, светам вёскі і рэлігіі, то моцна памыляюцца. Свае абярэгі, засцерагальныя рытуалы, сімвалы ёсць у прадстаўнікоў, бадай, кожнай з прафесій і сацыяльных груп. Яны актыўна ўтвараюцца і ў сучасным свеце.

Цяпер — час сесіі ў ВНУ, таму згадаем абярэгі, што выкарыстоўваюцца падчас здачы экзаменаў. На іспыце студэнт трапляе ў своеасаблівую экстрэмальную сітуацыю, дзе шмат залежыць не толькі ад яго добрай падрыхтаванасці, але і выцягнутага білета, настрою выкладчыка-экзаменатара. У кнізе Вольгі Корсак у ліку іншых прыводзяцца і разнастайныя абярэгі, якія многім студэнтам спрыяюць пры здачы экзаменаў. Да прыкладу, не адкрываць залікоўку паміж іспытамі, перавязваць яе чырвонай стужкай і перад экзаменам класці пад падушку. На экзамен апранаць чырвоную бялізну, па дарозе ні з кім не размаўляць, у гэты дзень не слухаць музыку…

Думаю, многім студэнтам перад здачай экзамену бацькі ці старэйшыя таварышы раілі не мыцца, не прыбіраць у пакоі. Мне заўсёды падавалася, што гэта звязана са страхам «змыць» усю новую інфармацыю, атрыманую падчас падрыхтоўкі да іспыту. Аднак Вольга Корсак тлумачыць выкарыстанне такіх абярэгаў у якасці спосабу ўступіць у хаўрус з нячыстай сілай праз прыпадабненне да нячысціка: «забараняецца апранаць новыя рэчы, адзенне трэба апранаць навыварат».

Але не толькі з іншасветным звязваюцца сучасныя студэнцкія абярэгі. «Бывае, што сакральнае і іншасветнае ў іх спалучаюцца, — піша аўтар. — Пры выбары білета студэнтам часам раяць стаяць на левай назе, а білет цягнуць правай рукой. Такія абярэгі сярод традыцыйных выкарыстоўваліся ў час найвялікшай небяспекі».

Варта падкрэсліць, што даследаванне абярэгаў яшчэ працягваецца. З гэтай мэтай у канцы выдання прыводзіцца спецыяльна распрацаваны «Апытальнік па зборы аберагальных тэкстаў». Аўтар прапануе кожнаму правесці сваё невялікае даследаванне. Магчыма, атрыманыя звесткі дапамогуць выявіць новыя рысы і падрабязнасці здзяйснення магічных засцерагальных дзеянняў.

## ХТО ЯНЫ, САРМАТЫ?

Думаю, гэтае пытанне задавалі сабе многія, калі чулі выразы «сармацкі партрэт», «сармацкі выгляд» у дачыненні да беларускай шляхты. З аднаго боку, паняцці «шляхецкі» і «сармацкі» могуць падавацца сінонімамі, але дакладна адказаць, як суадносяцца гэтыя прыметнікі, можа далёка не кожны. Разабрацца яшчэ ў адным спрэчным пытанні нашай гісторыі дапаможа даследаванне **Лады Клімуць «Сармацкая культура беларускай шляхты ў XVI — XVIII стагоддзях»**, што пабачыла свет у выдавецтве «Беларусь».

У гістарычнай навуцы зацвердзілася думка, што сарматызм у сваёй поўнай і завершанай форме склаўся ў пачатку XVII стагоддзя. Але ўпершыню ў еўрапейскіх пісьмовых крыніцах сарматы ўпамінаюцца яшчэ ў раннім сярэднявеччы. А франкскі храніст X ст. Фладаард нават гаварыў пра славян як пра сарматаў, прычым сам тэрмін выводзіў яшчэ ад Герадота, які пісаў пра гэтае племя як пра нашчадкаў скіфаў і амазонак.

«Асноўнай рысай сарматаў была іх ваяўнічасць, яны былі славутыя сваімі поспехамі ў вайсковай справе. Гэта адпавядала агульнапрынятаму ідэалу шляхціца як салдата і з'яўлялася адной з прычын таго, што тэорыя сармацкага паходжання была прынята прыхільна», — тлумачыць Лада Клімуць. Заслуга ж па папулярызацыі сарматызму ў Рэчы Паспалітай прызнаецца за польскім храністам Янам Длугашам, чые творы да 1614 года (калі яго работа «Летапісы, або Хронікі слаўнага Каралеўства Польскага» была апублікаваная ў няпоўным выглядзе) чыталі толькі ва ўрыўках ці нават перапісаных варыянтах.

Сёння надзвычай актуальным у гістарычнай навуцы з'яўляецца пытанне даследавання ідэалогіі і культуры Рэчы Паспалітай XVI — XVIII стагоддзяў. Для разумення гэтага перыяду важна паказаць асновы сармацкай ідэалогіі, яе генезіс, прасачыць, як яна мадыфікавалася. Пры адносна слабой каралеўскай уладзе і вялікай колькасці шляхецкіх вольнасцей можна сцвярджаць, што менавіта прадстаўнікі шляхты сталі асноўнымі фармавальнікамі дзяржаўнай (у дадзены перыяд сармацкай па сутнасці) ідэалогіі. «Неабходна вызначыць своеасаблівыя рысы сармацкай культуры гэтага часу на тэрыторыі Беларусі, а таксама па-новаму паглядзець на ідэалагічную аснову тагачаснага жыцця, якая фармавала светапогляд і вызначала ўзаемадачыненні людзей у грамадстве, убачыць яе ролю ў росквіце культуры Рэчы Паспалітай», — зазначае даследчыца. Важна таксама вызначыць, якім чынам сармацкая культура праяўлялася на беларускіх землях Рэчы Паспалітай і якую ролю яна адыгрывала ў адносінах паміж дзвюма часткамі дзяржавы.

Па сутнасці, на ўсе гэтыя пытанні і адказвае дадзенае даследаванне. Аўтар разглядае адметнасці зараджэння сармацкіх ідэалаў, іх развіццё ў грамадскай думцы Рэчы Паспалітай, звяртае ўвагу на публічныя і бытавыя праявы шляхецкай сармацкай ідэалогіі, а таксама аналізуе адметнасці рэпрэзентацыі сарматызму праз мастацтва.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

# Ад сэрца славянскага

Сапраўдным падарункам ад Выдавецкага дома «Звязда» можна назваць кнігу казак славянскага свету «Падарунак ад усяго сэрца», якая прыйшла да чытача літаральна ў самы пярэдадзень Новага года.

Дасведчаны ў славістыцы прафесар філалогіі Іван Чарота ўклаў зборнік з 32 твораў народнага фальклору. Разам паяднаны беларускія, рускія, украінскія, балгарскія, польскія, чэшскія, славацкія, сербскія, баснійска-сербскія, герцагавінска-сербскія, чарнагорска-сербскія, харвацкія, македонскія, славенскія, лужыцка-сербскія і кашубскія казкі. Выданне найперш уражвае выбарам. Казачны свет кожнага з народаў прадстаўлены двума творамі. Славяне ў сваёй казачнай прасторы на беларускай мове роўныя сярод роўных.

Хаця кніга і адрасавана зусім юнаму чытачу, вельмі прыемна, што ёсць у ёй лаканічны каментарый, які характарызуе і задачу кнігі, і задачу паяднання славянскіх нацыянальных культур. Вось што, у прыватнасці, гаворыць аўтар каментарыя: «Каб вобразна ўявіць сабе лёс усяго славянства, можна параўнаць яго з дрэвам: агульныя карані і адзін ствол, на якім з'явіліся многія адгалінаванні… Цяпер галіны яго ўяўляюць даволі вялікі шэраг асобных славянскіх народаў, большасць з якіх мае самастойную дзяржаўнасць… Пры ўсім гэтым, няўжо ж добра будзе, калі народы — славяне пазбавяцца памяці пра свой агульны радавод?..»

Вось казкі і не дадуць нам забыцца пра супольнасць славянскага свету. Яшчэ і таму, што шмат у іх агульных, блізкіх матываў, аднолькава важкіх для ўсіх народаў сардэчных і душэўных праяў. Неверагодныя казачныя гісторыі славян, адшліфаваныя папярэднімі стагоддзямі, становяцца школай паводзін для маленькіх насельнікаў славянскага свету, урокамі дабрыні, спагады, ласкі, маральнай чысціні.




Над перакладамі казак поруч з Іванам Чаротам (а ён узяў на сябе асноўныя перакладчыцкія клопаты) працавалі Таццяна Кабржыцкая, Вольга Кулеш, Мікалай Хмяльніцкі, Алена Вострыкава, Аляксей Чарота. «Падарунак ад усяго сэрца» пацвердзіў, што беларуская мова, беларуская перакладчыцкая школа з'яўляюцца выдатнай пляцоўкай для аб'яднання рознабаковых сіл славянскага свету. Шкада, што кніга не пабачыла свет да XV Міжнароднага з'езда славістаў, які адбыўся ў Мінску ў жніўні 2013 года. Была б магчымасць прэзентаваць цікавы для навукоўцаў розных краін творчы праект. Але будзем спадзявацца, што кнігу ўбачаць ва ўсім славянскім свеце. А гэта будзе падставай для развіцця новых стасункаў, пашырэння зацікаўленасці культурамі.

Зборнік славянскіх казак багата ілюстраваны Ганнай Івановай. Чытаць «Падарунак…» можна і зусім маленькім дзецям. Малюнкі дапамогуць успрыняць сюжэты і персанажы.

Выдавецкаму дому «Звязда» хацелася б пажадаць прадоўжыць знаёмства юнага чытача з казачным светам усяе нашай планеты. Раней такіх выданняў (найперш — дзякуючы выдавецтву «Юнацтва») нараджалася нямала. Цяпер, калі іншы спектр у творчай грамады з веданнем замежных моў, трэба прадоўжыць такую практыку на іншым творчым узроўні. Мо з часам адродзіцца і альманах дзіцячай літаратуры свету «Ветразь»?

**Мікола БЕРЛЕЖ**

# Навінкі кнігавыдання

*Айчынныя выданні, зарэгістраваныя Нацыянальнай кніжнай палатай Беларусі апошнім часам*

**Літаратура Беларусі на рускай мове**

**Ганаго, Б. А.** О промысле Божием: [рассказы для молодежи] / Борис Ганаго; иллюстрации: Наталья Сорока. — Минск: Братство в честь Святого Архистратига Михаила в г. Минске Минской епархии Белорусской Православной Церкви, 2012. — 67 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6978-49-7.

**Ганаго, Б. А.** Об образе Божием: [рассказы для детей: для среднего и старшего школьного возраста] / Борис Ганаго; иллюстрации: Наталья Сорока. — Минск: Братство в честь Святого Архистратига Михаила в г. Минске Минской епархии Белорусской Православной Церкви, 2012. — 71 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6978-48-0.

**Детям о молитве**: [литературные произведения классических и современных писателей: для среднего и старшего школьного возраста / составитель Куцаева Наталия Георгиевна; художник Г. Л. Иванова]. — 3-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 45 с. — Издано при участии ООО «Семья – Единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — Содержит авторов: Вечерская Е., Никитин И. — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-599-2.

**Квилория, В. Т.** Медвежий квартал: [для среднего и старшего школьного возраста / Валерий Квилория; художник Татьяна Заяц]. — Минск: В. Т. Квилория, 2013. — 32 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7046-21-8.

**Козел, Д.** Потерявшийся ангел: рассказы для взрослых и детей / Диана Козел. — Минск: Союз евангельских христиан баптистов в Республике Беларусь, 2013. — 205 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7033-06-5 (в пер.).

**Лясковский, В. Л.** Дэник и его друзья: [сказочная повесть: для чтения взрослыми детям (до 4 лет), для дошкольного возраста (от 4 до 6 лет), для младшего школьного возраста (от 7 до 10 лет)] / Виктор Лясковский; художники: Виктор и Алиса Чайчук. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 79 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-17-0659-0 (в пер.).

**Лясковский, В. Л.** Новые приключения Дэника: [сказочная повесть: для чтения взрослыми детям (до 4 лет), для дошкольного возраста (от 4 до 6 лет), для младшего школьного возраста (от 7 до 10 лет)] / Виктор Лясковский; художники: Виктор и Алиса Чайчук. — Минск: Книжный Дом, 2013. — 77 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-17-0660-6 (в пер.).

**Сенюк, М. А.** Сказки изумрудного леса / М. А. Сенюк. — Минск: Белорусская ассоциация «Конкурс», 2013. — 239 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-557-031-9 (в пер.).

**Соболев, А. В.** Орешенка и ее друзья: сказка: [для дошкольного возраста] / Андрей и Людмила Соболевы; [художник Шамсутдин Джачаев]. — Минск: Мир счастливой семьи, 2013. — 46 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7011-03-2 (в пер.).

**Филиппова, А. П.** Азбука в стихах: [для дошкольного возраста / Филиппова Анастасия Павловна; художники: Юлия Августинович, Дмитрий Дивин]. — Минск: Сибиллина, 2013. — 32 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7022-59-5.

**Чистякова, М. Б.** Машинки: раскраска малышам со стишками: [для дошкольного и младшего школьного возраста / автор стихов Мария Чистякова]. — Минск: Сказ, 2013. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-012-9.

**Чистякова, М. Б.** Техника: раскраска малышам со стишками: [для дошкольного и младшего школьного возраста / автор стихов Мария Чистякова]. — Минск: Сказ, 2013. — 10 с. — 10000 экз. — ISBN 978-985-563-011-2.

**Беларуская літаратура**

**Астахновіч, В. М.** Шакаладная дарога, альбо Гісторыя шакаладных плітак: казка і гульня: [для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту] / Вера Астахновіч. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 15 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0699-4.

**Барадулін, Р.** Сябрына: вершы: [для дашкольнага ўзросту] / Рыгор Барадулін; [ілюстрацыі: Пракаповіч М. В.]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 19 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-02-1393-8.

**Белорусские сказки**: [для дошкольного и младшего школьного возраста / литературная обработка Натальи Бабиной]. — Минск: Харвест, 2013. — 240 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-1764-7 (в пер.).

**Галіноўская, Н. В.** Звяры ў трамваі: вершы: [для малодшага школьнага ўзросту] / Ніна Галіноўская; [ілюстрацыі Аксаны Аракчэевай]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 45 с. — 2500 экз. — ISBN 978-985-02-1376-1.



***Якімовіч, А. М. Калі кукавала зязюля: аповесці: [для старэйшага школьнага ўзросту] / Аляксей Якімовіч; [мастак Г. Л. Раманоўская]. — Мінск: Звязда, 2013. — 205 с. — 1600 экз. — ISBN 978-985-7059-37-9 (у пер.).***

*У твораў, што склалі гэтую кнігу, досыць доўгі і няпросты шлях да чытача. Аповесць «Калі кукавала зязюля» ўпершыню была надрукавана ў часопісе «Маладосць» у 1996 годзе пад назвай «За родную зямлю». А праз два гады на старонках гэтага ж выдання выйшла яшчэ адна аповесь пісьменніка са Слоніма — «Панскае дзіця». І толькі цяпер, крыху перапрацаваныя аўтарам, гэтыя творы пабачылі свет асобнай кнігай. Аповесць «Калі кукавала зязюля» пераносіць чытача ў далёкае XVI ст., калі ішла вайна з Маскоўскім княствам. У аснову твора «Панскае дзіця» пакладзены падзеі нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года ў Польшчы, Беларусі і Літве супраць царскай Расіі і Прусіі, якія ажыццявілі другі падзел Рэчы Паспалітай у 1793 годзе.*

**Зайкава хатка**: беларуская народная казка: [для дашкольнага ўзросту / ілюстрацыі Вольгі Максімовіч]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 14 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1462-1.

**Мінскевіч, С.** Усмешка Жалобнай Каралевы, альбо Таямніца магнітнага замка: аповесць легендарных часоў: [для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту] / Серж Мінскевіч; [мастак Н. У. Сустава]. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2013. — 269 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-02-1360-0 (у пер.).

**Падарожжа ў свет дзівосаў**: [казкі: для малодшага школьнага ўзросту / укладальнік П. П. Саковіч; мастак А. А. Яцук; прадмова: Георгій Марчук]. — Мінск: Беларусь, 2013. — 263 с. — Частка тэксту на рускай мове. — Змяшчае аўтараў: Атрошчанка Г., Аўласенка Г., Бадак А., Галубовіч Я., Давідовіч С., Деревянко М., Зарэцкая Ю., Караленка А., Конеў Я., Марчук Н., Никольская О., Новаш Н., Пазнякоў М., Пашкоў Г., Рашкевич В., Саковіч П., Сівец Т., Сліва М., Стружецкая Л., Ткачоў В., Феранц В., Шырко В. — 4000 экз. — ISBN 978-985-01-1003-9 (у пер.).

**Самы разумны**: беларускія народныя казкі: [для чытання дарослымі дзецям / укладальнік Н. В. Філіповіч; мастак С. А. Волкаў]. — 3-е выд. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 101 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0693-2.

**Тэорыя літаратуры**

**Кабржыцкая, Т. В.** Гісторыя ўкраінскай літаратуры: украінска-беларуска-польскія літаратурныя дыялогі: вучэбны дапаможнік для студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі па філалагічных спецыяльнасцях: у 2 ч. / Т. В. Кабржыцкая, М. М. Хмяльніцкі, Э. Ю. Дзюкава. — Мінск: БДУ, 2012– — ISBN 978-985-518-708-1.

Ч. 1: Міжкультурныя камунікацыі. Ад старажытнасці да XX ст. — 2012. — 230 с. — Частка тэксту на польскай і ўкраінскай мовах. — 200 экз. — ISBN 978-985-518-709-8.

**Смолік, А. І.** Божы дар Івана Кандрацьева / А. І. Смолік; Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў. — Мінск: БДУКМ, 2013. — 259 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 200 экз. — ISBN 978-985-522-075-7 (у пер.).

**Стремок, И. М.** Литературное чтение: учебник для 3-го класса учреждений общего среднего образования с белорусским языком обучения / И. М. Стремок. — 2-е изд., переработанное. — Минск: Национальный институт образования, 2013. — 141 с. — 19830 экз. — ISBN 978-985-559-216-8 (в пер.).

**Беларуская літаратура**

**Варапаева, В. С.** Сшытак па літаратурным чытанні: 3-ці клас: дадатак да вучэбнага дапаможніка «Літаратурнае чытанне» для 3-га класа (аўтары: В. С. Варапаева, Т. С. Куцанава) / В. С. Варапаева, Т. С. Куцанава. — 4-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2013. — 77 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0639-6.

**Варапаева, В. С.** Сшытак па літаратурным чытанні: 4-ты клас: дадатак да вучэбнага дапаможніка «Літаратурнае чытанне» для 4-га класа (аўтар Анатоль Клышка) / В. С. Варапаева, Т. С. Куцанава. — 4-е выд. — Мінск: Аверсэв, 2013. — 95 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-19-0641-9.

**«Жыццё не песціла мяне...»**: успаміны пра Васіля Уладзіміравіча Івашына / [укладальнік Сцяпан Лаўшук]. — Мінск: Беларускі Дом друку, 2013. — 238 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 150 экз. — ISBN 978-985-6995-22-7 (у пер.).

**Макарэвіч, А. М.** Гісторыя беларускай літаратуры першай трэці XX ст.: дапаможнік: [для студэнтаў]: у 2 ч. / А. М. Макарэвіч; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт ім. А. А. Куляшова. — Магілёў: МгДУ, 2013– — ISBN 978-985-480-866-6.

Ч. 1. — 2013. — 254 с. — 240 экз. — ISBN 978-985-480-853-6.

**Марціновіч, А.** Элаіза Пашкевіч: Цётка ўсіх беларусаў / Алесь Марціновіч. — Мінск: Харвест, 2013. — 62 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-1983-2.



***Бензярук, Р. М. Патапка і яго сябры: [казкі: для дашкольнага і малодшага школьнага ўзросту] / Расціслаў Бензярук; [мастак С. А. Волкаў]. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 71 с. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0635-2.***

*Усім вядома, што дзеці вельмі любяць жывёл, асабліва маленькіх: кацянят, шчанят, куранят… Таму цалкам мэтазгодна і кнігі для дзяцей пісаць не пра вялікіх, дарослых жывёл, а пра іх дзетак. Яны ж таксама, як і дзеці, гуляюць, скачуць, прыдумваюць усялякія забаўкі. Не верыце? Пачытайце кнігу Расціслава Бензерука пра прыгоды медзведзяняці Патапкі і яго сяброў. Дапытлівыя чытачы знойдуць тут казкі-загадкі, а дзіцячыя лялечныя тэатры змогуць зладзіць пастаноўку п'есы-казкі «На паляне, каля ёлкі…».*

**Навумовіч, У. А.** Беларуская літаратура: вучэбны дапаможнік для навучэнцаў устаноў адукацыі, якія рэалізуюць адукацыйныя праграмы сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальна-тэхнічнай адукацыі: з электронным дадаткам / У. А. Навумовіч. — 2-е выд., дапоўненае. — Мінск: Вышэйшая школа, 2013. — 475 с. + 1 электронна-аптычны дыск (CD-ROM). — 2000 экз. — ISBN 978-985-06-2271-6. — ISBN 978-985-06-1950-1-6 (асобн. кн.) (у пер.). — ISBN 978-985-06-2270-9 (CD-ROM).

**Пашкевіч, А.** Карусь Каганец: «Кроў з крыві беларуса...» / Алесь Пашкевіч. — Мінск: Харвест, 2013. — 63 с. — 1500 экз. — ISBN 978-985-18-1982-5. — ISBN 978-985-20-1982-5 (памылк.).

**Рублевская, Л. И.** Рифма ценою в жизнь: эссе по истории белорусской литературы / Людмила Рублевская. — Минск: Звязда, 2013. — 278 с. — 1100 экз. — ISBN 978-985-7059-25-6 (в пер.).

**Археалогія**

**Матэрыялы па археалогіі Беларусі** = Materials on the archaeology of Belarus: зборнік навуковых артыкулаў / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі. — Мінск: Беларуская навука, 1957– — Заснаваны ў 1957 г. — ISSN 2220-4717.

Вып. 24: Даследаванне сярэдневяковых старажытнасцей Цэнтральнай Беларусі (памяці Ю. А. Заяца) = The investigations of medieval antiquities of Central Belarus (in remembrance of Y. A. Zayatc) / [укладальнікі: В. М. Ляўко, В. Л. Лакіза, А. М. Мядзведзеў ; навуковы рэдактар В. М. Ляўко]. — 2013. — 382 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 150 экз. — ISBN 978-985-08-1543-9.

**Краязнаўства**

**Брест. Московский район**: портрет на фоне времени / [автор концепции и текста А. М. Суворов; фото: В. В. Байковский и др.]. — Брест: Полиграфика, 2013. — 207 с. — 1000 экз. — ISBN 978-985-6970-50-7 (в пер.).

**Гальпяровіч, Н. Я.** Віцебск – горад майстроў і мастакоў / Н. Я. Гальпяровіч, Н. Г. Ваніна, Т. М. Сівец; [рэдкалегія: Н. Г. Ваніна і інш.; фота В. В. Дняпроўскага і інш.]. — Мінск: Пачатковая школа, 2013. — 94 с. — Частка тэксту паралельна на беларускай і англійскай мовах. — 2000 экз. — ISBN 978-985-6988-95-3 (у пер.).

**Речице – 800**: путеводитель. — Речица, 2013. — 26 с. — 1000 экз.

**Гістарычная навука. Гістарыяграфія**

**Государственный архив Минской области: страницы истории** / [В. М. Матох и др.; научный редактор С. В. Жумарь]. — Минск: Белстан, 2013. — 142 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-6944-37-9.

**Теория и практика белорусской археографии (XVIII–XX вв.)**: сборник документов / Департамент по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь, Белорусский научно-исследовательский институт документоведения и архивного дела; [составитель М. Ф. Шумейко]. — Минск: БелНИИДАД, 2013. — 365 с. — Часть текста на белорусском языке. — 100 экз. — ISBN 978-985-6733-66-9 (ошибоч.).

**Усеагульная гісторыя**

**Олимпиады по истории:** Всемирная история, история Беларуси / [А. А. Прохоров и др.]. — Минск: Аверсэв, 2013. — 320 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-0561-0.

**Гісторыя Сярэдніх вякоў, новага і найноўшага часу**

**Мишо, Ж. Ф.** История крестовых походов / Жозеф Франсуа Мишо; с использованием иллюстраций Гюстава Доре; [перевод С. Л. Клячко; современная версия перевода и комментарии З. Баблаян; предисловие В. Яськов; художники: С. Кривенченко и др.]. — Москва: Астрель, 2013. — 268 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 1000 экз. — ISBN 978-5-271-41478-7 (Астрель). — ISBN 978-985-18-1754-8 (Харвест) (в пер.).

**Петкун, И. Я.** Всемирная история Новейшего времени: опорные конспекты: для подготовки к централизованному тестированию / И. Я. Петкун. — Минск: Аверсэв, 2013. — 219 с. — 2100 экз. — ISBN 978-985-19-0604-4.

**Хрестоматия по Новейшей истории стран Азии, Африки и Латинской Америки**: 1945–2010 гг.: пособие для студентов, обучающихся по специальности 1-21 03 01 «История (по направлениям)» / [составители: В. С. Кошелев и др.; под научной редакцией В. С. Кошелева]. — Минск: БГУ, 2012. — 335 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-734-0 (в пер.).

**Гісторыя зарубежных краін**

**Форд, Г.** Моя жизнь. Мои достижения / Генри Форд; [перевод с английского Е. А. Качелина]. — Москва: АСТ, 2013. — 349 с. — Издано при участии ООО «Харвест» (Минск). — 2000 экз. — ISBN 978-5-17-077968-0 (АСТ). — ISBN 978-985-20-0086-4 (Харвест) (в пер.).

**Гісторыя Расіі. Гісторыя СССР у цэлым**

**Егорычев, В. Е.** Если мы наследники Чесна...: [об отечественной и мировой истории] / В. Е. Егорычев; [автор вступительной статьи Бронислав Ермашкевич]; Гродненский государственный университет им. Янки Купалы. — Гродно: ГрГУ, 2013. — 599 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-515-625-4 (в пер.).

**История России и Украины (с древнейших времен до конца XVIII в.)**: пособие для студентов исторических факультетов высших учебных заведений Республики Беларусь / [О. А. Яновский и др.; под научной редакцией О. А. Яновского]. — Минск: БГУ, 2012. — 502 с. — 200 экз. — ISBN 978-985-518-754-8 (в пер.).

**Лисицын, М. А.** Невыдуманные истории из деревни Васькино: [рассказы о Великой Отечественной войне 1941–1945 гг.] / Михаил Лисицын. — Минск: Национальная библиотека Беларуси, 2013. — 36 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-6879-98-5.

**Российские и славянские исследования**: научный сборник. — Минск: БГУ, 2004– — ISSN 1995-5634.

Вып. 7 / [редколлегия: А. П. Сальков, О. А. Яновский (отв. редакторы) и др.]. — 2012. — 394 с. — Часть текста на английском и белорусском языках. — 100 экз. — ISBN 978-985-518-716-1.

**Гісторыя Беларусі**

**Бездзель, В. Я.** Дзеці на акупаванай тэрыторыі Беларусі (1941–1944) / В. Я. Бездзель; пад навуковай рэдакцыяй У. К. Коршука; Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт. — Віцебск: ВДТУ, 2013. — 156 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-481-298-4.

**Бутэвіч, А. І.** Таямніцы Нясвіжскага замка: падарожжа ўглыб стагоддзяў з Уладзіславам Сыракомлем / Анатоль Бутэвіч; [фотаздымкі Уладзіміра Шолка і інш.]. — Мінск: Звязда, 2013. — 190 с. — Частка тэксту паралельна на рускай і англійскай мовах. — Частка тэксту на рускай мове. — 2500 экз. — ISBN 978-985-7059-22-5 (у пер.).

**Города, местечки и замки Великого Княжества Литовского**: энциклопедия / [научные редакторы: Ю. В. Баженов и др.; художник В. П. Свентоховский]. — 2-е изд. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 310 с. — Часть текста на белорусском языке. — 2000 экз. — ISBN 978-985-11-0710-6.

**Зялінскі, П. І.** Гісторыя Беларусі (1917–1945): дапаможнік для студэнтаў, якія навучаюцца па спецыяльнасці 1-21 03 01 «Гісторыя (па напрамках)» / П. І. Зялінскі, У. К. Коршук, У. Ф. Ладысеў. — Мінск : БДУ, 2012. — 270 с. — 150 экз. — ISBN 978-985-518-753-1.

**Калінкавіцкі летапіс**: военный дневник Кости Ермилова / [составители: В. А. Лякин, С. С. Шевченко]. — Мозырь: Белый Ветер, 2013. — 24 с. — Часть текста на белорусском языке. — 113 экз. — ISBN 978-985-542-180-2.

**Космач, П. Г.** М. Почобут-Одляницкий: очерк истории жизни и деятельности / П. Г. Космач; Белорусский государственный университет, Исторический факультет. — Минск: РИВШ, 2012. — 86 с. — 55 экз. — ISBN 978-985-500-604-7.

**Мигун, Д. А.** Беларусь в германо-советских отношениях (ноябрь 1918 – июнь 1941 гг.): монография / Д. А. Мигун. — Минск: Издательский центр БГУ, 2013. — 302 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-553-061-0.

**Новосельский, В. В.** История Великого Княжества Литовского от рождения до Люблинской унии (1236–1569), или 333 года борьбы за возвышение и выживание: Витовт – борьба за возвышение (1392–1408). Восточный клубок противоречий: Тамерлан, Тохтамыш, Эдигей. Битва на Ворскле и ее последствия. — Минск: Элайда, 2013. — 320 с. — 750 экз. — ISBN 978-985-7019-22-9.

**Польша – Беларусь, 1921–1953**: сборник документов и материалов / Национальная академия наук Беларуси, Институт истории, Департамент по архивам и делопроизводству Министерства юстиции Республики Беларусь; [составители: А. Н. Вабищевич и др.; редколлегия: А. А. Коваленя (председатель) и др.; перевод документов с французского языка О. Е. Орленко]. — 2-е изд. — Минск: Беларуская навука, 2013. — 420 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-08-1550-7.

**Пракаповіч, І. М.** 1812. Вайна на Пастаўшчыне / Ігар Пракаповіч, Вадзім Шышко. — Мінск: Кнігазбор, 2013. — 75 с. — 400 экз. —ISBN 978-985-7057-50-4.

**Сарычев, В. В.** В поисках утраченного времени: [о Бресте и брестчанах: документальный цикл] / Василий Сарычев. — Брест: Брестская типография, 2006– — ISBN 978-985-6814-58-0.

Кн. 5: Брест цвета фельдграу. — 2013. — 294 с. — 3900 экз. — ISBN 978-985-524-139-4.

**Тарас, А.** 1812 год. Трагедия Беларуси / Анатоль Тарас. — Минск: Харвест, 2013. — 246 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-1471-7 (в пер.).

**Человек и мир. Моя Родина – Беларусь**: учебник для 5-го класса специальных общеобразовательных школ с русским языком обучения / [С. В. Панов и др.]. — Минск: Издательский центр БГУ, 2013. — 133 с. — 3065 экз. — ISBN 978-985-553-089-4 (в пер.).

**Выданні для моладзі. Дзіцячая, юнацкая літаратура**

**Большая любовь в маленьком сердце**: рассказы о необыкновенных детях / [художник Мария Шотик-Гавраш]. — Гродно: Гродненская епархия Римско-католической Церкви в Республике Беларусь, 2013. — 350 с. — 250 экз. — ISBN 978-985-6940-28-9.

**Велько, А. В.** Святитель Спиридон Тримифунтский чудотворец / [Велько Александр Владимирович]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 24 с. — Издано при участии ООО «Семья – Единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-582-4.

**Велько, А. В.** Святой мученик Гавриил Белостокский: небесный покровитель детей и подростков / [Велько Александр Владимирович]. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 20 с. — Издано при участии ООО «Спутник Христианина» (Москва). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-600-5.

**Головоломки подводного мира**: [для детей от 7 до 10 лет / составитель Матвеева Яна Александровна; художники: Дмитрий Дивин, Янис Шульц]. — Минск: Сибиллина, 2013. — 20 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7022-61-8.

**Ермоленко, Н. В.** Ядерная энергия, что это такое?: [для школьного возраста] / Н. В. Ермоленко, Н. Н. Тушин ; Международный государственный экологический университет им. А. Д. Сахарова. — Минск: Альтиора – Живые Краски, 2013. — 26 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7073-09-2.

**Кваки в Стране Эльфов**: сказка о фее Радости: раскраска с заданиями / [составители: Колесникович Наталья Александровна, Давлетбаева Ольга Александровна; художники: А. Бондаренко, М. Терещенко]. — Минск: Типография Макарова и К, 2013. — 23 с. — 6000 экз. — ISBN 978-985-6818-84-7.

**Макаревич, Т. Н.** Отдых на природе и бережливость: [для среднего школьного возраста] / Т. Н. Макаревич. — Минск: Беларусь, 2013. — 30 с. — Издано при информационной поддержке ШПИРЭ (школьного проекта использования ресурсов и энергии). — 2500 экз. — ISBN 978-985-01-1029-9.

**Молитвослов для самых маленьких** / [художник Евгения Суховерхова]. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2013. — 19 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7020-07-2.

**Перельман, Я. И.** Большой подарок эрудиту / Я. И. Перельман. — Минск: Харвест, 2012. — 238 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-18-1033-4 (в пер.).

**Преподобный Серафим Вырицкий** / [пересказала для детей Вечерская Елена Вадимовна]. — 3-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 16 с. — Издано при участии ООО «Семья – Единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — 1500 экз. — ISBN 978-985-511-498-8 (ошибоч.).

**Растения-хищники**: [для младшего школьного возраста / составитель Т. И. Жуковская]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 16 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-11-0598-0.



***Фірыновіч, А. Э. Паўстанне 1863 — 1864 гг.: вядомыя і невядомыя крыніцы беларускіх архіваў / А. Э. Фірыновіч; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут гісторыі. — Мінск: Беларуская навука, 2013. — 314 с. — Частка тэксту на польскай і рускай мовах. — 400 экз. — ISBN 978-985-08-1545-3.***

*2013 год, які ў многім прайшоў пад знакам паўстання 1863 — 1864 гадоў, садзейнічаў выяўленню і публікацыі новых звестак пра падзеі, а таксама актывізаваў сам працэс даследавання невядомых старонак паўстання. Так, выйшлі новыя манаграфіі, навукова-папулярныя выданні, прысвечаныя разгляду розных аспектаў нацыянальна-вызваленчага руху сярэдзіны XIX ст. У дадзеным даследаванні асноўная ўвага звернута на дакументальныя крыніцы. Тут прааналізаваны працэс фарміравання дакументальнага корпуса публікацый па гісторыі паўстання 1863 —1864 гг., праведзена класіфікацыя і відавая характарыстыка выяўленых у беларускіх архівасховішчах неапублікаваных крыніц аб падзеях 1863 —1864 гг., створаны іх банк даных і акрэслены інфармацыйны патэнцыял. Думаецца, кніга будзе запатрабаваная гісторыкамі і падштурхне да новых адкрыццяў і публікацый.*

**Святая благоверная великая княгиня Анна Кашинская** / [пересказала для детей Демченко Светлана Петровна]. — 4-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 16 с. — Издано при участии ООО «Семья – Единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-501-5 (ошибоч.).

**Святая блаженная Матрона Московская** / [пересказала для детей Вечерская Елена Вадимовна]. — 4-е изд. — Минск: Белорусская Православная Церковь (Белорусский Экзархат Московского Патриархата), 2013. — 16 с. — Издано при участии ООО «Семья – Единение – Отечество» (деревня Семково, Минский район) и ООО «Спутник Христианина» (Москва). — 3000 экз. — ISBN 978-985-511-601-2.

**Семь цветов радуги**: [для младшего школьного возраста / составитель Т. И. Жуковская]. — Минск: Беларуская Энцыклапедыя, 2013. — 13 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-11-0597-3.

**Сурженко, Л. А.** Философия в сказках: [пособие по воспитанию] / Л. Сурженко. — Минск: Букмастер, 2014. — 251 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-660-2 (в пер.).

**Угадай, кто самый-самый**: [для чтения взрослыми детям / редактор-составитель Филиппова Анастасия; художник Марина Рудько]. — Минск: Сибиллина, 2013. — 35 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7022-63-2.

**Филиппова, А. П.** В мире космических тайн: [для чтения взрослыми детям] / Анастасия Филиппова; [художник Янис Шульц]. — Минск: Сибиллина, 2013. — 19 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-7022-57-1.

**Цеханский, С. П.** Большая книга для маленьких суперменов: [для среднего и старшего школьного возраста / Цеханский Сергей Петрович]. — Минск: Харвест, 2013. — 159 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-20-0280-6 (в пер.).

**Ягоўдзік, У. І.** Зайцаў хлеб: [для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту] / Уладзімір Ягоўдзік; [фотаздымкі І. Бышнёва і інш.]. — Мінск: М. Ягоўдзік, 2013. — 11 с. — Фотаздымкі таксама: Гулінскі М., Дубіловіч В., Сугойдзь В., Чарапіца С. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6691-41-9.

**Ягоўдзік, У. І.** Начны князь: [для малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту] / Уладзімір Ягоўдзік; [фотаздымкі І. Бышнёва і інш.]. — Мінск: М. Ягоўдзік, 2013. — 11 с. — Фотаздымкі таксама: Гулінскі М., Дубіловіч В., Чарапіца С. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6691-40-2.

# Сказки о любви

**Говорят, что женские романы — не литература, а словесный сироп, который можно есть, но понемногу — не больше чайной ложки в день. Компактные томики с изображением полуобнажённых парочек, внешностью равным богам с Олимпа, не утрачивают своей популярности, несмотря на имидж низкопробного чтения. Почему? — удивляются достопочтенные критики, а граждане ждут выхода очередной любовной истории.**




Секрет прост до неприличия: людям нужен отдых, периодический побег от реальности, погружение в сказку, водоворот мечтаний, пусть даже глупых и банальных. Разумеется, женские романы предпочитают те, для кого они предназначены, — милые и хрупкие дамы, водрузившие себе на плечи все тяготы жизни. Пропахшие луком, картошкой и стиральным порошком руки, утомительная работа, головная боль, бунтующие нервы — кому не знакомо? Ничего удивительного, что ищем в книгах идеальный мир. Скарлетт О'Хара из «Унесённых ветром» или Анжелика, созданная Анн и Сержем Голон, — классические символы женской литературы. Но существует огромный «цветник» романов, которые бережно «выращивают» современные авторы — по законам природы среди них попадаются и «розы», и «сорняки». Они могут быть прочитаны «на одном дыхании», но... лишь один раз. После того как занавес последних страниц опущен, судьба такой книги — мирно покоиться на книжной полке.

В романе Эйлин Драйер **«Как истинный джентльмен»**, вышедшем в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», действие происходит в XIX веке между Францией и Англией. Главная героиня, Грейс Фэрчайлд, — скромная одинокая девушка, которую считают старой девой и уродливой глупышкой. «Серый мотылёк среди бабочек», — называет её писательница и между строк провозглашает, что внешность не главное. Грейс ходила в неизменном сером платье и с туго стянутыми на затылке волосами, отличаясь грацией раненого кавалерийского офицера, но ей никогда не приходило в голову плакать, она не понимала тех, кто тратит время на жалость к себе. Грейс была сиротой, её отец погиб в битве при Ватерлоо, в которой она тоже участвовала: помогала солдатам, ухаживала за ранеными, даже сражалась как солдат, потому прекрасно владеет оружием. Сильная, мужественная, отважная, готовая прийти на помощь, она слишком беспокоится о других, не думая о себе. Чем не пример для подражания? Судьба подбрасывает на её долю испытание: однажды утром самая уважаемая леди Англии оказывается в постели с незнакомцем, запутавшись в простынях, изумлении и ужасе: кто он такой и как я сюда попала? Обаятельный повеса Диккан Хиллиард оказывается джентльменом, предложившим ей руку и сердце, разумеется, в целях не испортить себе репутацию. Но сможет ли он полюбить спутницу по несчастью?..

Стоп! Дальше начинается женский роман в лучших традициях жанра. Правда, сопровождаемый парочкой убийств, заговором британской знати, солидным историческим фоном, неплохими пейзажными зарисовками и, главное, — вполне остроумными диалогами. «В комнате стоял резкий запах виски, пота и отчаяния», — начало книги явно не сулит тонких стилистических оборотов и продуманных метафор. Зато её продолжение вполне элегантно спасает читателей от приевшейся обыденности и позволяет подумать о жизни — не суперменов или киборгов, а простой женщины со всеми её переживаниями и мечтаниями.

Роман Дженнифер Хеймор **«Дерзкая невинность»**, вышедший в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», без долгих прелюдий окунает читателей в атмосферу самого изысканного и безудержного из светских развлечений — бала. Первая встреча главных героев происходит именно здесь, среди пышных кружев, атласных юбок, начищенных туфель и утончённых фраков. «Она была ангелом: стройная, хрупкая фигура, тонкие черты лица, копна густых светлых волос», — повествует автор. Речь идёт об Оливии Донован, чья красота, впрочем, заключалась в силе духа и уверенности в себе. Склонная к болезням, она жила в окружении сестёр и не помышляла о супружестве. «Наша бедная святая Оливия!» — говорили они. Но неприступность, как известно, — магнит для мужчин. Загадочный кавалер на балу оказался Максвеллом Бьюкененом,




будущим наследником герцогского титула, а его ухаживания превратились в бальзам для души. Девушка и не подозревает, что он заключил на её счёт пари с друзьями, а потом, как в американских фильмах, сам влюбился до беспамятства. Не стоит переживать, ведь с первых страниц читатель уверен: финал романа, вопреки законам здравого (и не очень) смысла, будет сказочным. Несмотря на все трудности, красивые, молодые и богатые герои остаются вместе. Главное — не увлечься чтением так, чтобы не утратить связь с реальностью: на работу не проспать, детей не оставить голодными и про мужа не забыть.




В романе Карли Филлипс **«Карма любви»**, вышедшем в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», всё начинается, мягко говоря, плохо, ведь безответная любовь — это не шутки. Впрочем, сюжеты дамских романов всегда напоминают друг друга, повторяясь, как круговорот веществ в природе. Главный страдалец на этот раз — полицейский Дэр Бэррон. Он сходит с ума по очаровательной Лиссе Макнайт, как несложно догадаться, с золотистыми глазами, длинными ногами и женственными округлостями. Она частенько заглядывает в полицейский участок, чтобы в очередной раз вызволить непутёвого брата, который считает, что раз он богат — можно пьянствовать и дебоширить сколько душе угодно. Внезапно Лисса оказывается в опасности, а Дэр, естественно, бросается ей на помощь, превращаясь в телохранителя, готового ради неё на всё. Нет, «Карму любви» не стоит путать с киношедевром Мика Джексона, но для расслабляющего чтения это не худший вариант.

В романе Кристиан Брук **«Без ума от графа»**, вышедшем в издательстве «АСТ» при поддержке ООО «Харвест», местом любовных «столкновений» становится Лондон 1815 года. Сюжет слегка напоминает сказку о «красавице и чудовище», только герой не уродливый монстр, а просто мужчина неаристократической внешности. Грубый, сильный, пропахший лошадьми и потом — таким впервые предстаёт перед читателем Лорд Гриффин, граф Трегарт. Его называют кельтским упрямцем и дикарём, пугающим женщин. Но, оказывается, в те времена существовала таинственная организация — «министерство брака», которая без спросу сватала молодых людей исходя из постулата: «Брак — это деловое соглашение между двумя знатными семьями». Так что и ему приходится остепениться. Героиня, его невеста, напоминает фарфоровую куклу с голубыми, как небо, глазами и перламутровой кожей, но при этом — умная, смелая, с пылким, жаждущим любви сердцем. С помощью пресловутой женской интуиции она улавливает в лорде Гриффине куда большее, чем видится на первый взгляд: «Мужчины в глубине души очень ранимые создания, несмотря на их физическую силу и напускную развязность. С ними надо вести себя тонко и осторожно, чтобы ненароком не обидеть, случайно не задеть болезненного самолюбия», — уверена Розамунда. И не зря: в итоге она приручает «непробиваемого» лорда. Впрочем, читателю не следует надеяться на историю в духе «Укрощения строптивого». После того как герои женятся (правда, спустя три года), повествование становится менее увлекательным. В романе есть и детективная линия, но она настолько слабо проработана, что кажется лишней. Лучше бы автор добавила




немного мистики, более подходящей для любовных сказок. Совершенные герои и героини, воплощающие идеальную красоту и доброту в женских романах, — раздражающий, но поучительный фактор. Внешность не всегда играет главную роль. Характеры — вот на что следует обратить внимание читателю! И, возможно, взять на заметку благородство и стойкость духа, проявленные персонажами в тяжёлых жизненных ситуациях.

**Мария ВОЙТИК**

# Человек родился!




Роман Татьяны Соломатиной «Девять месяцев. Комедия женских положений», изданный при поддержке ООО «Харвест», повествует о родильном доме, где разворачиваются важные события в жизнях и судьбах героинь.

Действующие лица этой книги совершенно разные. По одну сторону «баррикад» оказывается медицинский персонал, каждый его представитель — со своими историями и особенностями характера. Это Софья Константиновна Заруцкая, старший ординатор обсервационного отделения, а позже — исполняющая обязанности заведующего этим же отделением, женщина средних лет, определившая приоритеты, знающая толк в своей профессии, в рождении жизни да и в жизни вообще. Павел Петрович Романец, заместитель главного врача по лечебной работе, на добрые слова скуповат, но изредка может защитить, похвалить, поддержать. Светлана Степановна Шевченко, акушерка, вечно снующая где попало, вымогающая у рожениц деньги якобы на листы для выписки, ручки и прочие канцтовары, умело засовывающая эти деньги в свой карман и не менее умело забывающая о том, на что ей их давали.

С другой стороны — пациентки роддома. Александра Сорокина, имеющая двоих бывших мужей, двоих детей, прожигательница жизни без образования. Лариса Пичугина, главный менеджер по продаже медицинского оборудования фирмы. Екатерина Штанько, или Пупсик, девушка смышлёная, знающая пару иностранных языков... И вот в один счастливый день все эти женщины оказываются в одном роддоме. Екатерина, Лариса и Александра приехали сюда, естественно, рожать, а вот беременная Софья Константиновна принимает у них роды. Суматоха, крик, волнение — все благополучно стали матерями, за исключением Софьи Константиновны (срок маловат), и на свете стало на несколько сердец больше.

В книге «Девять месяцев. Комедия женских положений» имеют место курьёзные случаи и печальные истории. Но в любом случае роман заставляет сопереживать героям и радоваться вместе с ними.

**Наталья УСЕНКО**

Беларускі саюз кампазітараў адзначыў сваё 80-годдзе. Галоўнай гераіняй урачыстасцей была музыка, прадстаўленая ў чарадзе праграм, прымеркаваных да знамянальнай даты. Лепшыя выканаўцы, партытуры «з гісторыяй» і зусім свежыя прэм'еры: спадчына Анатоля Багатырова і Яўгена Глебава, творы сучасных класікаў Дзмітрыя Смольскага, Сяргея Картэса, Андрэя Мдзівані, прызнаных майстроў Віктара Войціка, Галіны Гарэлавай, Андрэя Бандарэнкі, Уладзіміра Кур'яна, іх маладзейшых калег... І ўсё ж свята атрымалася з гаркавінкай. Чаму? Далёка не ўсе таленавітыя і паспяховыя прадстаўнікі саюза змаглі паказаць свае творы ў «абойме» юбілейных канцэртаў. Выклікаў нараканні мастацкі ўзровень выкананых праграм. Парад сучаснай беларускай музыкі праходзіў у сталічных залах без належнай рэкламы. Падзея, па сутнасці, гістарычнага маштабу не атрымала годнага розгаласу. І ўзнікла ўражанне, што з жыцця грамадства, «глухаватага» да роднай музыкі, паціху знікае цэлы пласт мастацкай культуры.

# «Непрэстыжная» прафесія?!

Энтузіясты з праўлення саюза знайшлі неабыякавых калег, згодных выказацца з нагоды адсвяткаванага юбілею і звярнуць грамадскую ўвагу на праблемы сваёй творчай суполкі ды самой кампазітарскай прафесіі. Развагамі падзяліліся члены праўлення БСК: прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, кандыдат мастацтвазнаўства Радаслава Аладава; заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, загадчык кафедры кампазіцыі БДАМ, прафесар Галіна Гарэлава; музыказнаўца Таццяна Песнякевіч; сакратар праўлення, кампазітар Аліна Безенсон, а таксама добра вядомы ў творчым асяроддзі прадстаўнік самай маладой генерацыі саюза Канстанцін Яськоў. Сабрацца за агульным «круглым сталом» дапамагла ўдзельнікам віртуальнай размовы каардынатар абмеркавання Святлана Берасцень.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ.** Такім чынам, розгалас ад юбілейных урачыстасцей не дасягнуў маштабу падзеі, застаўшыся на ўзроўні пашыраных анонсаў у СМІ ды пераказаных прэс-рэлізаў. Свята адной з найстарэйшых творчых суполак адбілася ў масавай свядомасці не як вяха складанага і значнага перыяду культурнага жыцця краіны, а хутчэй як мерапрыемства карпаратыўнага кшталту. Музыкантам хапіла прычын для засмучэння... Недастатковую ўвагу ў мультымедыйнай прасторы да жыцця саюза кампазітараў хтосьці ўжо звыкла тлумачыць зніжэннем прэстыжу прафесіі кампазітара, яе незапатрабаванасцю ў грамадстве, а хтосьці бачыць прычыны такога стаўлення ва ўнутраных праблемах саюза...

**Галіна ГАРЭЛАВА.** На пачатку гаворкі варта вызначыць самі паняцці «кампазітар» і «прафесія кампазітара». У нашым сучасным грамадстве страчаны крытэрый кампазітарскага прафесіяналізму і прытым існуе (так і хочацца сказаць «развялася») такая колькасць «кампазітараў», якая перавышае рэсурсы самага неўтаймоўнага ўяўлення. Мы мусім тлумачыць, што існуе не проста розніца, а бездань між паняццямі **«кампазітар»** і **«аўтар музыкі»**. Бо кожны чалавек «з вуліцы», які сяк-так keміць у тэхніцы і мае мідзі-клавіятуру альбо нотны рэдактар, можа лёгка стаць **аўтарам музыкі,** таму што тая выпадковая камбінацыя клавіш, якую ён здатны набраць на мідзі-клавіятуры, паводле фармальных прыкмет будзе з'яўляцца музыкай. Але ці будзе ў гэтым «акце» прысутнічаць **кампазітарская творчасць**, дый увогуле — **творчасць**? Творчасць — гэта найвялікшая напруга ўсіх душэўных сіл і найвялікшая засяроджанасць на ідэі твора, над якім працуеш. Музыка (як і ўсялякае мастацтва) валодае многімі функцыямі: яна можа быць суцяшэннем, малітвай, пропаведдзю, споведдзю, катарсісам, адхланнем. Яна можа падтрымаць чалавека ў яго самыя цяжкія і самотныя хвіліны, як Імша Баха або сімфоніі Бетховена, Брамса, Чайкоўскага... Ды для гэтага ў музыцы абавязкова павінна быць **спалучэнне двух вытокаў: эстэтычнага і этычнага**. На жаль, у многіх «опусах» г. зв. «кампазітараў», якімі запоўнена ўся гукавая прастора нашага штодзённага існавання, адсутнічае і адно, і другое. Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі дае вельмі добрую адукацыю, сведчаннем — шматлікія лаўрэаты самых прэстыжных музычных конкурсаў. І студэнты кампазітарскага аддзялення навучаюцца ў акадэміі менавіта **творчасці**, вучацца законам формы і драматургіі, што дазваляць ім не вяршкі для школьнай насценгазеты зрыфмаваць, а напісаць паэму кшталту «Цыганоў» або раман кшталту «Ганны Карэнінай» (вядома, праз нотныя знакі). Зразумела, не кожны гэта зробіць (не можа быць шмат яркіх талентаў, тым больш геніяў у адзін час і ў адным месцы; вось і юбілейны форум паказаў, што, як у кожнай школе, у беларускай кампазітарскай школе ёсць і выдатнікі, і двоечнікі). Але нават калі адзінкі на гэта наважацца і смеласць іхняя дасць плён, мы, педагогі, будзем лічыць нашу місію выкананай. А сёння кампазітары, якія сур'ёзна працуюць у жанрах акадэмічнай музыкі, — гэта, па сутнасці, андэграўнд нашага грамадства.

**Радаслава АЛАДАВА.** Вядома, прафесіяналу цяжка не пагадзіцца з такой пазіцыяй. Аднак я, непапраўны аптыміст, бачу таксама іншыя аспекты вылучанай праблемы. Наш час дае многія **новыя** магчымасці ды формы стасункаў са слухачом. Найперш скажу пра пашырэнне геаграфічнай прасторы беларускай музыкі. З аднаго боку, ёсць запатрабаванасць твораў айчынных кампазітараў за мяжой. У той жа Гарэлавай нямала «інтэрнэтных» замоў на ноты яе твораў ад выканаўцаў з розных краін. Пры поўных залах праходзяць прэм'еры нашых аўтараў у Швейцарыі, Германіі (Г. Гарэлава), Польшчы (Яўген Паплаўскі, чый аўтарскі канцэрт у Кракаве адбыўся, дарэчы, падчас святкавання 80-годдзя БСК). Арганічна ўпісваюцца ў праграмы замежных музычных фестываляў творы Вячаслава Кузняцова, Аляксандра Літвіноўскага, Дзмітрыя Лыбіна. З другога боку, сёння існуе і **рэальнае** беларускае кампазітарскае замежжа. Дастаткова нагадаць пра такі яркі і арыгінальны талент, як Валерый Воранаў, чыя прэм'ера «Архітэктона» на тэкст В. Хлебнікава ў нашай філармоніі не пакінула абыякавых. Праўда, меркаванні былі палярныя. Аднак варта зважаць, што ўжо і ў нашай музыцы «сталае грамадзянства» набылі ідэі постмадэрнізму. А пошукі адэкватных сродкаў адлюстравання сучаснага светаадчування, асабліва ў творчасці нашых маладых лідараў Канстанціна Яськова і Вольгі Падгайскай (гэта яна з'яўляецца інспіратарам новых форм канцэртнага бытавання музыкі, якія прываблівоюць шырокую моладзевую аўдыторыю) даюць надзеі на будучыню. Ды, на жаль, Беларускі саюз кампазітараў з усёй гэтай дзейнасцю судакранаецца толькі «ўскосна». Зазначу таксама, што словы Галіны Канстанцінаўны пра «кампазітарскі андэграўнд грамадства» — не ўся праўда. Думаю, што хай сабе ў «калектыўным несвядомым», але прэстыж гэтай прафесіі існуе! А інакш маладыя, ды і не надта, кампазітары не шукалі б членства ў творчай арганізацыі, якая, па сутнасці, ужо 20 гадоў з'яўляецца фінансавым банкрутам. Менавіта гэтая акалічнасць пераконвае асабіста мяне, што, з аднаго боку, прафесійна-творчае аб'яднанне беларускіх кампазітараў жыццёва неабходнае, з другога ж, вымагае свайго **карэннага** рэфармавання. Вось тады і будзе магчымасць абмяркоўваць праблемы прэстыжу ў іншым ключы.

**Канстанцін ЯСЬКОЎ.** Што датычыць прэстыжу прафесіі, дык ён, безумоўна, цяпер не вялікі, але і не настолькі нізкі, як кажуць многія кампазітары старэйшага пакалення. Сёння нашай прафесіі прысвячаюць сябе людзі, якім цікавы сам від дзейнасці, якія атрымліваюць перш за ўсё ўнутранае задавальненне ад сваёй працы. Пытанне прэстыжу ў такім разе для іх абсалютна не важнае, бо ён знаходзіцца сярод вонкавага і другараднага. Што да запатрабаванасці прафесіі кампазітара ў грамадстве... Калі ахапіць позіркам па магчымасці ўсе сацыяльныя і рынкавыя нішы бытавання музыкі, усе формы яе існавання ў сучасным грамадстве, дык запатрабаванасць акажацца істотнай. Паводле асабістага досведу магу сцвярджаць, што досыць запатрабаваны сёння рамесны бок прафесіі: уменне хутка і ў добрай якасці рабіць інструментоўкі, аранжыроўкі, апрацоўкі, пералажэнні, камп'ютарную рэдактуру і набор нотных тэкстаў. Ёсць магчымасць працаваць і ў сферы прыкладной музыкі: кіно, тэатр, камп'ютарныя гульні. Пэўная патрэба ў новай музыцы зыходзіць з боку айчынных і замежных выканаўцаў, дзяржаўных калектываў. Але сёння ў кампазітараў ёсць магчымасць не толькі выконваць, скажам так, сацыяльны заказ. Ва ўмовах інфармацыйнага грамадства, лічбавых, камп'ютарных тэхналогій, інтэрнэт-сеціва ўжо нашмат лягчэй займацца вольнай творчасцю, г. зн. быць менш залежным ад выканаўцаў, канцэртных залаў, студый гуказапісу, СМІ. Цяпер, паводле сацыялагічных даследаванняў, усё больш людзей адмаўляецца ад музычных стандартаў масавай культуры, што насаджаюцца праз ТБ і радыё. Слухач, для якога музыка і мастацтва не столькі забаўка, колькі духоўны складнік жыцця, сыходзіць у інтэрнэт, дзе шукае сваю, тую, што рэзаніруе з яго ўнутраным светам, музыку. Такіх дапытлівых людзей, здатных думаць, шукаць, сёння нямала. А «дэмасіфікацыя» музычнай культуры вядзе да таго, што палітра густаў сучаснай аўдыторыі робіцца ўсё шырэйшай і багацейшай. Таму ў кожнага кампазітара, які ўмее карыстацца магчымасцямі глабальнага сеціва, ёсць шанц знайсці сваіх слухачоў, стварыць сваю хай і нешматлікую, але адданую аўдыторыю, знайсці альтэрнатыўныя філарманічнаму фармату месцы і спосабы прэзентацыі сваёй творчасці. Усё залежыць ад асабовых якасцей кампазітара, ад умення ісці на кантакт з людзьмі. І, вядома ж, ад таго, наколькі цікавы і шчыры ён у сваіх мастацкіх выказваннях: людзі заўсёды гэта адчуваюць, і менавіта гэтага цяпер бракуе. Наогул, за апошнія дзесяцігоддзі з прафесіі сышоў налёт пафасу, якім, і часта свядома, пакрывалася дзейнасць кампазітара ў межах рамантызму, авангарду і сацрэалізму. Сёння выканаўцам і слухачам імпануе кампазітар, які знаходзіць у іх раўнапраўных партнёраў па музычнай сутворчасці.

**Аліна БЕЗЕНСОН.** Кампазітар — адораны Богам чалавек, здольны ствараць, складаць, прыдумваць музычныя творы. Такой прафесіі ў звыклым сэнсе не існуе, бо кампазітары змушаныя, зарабляючы сабе на жыццё, выкладаць музычныя дысцыпліны і г. д. А калі кампазітар — жанчына? Дык прыплюсоўваецца яшчэ мноства побытавых клопатаў па хатняй гаспадарцы, выхаванні, навучанні дзяцей. Ну а калі кампазітар хоча, каб яго музыка была агучана і данесена да слухачоў, дык ён павінен быць і прадзюсарам, і менеджарам, і рэжысёрам, і арганізатарам. У некаторых калег ёсць магчымасць даручыць вырашэнне ўсіх гэтых праблем іншым людзям. А многія таленавітыя музыканты не вытрымліваюць цяжкасцей і сыходзяць у іншую прафесію, часта наогул не звязаную з музыкай... Ёсць кампазітары запатрабаваныя і незапатрабаваныя, прафесійныя і непрафесійныя. Незапатрабаваным прафесійным кампазітарам не варта адчайвацца. Сапраўдная музыка рана ці позна будзе запатрабаваная. Пра незапатрабаваных непрафесійных кампазітараў можна ўвогуле не гаварыць. Ну, а запатрабаваным прафесійным — «брава!!!» Іх музыка пастаянна выконваецца вучнямі ды студэнтамі музычных школ, каледжаў, ВНУ, вядучымі прафесійнымі калектывамі Беларусі не толькі ў нас, але і ў многіх іншых краінах.



*Старшыня Беларускага саюза кампазітараў, народны артыст СССР Ігар Лучанок разам са зводным хорам ДМШМ № 10 імя Я. Глебава прадставіў адну са сваіх папулярных дзіцячых песень.*

**«** Напярэдадні юбілейнай імпрэзы адбыўся ўнікальны канцэрт «Музыка беларускіх кампазітараў у сэрцах нашых дзяцей». У Вялікай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі выступілі поруч з педагогамі выхаванцы мінскай ДМШМ № 10 імя Я. Глебава (дырэктар Тамара Куніцкая). Яны прадставілі разнажанравую панараму беларускай музыкі ад XVI ст. да сённяшніх дзён і прысвяцілі сваю праграму 80-годдзю саюза кампазітараў. Прагучалі творы двух дзясяткаў аўтараў (у тым ліку амаль забытых класікаў савецкага часу). Музыка, напісаная не толькі адмыслова для юных пачаткоўцаў, але і для прафесійных выканаўцаў! А тое, што яскравыя канцэрты, цалкам складзеныя з лепшых старонак роднай музыкі, гэтая школа, вядомая сваімі вучнямі-лаўрэатамі, ладзіць у філармоніі кожны год і запрашае кампазітараў як ганаровых гасцей, — факт асабліва ўсцешны і аптымістычны.

**Галіна ГАРЭЛАВА.** Дадам, што выканаўцы для кампазітараў — добрыя анёлы, якія нясуць вестку пра нашу творчасць па краінах і кантынентах. Я іх абагаўляю!

Адна яскравая Вераніка Прадзед чаго вартая! Толькі за гэты сезон яе чарадзейныя цымбалы (і наша музыка!) прагучалі ці не па ўсёй Еўропе. Непараўнальны Міхаіл Канстанцінаў адкрыў і для слухачоў, і для аўтараў неверагодныя рэсурсы грання на ўдарных інструментах, уключаючы і сола на піле, і тэхніку біт-боксінгу. Знакаміты Ігар Алоўнікаў падрыхтаваў да юбілею БСК арыгінальную праграму са сваіх бліскучых транскрыпцый беларускай аркестравай музыкі. Прыемным юбілейным сюрпрызам для нас стаўся канцэрт Дзяржаўнага камернага аркестра з дырыжорам Яўгенам Бушковым. І нельга не сказаць пра цудоўную выканаўцу Наталлю Міхайлаву, якая пастаянна ўключае ў канцэрты Дзяржаўнага камернага хору прэм’еры новай беларускай музыкі. Хіба пералічыш усіх, хто дапамагае нам кантактаваць са слухачамі! Гонар, хвала ды нізкі паклон дарагім выканаўцам.

**«Музыка беларускіх кампазітараў гучыць дзякуючы або прыватным ініцыятывам саміх выканаўцаў, або неверагодным асабістым высілкам аўтараў».**

**Аліна БЕЗЕНСОН.** Так, яны заўсёды рады агучыць новыя цікавыя творы беларускіх аўтараў на розных выканальніцкіх конкурсах і канцэртах. А праграмы фарміраваць трэба так, каб прыйшлі зацікаўленыя слухачы. Чаму канцэрты беларускай харавой музыкі заўсёды праходзяць з аншлагам? Ёсць лідары, кіраўнікі калектываў: самі зацікаўленыя ў новых творах і ў залу прыцягваюць сваіх калег, студэнтаў і г. д. А на канцэртах-«салянках» нашай камернай музыкі, здараецца, выканаўцаў больш, чым слухачоў. Таму што, складаючы такія праграмы, не трэба змешваць творы для розных інструментаў з вакальнымі, тым болей з харавымі. У 2009 — 2010 гадах я арганізоўвала праект «Гукі роднага краю» (цыкл канцэртаў камернай музыкі беларускіх кампазітараў). Усе імпрэзы прайшлі з аншлагам. Першая складалася з твораў для фартэпіяна, другая — для домры, трэцяя — для струнна-смыковых, чацвёртая — для цымбал, пятая — з вакальнай музыкі. Наступныя (харавая музыка канца XX — пачатку XXI ст.; да 120-годдзя М. Багдановіча ды інш.) ладзіліся ў Вялікай зале БДФ і таксама былі аншлагавыя.

Пра мерапрыемствы да 80-годдзя саюза скажу, што ў іх арганізацыі нас падтрымалі Міністэрства культуры, Белдзяржфілармонія, БДАМ, студыя Дома радыё. У цэлым канцэрты прайшлі добра, нягледзячы на спантаннасць падрыхтоўкі. Але ж у саюзе няма мастацкага савета па фарміраванні канцэртных праграм. Яны сутаргава складаюцца ў апошні момант паводле індывідуальных заявак кампазітараў, таму атрымліваюцца бясконцымі і безгустоўнымі. Трэба загадзя замаўляць калектывы і салістаў — удзельнікаў канцэртаў, а да выканаўцаў падбіраць творы. Можна ладзіць некалькі аднародных канцэртаў камернай музыкі (вакальнай, фартэпіяннай, для народных інструментаў і г. д).

**Радаслава АЛАДАВА.** Наконт праграм канцэртаў-справаздач юбілейнай імпрэзы разважаць складана, бо яны былі відавочна перагружанымі музыкай, а мастацкі адбор, як гаворыцца ў такім выпадку, «пакідаў жадаць»... Сапраўды, гэта адна з самых балючых праблем, хаця вырашэнне, здавалася б, ляжыць на паверхні: цесны кантакт з кіраўнікамі выканальніцкіх калектываў і калегіяльны адбор. І тым не менш спашлюся на годны досвед зладжванага ў дні мерапрыемства (хаця афіцыйна не ўключанага ў яго межы) канцэрта з твораў выкладчыкаў і студэнтаў кампазітарскага аддзялення нашай Акадэміі музыкі. Тут загадчыку кафедры кампазіцыі ўдалося дасягнуць высокай гармоніі ўсіх складнікаў праграмы: мастацкага і творчага патэнцыялу прадстаўленай музыкі, узроўню выканальніцтва, уліку мажлівасцей слухацкага ўспрымання.

Нельга не адзначыць наогул годны выканальніцкі ўзровень юбілейных канцэртаў. Гэта асабліва важна, бо яны ўключалі салідную колькасць прэм’ер. Бадай, самая ўражлівая з іх — вакальны цыкл Сяргея Картэса на словы Таццяны Мушынскай «Прасторы маёй душы».

**Канстанцін ЯСЬКОЎ.** А з чаго вынікалі праблемы ўспрымання праслуханых праграм? Ці не з таго, што адсутнічала агульная канцэпцыя канцэртных імпрэз, скіраваная на прывабную прэзентацыю творчасці кампазітараў? Дарэчы, у перыяд між сваімі «справаздачнымі» мерапрыемствамі» саюз ніяк не ўплывае на рэпертуар творчых калектываў.

Музыка беларускіх кампазітараў гучыць дзякуючы або прыватным ініцыятывам саміх выканаўцаў, або неверагодным асабістым высілкам аўтараў. Саюз жа, на мой погляд, даўно перастаў быць платформай якіх-кольвечы ўзаемаадносін, бо там, апроч сходаў праўлення, практычна нічога не адбываецца. Праца секцый паралізавана. Даўно зніклі практыка абмеркавання новых работ, традыцыя творчых сустрэч. Саюз мог бы зрабіцца адным з актыўных асяродкаў музычнай культуры краіны і сталіцы, рэальным месцам сустрэч людзей, захопленых сучаснай музыкай, стаць камунікатыўнай пляцоўкай для прадстаўнікоў розных музычных субкультур.

**Галіна ГАРЭЛАВА.** Ведаеце, як нейкі вастраслоў вызначыў калісьці этыку ўзаемаадносін паміж кампазітарамі? «Кампазітар кампазітару — бекар». Пачуццё зайздрасці, якое заўжды прысутнічае ва ўсялякім творчым калектыве (у такім найскладаным арганізме!), цяпер, на маю думку, сышло ў мінулае. Назіраецца поўная абыякавасць да творчасці калег і поўная задаволенасць сабой і сваёй творчасцю на, скажам так, «сярэднім узроўні» кампазітарскай грамады. У кожным разе, калегі з пакалення нашых настаўнікаў (у адрозненне ад сённяшніх аўтараў) ніколі не дазвалялі сабе сыходзіць з канцэрта адразу пасля выканання ўласнага опуса, не даслухаўшы творы іншых. Публіка сёння абсалютна ўсеядная. Крытэрыі мастацкасці размытыя. Што ж атрымліваецца? Калі хочаш заставацца высокапрафесійным кампазітарам, дык значэнне для цябе павінна мець думка толькі некалькіх калег, тых, чыйму майстэрству і густу ты давяраеш: паводле іх рэакцыі на творчасць можаш вызначыць, рухаешся наперад альбо дэградуеш як прафесіянал.

**«...на канцэртах-“салянках” нашай камернай музыкі, здараецца, выканаўцаў больш, чым слухачоў».**

**Аліна БЕЗЕНСОН.** Этыка ўзаемаадносін? Калі ўжо некалькі гадоў у саюзе кампазітараў не праводзяцца агульныя сходы, да таго ж на сходах праўлення ніколі не прысутнічаюць усе члены праўлення і сакратарыята, то ні пра якія ўзаемаадносіны казаць не мае сэнсу. Не больш як 5-7 кампазітараў наведваюць прэм’еры сваіх калег, астатнія і сапраўды прыходзяць на канцэрты слухаць толькі ўласныя творы. Боязь нажыць сабе ворагаў не дазваляе выказваць думкі адкрыта. Затое за спінай амаль кожнага паважанага кампазітара яго ж калегі выказваюцца не надта тактоўна. Якія ж стасункі будуюцца на фальшы і крывадушнасці? Дасягнуць гармоніі можна толькі праз узаемаразуменне, дараванне і павагу адно да аднаго. Хай дапаможа нам у гэтым Бог! З выканаўцамі наладзіць добрыя адносіны куды прасцей. Падрыхтаваўшы праграмы юбілейных канцэртаў, яны дапамаглі беларускім кампазітарам пераканацца, што нашу музыку высока цэняць і добра прымаюць. Гэта дае нам сілы, натхненне і ўпэўненасць у стварэнні новых опусаў.

**Галіна ГАРЭЛАВА.** Гаварыць наконт прагнозаў у дачыненні як да будучыні нашай творчай арганізацыі, так і акадэмічнага мастацтва, не хачу, бо яны падаюцца мне зусім не суцяшальнымі. У адным перакананая: творчаму чалавеку, нягледзячы ні на што, неабходна самому захоўваць высокі ўзровень прафесіяналізму. І ні ў якім разе не заніжаць планку, нават калі ніхто апроч цябе яе не бачыць.

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ.** Сённяшняе жыццё нашага творчага аб’яднання далёкае ад чаканай стабільнасці і пажаданай фінансавай пэўнасці. Усё часцей гучыць пытанне: ці патрэбны саюз кампазітараў увогуле, а калі патрэбны, дык каму і для чаго? Але ж станаўленне кожнага, хто піша музыку, адбываецца менавіта ў прафесійных стасунках з калегамі. Калі адсутнічае агульны творчы кантэкст, няма ні буйных постацей, ні яркіх дасягненняў.

Вельмі важна сёння аднавіць у нашым асяродку жывую атмасферу мастацтва, каб яна спрыяла неабходным прафесійным зносінам. Як гэта зрабіць? Можна паспрабаваць аднавіць работу секцый, якія існавалі раней і дзейнічалі даволі паспяхова; трэба ўважлівей паставіцца да маладых творцаў і працягнуць у БСК добрую традыцыю «адкрытых паказаў», якія сёння ладзяцца на кафедры кампазіцыі акадэміі музыкі. Нарэшце, адладзіць інфармацыйную дзейнасць і такім чынам зрабіць кантакты кампазітараў з выканаўцамі і публікай больш актыўнымі.

Наперадзе — чарговы з’езд БСК. І каб не стаў ён чарговым фармальным «мерапрыемствам», трэба ўжо сёння працаваць над яго канцэртнымі праграмамі. Нельга дапусціць, каб яны зноў фарміраваліся спантанна-суб’ектыўна (па г. зв. заяўках аўтараў), трэба, каб там гучалі лепшыя творы, напісаныя паміж з’ездамі.

***

Вось такая атрымалася размова. Пазначаныя ў ёй праблемы і ўражанні — гэта нават не вяршыня сфарміраванага за дзясяткі гадоў айсберга пад назовам БСК, а толькі невялічкі сколак з яго «надводнай часткі».

Мы маглі б скіраваць тут увагу і на хранічную, набалелую яшчэ за савецкім часам і актуальную нават у эпоху інтэрнэту, праблему выдання нот. Ці засяродзіцца на тэме прапаганды творчасці айчынных кампазітараў, каб, аддаўшы належнае шчырым і крэатыўным яе папулярызатарам, вызначыць рэальнае, не самае, на жаль, пачэснае месца беларускай музыкі ў рэпертуары пэўных творчых калектываў і ў сэрцах прагматычных мастацкіх кіраўнікоў. А заадно і паразважаць пра стаўленне да гісторыі, да музычнай спадчыны тых, з каго наша сучасная кампазітарская школа пачыналася і чый дадатны або адмоўны творчы досвед быў «спажыўнай глебай», якая стымулявала і падсілкоўвала рост новых талентаў. Паважаныя імёны «дзядоў», класікаў XX стагоддзя, неўпрыкмет сыходзяць у нікуды...

У сённяшнім саюзе каля 130 кампазітараў і музыказнаўцаў: розныя, вельмі розныя людзі, і кожны нясе ў сабе тэму для роздуму.

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**фота аўтара**

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

*Слова краязнаўцы*



**Руслан Кніга, дырэктар музея «Ружанскі палацавы комплекс Сапегаў», распавядае пра тое, чым установа здольная прывабіць турыстаў у Год гасціннасці:**

— Улетку 2008-га ў старадаўняй рэзідэнцыі Сапегаў у гарадскім пасёлку Ружаны, што ў Пружанскім раёне, пачаліся рэстаўрацыйныя працы, а ўжо 25 студзеня 2011 года на Брэстчыне быў афіцыйна адкрыты новы музей. Тут можна даведацца пра адзін з самых магутных княжых родаў Беларусі, а таксама пра мястэчка Ружаны, яго гасцінных жыхароў і, вядома ж, пра «Беларускі Версаль» — унікальны помнік архітэктуры, гісторыка-культурную каштоўнасць нашай краіны.



Адна з найбуйнейшых у Беларусі рэзідэнцый стваралася некалькімі пакаленнямі Сапегаў. Палац быў закладзены Львом Сапегам у канцы XVI стагоддзя ў традыцыях рэнесансу пад лозунгам «Мой дом — мая крэпасць». Хутчэй за ўсё, будаваўся ён па праекце скульптара і архітэктара з Фларэнцыі Санці Гучы.

Сёння для турыстаў працуе пяць экспазіцыйных залаў, якія размешчаны ва Усходнім і Заходнім флігелях Паўднёвага корпуса Ружанскага комплексу. Першая прысвечана гісторыі гэтага роду, перыяду XVI — XVII стагоддзяў. Тут прадстаўлены адзін з самых каштоўных прадметаў — арыгінальная пячатка, якую выкарыстоўваў Леў Сапега для асабістых лістоў, і шмат іншых цікавых рэчаў. У наступнай зале можна пазнаёміцца з гісторыяй будаўніцтва рэзідэнцыі, даведацца пра яе разбурэнні і перабудовы. «Разынка» гэтай часткі — картуш з фамільным гербам «Ліс», што правісеў больш як 200 гадоў на адкрытым паветры і быў зняты падчас рэстаўрацыі ў 2008 годзе.

Адна з залаў прысвечана гісторыі мястэчка Ружаны як галоўнай рэзідэнцыі роду. Асабліва каштоўны экспанат — камін, аздоблены кафляй XVIII стагоддзя. Мяркуем, што створаны ён французскімі майстрамі. У наступным памяшканні аднаўлены інтэр'ер XVIII стагоддзя — так званая «Гасцінная канцлера», дзе прадстаўлены мэбля, фарфор, фаянс, трафейныя зборы Сапегаў і многае іншае.

Апошнім часам наш музей прапаноўвае новую паслугу — тэатралізаваную цырымонію шлюбу, якая праходзіць у шыкоўнай «Гасцінай канцлера». Маладых сустракаюць пад фанфары прыдворныя шляхціц і шляхцянка. Канцлер Леў Сапега і яго жонка Лізавета, народжаная Радзівіл, вітаюць жаніха з нявестай і даюць свой наказ. Пасля рэгістрацыі шлюбу гаспадары рэзідэнцыі ўручаюць маладым ліст, завераны пячаткай Льва Сапегі.

Вядома, не абыйдзецца і без знакамітай некалі традыцыі — пачастунку гасцей з трохлітровай чашы «Іван». З гэтага келіха падканцлер Казімір Леў Сапега частаваў самога караля Уладзіслава IV Вазу і яго жонку. Варта заўважыць: у аснову тэатралізаванага дзейства пакладзена цырымонія сустрэчы каралеўскай пары Рэчы Паспалітай — Вялікага князя Літоўскага Уладзіслава IV Вазы і яго жонкі Цэцыліі Рэнаты Аўстрыйскай, якая адбылася ў Ружанах у 1644 годзе.

Па заканчэнні цырымоніі маладыя і госці могуць сфатаграфавацца ў залах музея і на тэрыторыі палацавага комплексу.

*Музейны ўнікат*

# Абярэг у спадчыну

**Беларускія народныя абразы XIX стагоддзя можна ўбачыць на аднайменнай выстаўцы ў Музеі беларускага народнага мастацтва ў Раўбічах, філіяле Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь.**

Прадстаўленыя рарытэты — велізарны пласт беларускай духоўнай культуры і іканаграфічнага мастацтва, які яшчэ і сёння вывучаны мала. Але менавіта хатні, або сямейны, абраз быў спадарожнікам чалавека ўсё яго жыццё.

— Адным з першых падарункаў нованароджанаму была ікона. Менавіта з яе дапамогай у дзіцяці выхоўваліся рэлігійныя пачуцці, павага да сям'і і старэйшых, — распавяла загадчыца Музея беларускага народнага мастацтва Вольга Залуцкая. — Гэтым жа абразом блаславілялі на шлюб, а пасля ён станавіўся абярэгам для новай сям'і. Падобныя каштоўнасці звычайна перадаваліся з пакалення ў пакаленне.

Народныя абразы не падобныя да кананічных, паколькі пісалі іх, хутчэй за ўсё, майстры, якія не мелі спецыяльнай адукацыі і ў адрозненне ад прафесіяналаў кіраваліся не ўстойлівымі традыцыямі, а ўласнымі, народнымі ўяўленнямі пра духоўны свет. Вось чаму гэтая іканаграфія, як правіла, вельмі простая, у ёй рэдка сустракаюцца шматфігурныя кампазіцыі. Вобразы святых маюць чалавечыя рысы. Так, Ісус часта малюецца здаровым, вясёлым дзіцём, вельмі падобным да звычайнага сялянскага хлопчыка, а Дзева Марыя — румянай пышнагрудай жанчынай.

— Беларускім народным абразам уласцівы і фальклорныя матывы — маляўнічасць, выкарыстанне раслінных арнаментаў, — зазначыла Вольга Залуцкая. — У той жа час яны не пазбаўлены і нейкай кананічнасці, напрыклад, у малюнку атрыбутаў і элементаў адзення, колеравага рашэння.

Для народных хатніх абразоў характэрныя малюнкі найбольш шанаваных святых заступнікаў, чые імёны насілі члены сям'і. Найбольш паважанымі ў беларускіх вёсках былі абразы Маці Божай «Траяручыца», святых Мікалая Цудатворца, Архангела Міхаіла, Святой Варвары Пакутніцы, Параскевы Пятніцы. У той жа час, асабліва на Палессі, распаўсюдзіліся абразы з выявамі святых Сціліяна, Зосіма і Савацця.

Навукоўцы робяць першыя крокі ў вывучэнні беларускага народнага абраза. Такія іконы рэдка прадстаўлены ў музейных калекцыях. Ды і калекцыянеры звярнулі ўвагу на гэтую ўнікальную з'яву толькі апошнім часам.

**Раіса МАРЧУК**



*Збавіцель. Другая палова XIX ст., вёска Уваравічы Буда-Кашалёўскага раёна.*



*Архангел Міхаіл. Другая палова XIX ст., г. Клецк.*

# Сваякі!



**Вёска Бездзеж вядомая не толькі музеем народнай творчасці «Бездзежскі фартушок», але і ўласнымі музычнымі калектывамі. Вось ўжо 15 гадоў радуюць сваёй творчасцю артысты ансамбля народнай песні і музыкі «Сваякі».**

Некаторыя з мясцовых жыхароў у творчым калектыве з пачатку яго ўзнікнення. Сваім нараджэннем ансамбль абавязаны Леаніду Куроўскаму, начальніку аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Драгічынскага райвыканкама, які ў свой час здолеў аб'яднаць людзей агульнай ідэяй і запаліць іскру творчасці. Назву падказала само жыццё. Сярод аднавяскоўцаў заўсёды можна знайсці нейкія роднасныя сувязі. Дык чым не «Сваякі»?

У 2000-м калектыў ачоліў новы мастацкі кіраўнік, патомны музыкант Аляксандр Вакула — душа і сэрца «Сваякоў». Асвойваць гармонік ён пачаў нават раней, чым пісаць ды чытаць. У чатыры гады ўжо выдаваў сола пад пільным наглядам дзеда, які сам быў выдатным гарманістам. Сёння рэпетыцыі ды выступленні Аляксандр Вакула сумяшчае з выкладаннем у школе мастацтваў і кіраўніцтвам яшчэ адным самабытным калектывам, які працуе пры Бездзежскім сельскім Доме культуры, — «Таночак». У адрозненне ад «Сваякоў», выключна мужчынскага калектыву, артысты гэтага гурта — вясёлыя і жыццярадасныя прадстаўніцы прыгожай паловы чалавецтва.

З часам у рэпертуары «Сваякоў» акрамя народных песень з'явіліся ўласныя творы Аляксандра Вакулы: «Весялушка», «Спявай», «Каханне гэтае», «Пакахаў дзяўчыну», якія карыстаюцца вялікай папулярнасцю як на Брэстчыне, так і за яе межамі, у тым ліку ў краінах-суседках.

Сёння ў калектыве сем артыстаў, але не выключана, што ў хуткім часе кола «Сваякоў» пашырыцца за кошт маладых музыкантаў. Хаця самадзейныя артысты сумяшчаюць рэпетыцыі з асноўнай працай, але як сапраўдныя майстры сваёй справы шчыра любяць музыку. Удзячныя слухачы гэта адчуваюць. Умеюць захапіць публіку салісты Аляксандр Кочык і Аляксандр Каласей, віртуозы-баяністы Віктар Родак і Віктар Страпко. На свяце Масквы бездзежскія артысты мелі гонар выступаць перад шматлікай аўдыторыяй на Паклоннай гары. Сакрэт выканаўцаў — у аўтэнтычным рэпертуары, падмацаваным чыстымі і моцнымі галасамі.

У бліжэйшых планах «Сваякоў» — праца над канцэртнай праграмай, з якой плануюць падарожнічаць па Беларусі і замежжы. Па задумцы Аляксандра Вакулы, прадбачыцца шмат песень, запісаных на мясцовым паляшуцкім дыялекце.

**Ніна ЛЕАНАВЕЦ,**
**фота з архіва калектыву**

# «Помнік» невядомаму мовазнаўцу

**Летам 1898 г. прафесар Варшаўскага ўніверсітэта Яўхім Карскі, завяршыўшы даследчую працу ў бібліятэках Масквы і Троіца-Сергіевай лаўры, завітаў у Слуцк — павятовы цэнтр Мінскай губерні.**

У сваёй справаздачы навуковец адзначыў: «…з-за аддаленасці ад чыгункі (бліжэйшая станцыя ў 80 вярстах) мала каму з аматараў архіўнай і бібліятэчнай работы даводзілася наведваць гэты забыты, але цудоўны, прынамсі, у летнюю пару, куток». У Слуцку прафесар не толькі пазнаёміўся са старадаўнімі рукапісамі, якія захоўваліся ў Свята-Троіцкім манастыры, Міхайлаўскай і Варварынскай цэрквах, але і наведаў вёскі Баслоўцы і Падлессе. Да гэтага яго падштурхнула ранейшая сустрэча і гутарка з Мікалаем Чудоўскім — аўтарам артыкула пра гаворку Случчыны. У далейшым прозвішча і спасылкі на матэрыял М. Чудоўскага некалькі разоў сустракаюцца на старонках вядомай працы Я. Карскага «Беларусы».

Дык хто ж ён такі, гэты амаль забыты даследчык роднай мовы? Згадка пра М. Чудоўскага ёсць у кнізе Р. Родчанкі «Старэйшая школа Беларусі», прысвечанай Слуцкай гімназіі, якая была заснавана Радзівіламі яшчэ ў 1617 г. У гэтай навучальнай установе ён працаваў больш як 20 гадоў, выкладаў фізіку і матэматыку. Адкуль пачаўся яго жыццёвы шлях? На гэтае пытанне адказу няма. Застаецца толькі рабіць дапушчэнні, грунтуючыся на скупых ускосных сведчаннях.

У прыватнасці, Я. Карскі называў свайго сурazмоўцу «ўраджэнцам Навагрудскага павета». Значыць, тут і трэба шукаць яговыя карані. З «Памятных кніжак Мінскай губерніі» вядома, што ў 60 — 70-я гг. XIX ст. дабрачынным 1-й акругі Навагрудскага павета быў протаіерэй Іаан Чудоўскі, які пачаў святарскае служэнне ў 1841 г. Магчыма, з яго сям'і і паходзіў герой публікацыі. На гэта ўказвае цэлы шэраг супадзенняў: Навагрудчына ў якасці месца нараджэння, імя па бацьку. Не трэба забывацца, што дзеці святароў ахвотна ішлі ў навуку, маючы для гэтага большыя магчымасці, чым прадстаўнікі іншых саслоўяў.

Дакладна вядома, што ў 1871 г. М. Чудоўскі скончыў фізіка-матэматычны факультэт Імператарскага Харкаўскага ўніверсітэта і быў накіраваны ў Беластоцкую гімназію настаўнікам прыродазнаўчых навук. У наступным годзе яго перавялі выкладчыкам натуральнай гісторыі, геаграфіі, фізікі ў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, а неўзабаве адправілі ў Слуцк.

Тагачасны павятовы цэнтр мала чым нагадваў былую сталіцу княства. Але і лічыць яго «глухой правінцыяй» нельга. Па колькасці насельніцтва (больш як 12 тысяч чалавек) ён значна апярэджваў іншыя гарады губерні: Навагрудак, Барысаў, Рэчыцу, Мазыр, Ігумен. Саступаў толькі Пінску, Бабруйску ды губернскаму Мінску. Тут жыла памяць пра часы Алелькавічаў і Радзівілаў, пра славутую «персіярню» і маршы выбранецкай пяхоты. Пра мінуўшчыну нагадвалі і старадаўнія храмы.



РУССКІЙ
ФИЛОЛОГИЧЕСКІЙ
ВѢСТНИКЪ.
издаваемый подъ редакціею
профессора
А. И. СМИРНОВА.
№ 4711
Томъ XL.
(Годъ изданія 20-ый).
ВАРШАВА.
Въ типографіи Варшавскаго учебнаго округа.
Краковское-Предмѣстье № 3.
1898.



МАТЕРІАЛЫ
для изученія бѣлорусскихъ говоровъ.
Слуцкій говоръ.

Настоящая работа возникла подъ вліяніемъ знакомства съ „Очеркомъ русской діалектологіи" А. И. Соболевскаго. Авторъ изучалъ только ту ея главу, въ которой говорится о бѣлорусскомъ нарѣчіи (ср. Живая Старина 1892 г. № 3).

Прежде чѣмъ обратиться къ частностямъ, позволю себѣ высказать по поводу брошюры „Очеркъ русской діалектологіи" нѣсколько общихъ мыслей.

Для характеристики того или другого говора необходимо брать чисто мѣстныя, въ данномъ случаѣ бѣлорусскія слова.

Напримѣръ въ словахъ старательный, сутакъ (у насъ дзёвъ), вешши, твярдсиць, кажетца (у насъ говоратъ здаетца), развѣ и т. п., встрѣчающихся въ разсматриваемой брошюрѣ, такъ и сквозитъ коверканіе русскихъ книжныхъ словъ на бѣлорусскій маперъ. Какъ будто здѣсь происходитъ простой переводъ книжнаго слова на бѣлорусскій языкъ!

Въ другихъ случаяхъ дѣлается переводъ польскаго слова. Особенно этимъ недостаткомъ отличается матеріалъ для мѣстности Подлѣсья (около г. Слуцка). Здѣсь совершенно напрасно фигурируетъ слово подмовили. Во-первыхъ, это чисто польское, а не бѣлорусское слово, во

Слуцк так і не ператварыўся ў яўрэйскае мястэчка, што пазней дало падставу Я. Карскаму назваць яго «найбольш рускім горадам сярод іншых павятовых гарадоў Паўночна-заходняга краю». Тут дзейнічала тры вучылішчы — духоўнае, прыходскае і казённае яўрэйскае, чатырохкласны жаночы пансіён, а яшчэ — мужчынская гімназія, дзе з 1874 г. па 1896-ы і працаваў М. Чудоўскі.

Здаецца, што для пераводу з Маладзечна ў Слуцк была важкая прычына. На адным з пасяджэнняў Мінскага губернскага статыстычнага камітэта ўздымалася пытанне пра «магчымасці распаўсюджвання збірання метэаралагічных звестак шляхам павелічэння колькасці метэаралагічных станцый, як тых, што праводзяць поўную серыю звычайных назіранняў, так і назіранняў спрошчаных». Было пастаноўлена шукаць і актывізаваць працу з людзьмі, якія могуць іх праводзіць. У Слуцку рыхтаваліся да адкрыцця метэастанцыі пры гімназіі, але, відаць, не было кваліфікаваных спецыялістаў. Аднак М. Чудоўскі, мяркуючы па ўсім, меў неабходны досвед ці добрую тэарэтычную падрыхтоўку. Вядома, што адным з яго выкладчыкаў у Харкаве быў будучы прафесар Юрый Марозаў, які чытаў шэраг спецыяльных курсаў па фізічнай геаграфіі і метэаралогіі.

20 снежня 1874 г. пачала дзейнічаць метэаралагічная станцыя. Малады выкладчык стаў яе першым назіральнікам. Сабраныя звесткі, зведзеныя ў адмысловыя метэаралагічныя табліцы, штомесяц адсылаў у Галоўную фізічную абсерваторыю ў Санкт-Пецярбург. У жніўні 1887 г. М. Чудоўскі ўдзельнічаў у назіранні за сонечным зацьменнем.

З «Памятнай кніжкі Віленскай навучальнай акругі» за 1884/85 год можна даведацца, што Мікалай Іванавіч выкладаў у гімназіі фізіку і матэматыку, быў узнагароджаны ордэнам Святога Станіслава III ступені і меў чын «стацкага саветніка» (службоўца V класа згодна з «Табеллю аб рангах»). Гэты цывільны чын быў нечым сярэднім паміж званнямі «палкоўніка» і «генерал-маёра». Акрамя гімназіі М. Чудоўскі выкладаў таксама ў прыватным жаночым пансіёне.

Слуцкі краязнаўца Рыгор Родчанка пісаў, што гімназічны настаўнік сябраваў з Альгердам Абуховічам — былым удзельнікам паўстання 1863 г. Згадкі пра нефармальнае кола, якое гуртавалася вакол Абуховіча, пакінуў і адзін з будучых «айцоў-заснавальнікаў» БССР Язэп Дыла, у той час яшчэ падлетак. У гэтым гуртку «часцей за ўсё вяліся размовы пра ўзаемаадносіны ў гімназіі вучняў з настаўнікамі, пра паўстанне 1863 г., <…> пра класіку рускай, польскай, сусветнай літаратур. Узнікала размова і пра мажлівасць для беларускай мовы стаць літаратурнай, здольнай пры перакладах з іншых моў перадаць самыя тонкія адценні чалавечых пачуццяў і разуменняў». Праўда, нямногія з прысутных пагаджаліся з гаспадаром, які гаварыў пра багацце і разнастайнасць роднай мовы. Сябрам гэтага гуртка сапраўды быў нейкі Чудоўскі. Няма пацвярджэння таго, што — той самы. Але — хто ведае?…

Постаць Альгерда Абуховіча, які меў рэпутацыю дзівака — адмовіўся ад маёмасці, пакінуўшы сабе толькі любімыя кнігі, і жыў за кошт прыватных урокаў, пісаў байкі на «мужыцкай гаворцы», вольна валодаючы французскай, італьянскай, англійскай і нямецкай мовамі, перакладаў на «местное наречие» творы рускіх паэтаў — была настолькі прыкметнай, што пра яго нельга было не ведаць, жывучы ў Слуцку. Настаўнік і рэпетытар маглі сустракацца і гутарыць. Нельга выключаць, што пад уплывам Абуховіча Чудоўскі пачаў цікавіцца той мовай, якую чуў з маленства. Спрыяла гэтаму і знаёмства з выдадзеным у 1892 г. «Очерком русской диалектологии» прафесара А. Сабалеўскага. Дакладней кажучы — з яе раздзелам, прысвечаным «белорусскому наречию».

Фізіка, матэматыка, метэаралагічныя назіранні… мовазнаўства. Некалькі нязвыклае спалучэнне. Але факт ёсць факт. Шматгадовае вывучэнне асаблівасцей народнай мовы Слуцкага павета ўвасобілася ў грунтоўны артыкул «Материалы для изучения белорусских говоров. Слуцкий говор», які ўбачыў свет у «Русском филологическом вестнике». Гэты аўтарытэтны навуковы часопіс выдаваўся ў Варшаве пад рэдакцыяй прафесара А. Смірнова, а рыхтаваў артыкул да публікацыі не хто іншы, як прафесар Я. Карскі.

Даволі вялікі артыкул Чудоўскага пабудаваны на асабістых назіраннях. Аўтар старанна фіксуе беларускія выразы, пачутыя ў розных кутках Слуцкага павета, шукае заканамернасці і адметнасці. У працы сустракаюцца слушныя заўвагі-перасцярогі для будучых даследчыкаў — адрозніваць народныя беларускія выразы ад скажоных рускіх; звяртаць увагу на асобы інфарматараў (у мове польскіх шляхціцаў, як і тагачаснага духавенства, заўважаецца імкненне гаварыць «па-кніжнаму»); улічваць уплыў на мову «яўрэйскага жаргону», распаўсюджанага ў краі, і г. д. Аўтар звяртае ўвагу на чысціню народнай мовы, якая захавала шматлікія старажытныя выразы. Вось некаторыя цытаты: «Замечательно, что всюду в Белоруссии часто употребляется выражение, встречающееся в «Слове о полку Игоревом»: *обапол дороги* (по обе стороны)». «Можно привести замечательное слово, слышанное мною от старого крестьянина из припольской стороны Рожина, а именно, вместо *коненя* (жеребёнок) крестьянин сказал *комене*. Так и повеяло глубокой стариной, так и воскрес образ «ржут комони на Суле». Разам з тым, аўтар фіксуе і ўплыў рускай мовы. «5 декабря 1893 года от старого крестьянина в Слуцке слышал *вчера сказаў*». «Иногда можно слышать мягкое *р* вместо твёрдого: рябота, ряд. Такие неправильности встречаются у белорусов, желающих говорить чисто литературно, преимущественно у духовенства».

Будучы аматарам, Мікалай Іванавіч не пазбег некаторых памылак. Я. Карскі адзначаў: «Пазнаёміўшыся з ім, я заўважыў, што стары матэматык не зусім ясна ўяўляе беларускія асаблівасці». Удакладненню адметнасцей гаворкі жыхароў вёсак Баслоўцы і Падлессе прафесар прысвяціў асобны артыкул. Але гэта не зніжае каштоўнасці працы «старога матэматыка». Не забудзем, што стваралася яна ў той час, калі не існавала ніякай граматыкі беларускай мовы, а яе вывучэнне толькі пачыналася.

Артыкул М. Чудоўскага быў надрукаваны ў 1898 г. Незадоўга да таго аўтар пакінуў працу ў гімназіі, маючы 25 гадоў выслугі. Звесткі пра яго яшчэ сустракаюцца нейкі час у «Памятных кніжках Мінскай губерніі». Так, пачынаючы з 1887 г. ён згадваецца як ганаровы міравы суддзя Слуцкага павета. У «Памятнай кніжцы…» за 1901 г. знаходзім прозвішча М. Чудоўскага ў апошні раз — «міравы суддзя 3-га ўчастка», з цэнтрам у мястэчку Клецк. У другім томе «Беларусаў», які выйшаў у 1908 г., Яўхім Карскі называе М. Чудоўскага «ныне покойным». Дакладны час і месца смерці гэтага таленавітага чалавека невядомы.

**Андрэй БЛІНЕЦ**

*Між іншым*

# Віртуальны свет гісторыі

Электронны музей вуснай гісторыі, прысвечаны падзеям, якія адбываліся на працягу XX стагоддзя на тэрыторыях Гродзенскай і Віцебскай абласцей Беларусі і Латгаліі (Латвія), вырашылі стварыць у Гродне. У віртуальным музеі будуць змешчаны відэаінтэрв'ю, аўдыёзапісы, фотаздымкі сведак мінуўшых падзей, тэкставыя матэрыялы на рускай, беларускай, латышскай і англійскай мовах. Плануецца падрыхтаваць больш як 300 унікальных аповедаў. Зборам інфармацыі займаюцца выкладчыкі і студэнты факультэта гісторыі, камунікацыі і турызму Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы. Іх праца дазволіць захаваць і сістэматызаваць гістарычную памяць некалькіх пакаленняў, унікальныя звесткі, якія датычаць міжэтнічных зносін на прыгранічных тэрыторыях Беларусі і Латвіі, Другой сусветнай вайны, партызанскага руху ў гады Вялікай Айчыннай, гісторыі пасляваеннага ўзнаўлення і інш. Сюды ж увойдзе і летапіс самога ўніверсітэта, пададзены праз успаміны ветэранаў ВНУ.

Віртуальная платформа вуснай гісторыі будзе ствараецца ў межах міжнароднага праекта «Папулярызацыя цэнтраў вуснай гісторыі на прыгранічнай тэрыторыі Латвіі і Беларусі», які рэалізуецца па праграме трансгранічнага супрацоўніцтва «Латвія-Літва-Беларусь». Галоўнымі партнёрамі выступаюць Даўгаўпілскі ўніверсітэт і Цэнтр прасоўвання інавацый і развіцця Латвіі.

**Міра ІЎКОВІЧ**

# Зазірні ў каляндар

Унікальны каляндар знамянальных і памятных дат рэгіёна на 2014 год пабачыў свет у Магілёўскай вобласці. Падрыхтавалі яго супрацоўнікі аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна.

На 164 старонках беларускамоўнага выдання размешчана 139 дат, якія адлюстроўваюць важныя падзеі гісторыі, палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця Магілёўшчыны, дзейнасць вядомых навукоўцаў, пісьменнікаў, звязаных з Прыдняпроўскім краем.

— Асаблівая ўвага нададзена 70-годдзю з дня вызвалення ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў раёнаў Магілёўскай вобласці і 90-годдзю ўтварэння адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак рэгіёна, — распавяла дырэктар Магілёўскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна Ілона Сарокіна. — Кожнай даце прысвечана кароткая даведка, ілюстрацыі, прыводзіцца выкарыстаная літаратура. Для зручнасці ў выданні пададзены імянны і геаграфічны дапаможныя паказальнікі, спіс скарачэнняў.

Бібліяграфічнае выданне можна выкарыстаць і для арганізацыі выставак,




падрыхтоўкі гутарак, аглядаў, тэматычных вечароў, папаўнення краязнаўчых каталогаў.

**Раіса МАРЧУК**



*«Аўтапартрэт», каля 1908 г. Папера, вугаль, графіт, бялілы.*

# Роберт Генін. Незабытае імя

**Мастак, які шукаў на Зямлі рай, каб захаваць яго на палатне, але заплаціў за гэта надта высокую цану. Яго біяграфіі мог бы пазайздросціць любы авантурыст і шукальнік прыгод. Нарадзіўся ў маленькай беларускай вёсцы, жыў у знакамітым парыжскім «Вуллі», стаў зоркай галерэі «Танхаўзер» у Мюнхене, шукаў гармонію на Балі, стаў заможным чалавекам у Швейцарыі. А потым знішчыў большасць сваіх работ і накіраваўся ў Савецкі Саюз распісваць будынак Палаца Саветаў…**

Сёння імя і карціны Роберта Геніна вяртаюцца ў музеі Беларусі дзякуючы намаганням расійскага калекцыянера Аляксея Радзівонава. Першыя работы мастака ён купіў выпадкова на аўкцыёне ў Дзюсельдорфе. Два партрэты невялікіх памераў, якасць якіх была такой высокай, што з часам здавалася, яны ажывалі... Піцерская сям'я калекцыянераў пачала мэтанакіравана шукаць карціны Р. Геніна — і адна за адной яны ўзнікалі з нябыту, аднаўлялася біяграфія.

Роберт Генін — сын яўрэйскага крамніка, нарадзіўся ў 1884 годзе ў вёсцы Высокае Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні, пачатковую мастацкую адукацыю атрымаў у Вільні і Адэсе. Усё жыццё мастака сведчыць, што ён не мог доўга затрымлівацца на адным месцы. Прага новых уражанняў ахоплівала зноў і зноў, і ён крочыў у невядомасць, насустрач прыгодам. Пачалося гэта яшчэ ў 1902 годзе, калі ў васямнаццаць гадоў кінуў Адэскае мастацкае вучылішча і выправіўся ў Мюнхен, а затым — у Парыж. У 1926 годзе — паездка ў Інданезію, на востраў Балі. Гэтым разам чаканні Геніна спраўдзіліся, а падарожжа натхніла на сапраўдны творчы прарыў. Праз дзесяць гадоў, у 1936-м, мастак зноў выправіўся на пошукі раю — у СССР, але вярнуцца з гэтага «раю» ўжо не здолеў…

Аповед калекцыянера Аляксея Радзівонава пра выпадковае адкрыццё мастака Роберта Геніна гучыць празаічна. Але на самай справе гэта вынік упартай працы, звязанай з пастаянным пошукам, са зносінамі з цікавымі людзьмі — цярністы шлях «ледакола».

— Інтэнсіўна збіраць работы Роберта Геніна наша сям'я пачала шэсць-сем гадоў таму, — распавядае Аляксей Мікалаевіч. — Цікавасць была падвойная: па-першае, адразу быў заўважаны ярка выражаны талент мастака. Па-другое, накладвалася і тая акалічнасць, што творца відавочна быў забыты мастацкім рынкам, публікай. Такое здараецца: мастакоў забываюць значна часцей, чым памятаюць!

Раней імя Роберта Геніна можна было знайсці толькі ў «Слоўніку мастакоў рускай эміграцыі». Не быў вядомы і факт яго нараджэння ў Беларусі: спачатку мастак праходзіў як ураджэнец Смаленска. Мы адкрылі цікавы факт: у 1917 годзе падчас Першай сусветнай вайны яўрэйскі мастак, грамадзянін Расійскай імперыі Роберт Генін арганізаваў у мюнхенскай галерэі «Танхаўзер» сваю першую выстаўку! Вядома, што свае работы Генін часткова спаліў у Парыжы, нешта засталося ў музейных калекцыях і сямейных архівах.

— Сёння сваякоў творцы практычна ўжо няма, — распавёў А. Радзівонаў. — Некалькі тыдняў таму мы бачыліся з яго сынам ад другога шлюбу, які жыве ў Берліне ў Доме састарэлых. 92 гады, не вельмі цвёрдая памяць, пра мінулае ўспамінае неахвотна. Тым не менш з работ бацькі ў яго засталося тры невялікія жывапісныя палатны і чатыры графічныя карціны. Мастацкія работы Роберта Геніна вельмі цяжка адшукаць. Але для людзей азартных гэта займальны і цікавы занятак.

У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь дзякуючы прыватнаму збору Аляксея Радзівонава экспануецца выстаўка «Роберт Генін. У пошуках раю», прымеркаваная да 100-годдзя першай персанальнай выстаўкі Р. Геніна ў знакамітай мюнхенскай галерэі «Танхаўзер» у 1913 годзе. «Вяртанне» і адначасова «адкрыццё» імя Роберта Львовіча Геніна для беларускага гледача адбылося ў 2012-м, калі частка твораў мастака экспанавалася на выстаўцы «Мастакі Парыжскай школы з Беларусі», арганізаванай Нацыянальным мастацкім музеем краіны, дзе былі прадстаўлены творы мастакоў — ураджэнцаў Беларусі з карпаратыўнай калекцыі ААТ «Белгазпрамбанк», Нацыянальнага мастацкага музея, Музея Марка Шагала ў Віцебску, а таксама з прыватных збораў Расіі і Беларусі. Выстаўка «Роберт Генін. У пошуках раю» працягвае знаёмць з творчасцю мастака, прэзентуючы два ключавыя перыяды — цыкл аўталітаграфій «Кампазіцыі з фігурамі» (1912), перададзены ў дар Нацыянальнаму мастацкаму музею Беларусі Аляксеем і Марынай Радзівонавымі ў 2012 годзе, і працы, створаныя мастаком падчас яго падарожжа на Балі ў 1926-м. Акрамя таго да выстаўкі выдадзены каталог, у якім падрабязна разглядаецца балійскі перыяд творчасці Геніна і пададзены рэпрадукцыі больш як 100 работ, створаных мастаком на востраве. Пераважная большасць твораў публікуецца ўпершыню.

Паводле супрацоўнікаў Нацыянальнага мастацкага музея,



*«Радасць» (Ліст № 4 з цыкла «Кампазіцыі з фігурамі»), 1912 г. Папера, наклееная на кардон, літаграфія.*

выстаўка «Роберт Генін. У пошуках раю» — сапраўднае адкрыццё імя творцы. Дзякуючы Аляксею Радзівонаву ў мінулым годзе ў Беларусь прыязджаў унук мастака, які быў здзіўлены цікавасцю да творчасці дзеда на Радзіме. Накладам у 150 тысяч асобнікаў ён выдаў кнігу пра падарожжа Роберта Геніна ў Інданезію. У тэксце распавядаецца пра лёс гэтага інтэлігентнага, парывістага і летуценнага чалавека, які здолеў памяняць шыкоўны дом з выгадамі на пакойчык у інтэрнаце. І ўсё з ідэалістычных памкненняў! Тлумачыцца ў кнізе і факт самагубства мастака. Роберт Генін быў інвалідам: не згібалася нага. І каб трываць страшэнны боль, яму міжволі давялося стаць наркаманам. Занадта вялікая доза морфія і спыніла жыццё.

Балі — Генін, Таіці — Гаген… Хвалюючыя паралелі. У свой час шматлікія творцы захапляліся спакойным азіяцкім жыццём, што кардынальна адрознівалася ад прагматычнага еўрапейскага. Менавіта сутыкненне Роберта Геніна з людзьмі, якія без усялякіх умоўнасцей жывуць у адзінстве з прыродай, натхніла яго на шыкоўныя эцюды. Балійскі перыяд — час творчага ўзлёту мастака. Але ў Геніна не атрымалася цалкам увабраць у сябе паўнату "райскага жыцця", ён не змог пражыць на востраве больш як паўгода. У імкненні знайсці «лепшае» мастак выраўшае ехаць на радзіму, але…

Сёння Роберт Генін — адкрытае імя мастака з Беларусі, мастакаўтапіста, які прагнуў вышыні і… расчараваўся.

**Таццяна ШЫМУК**



*«Галава балійкі з чырвонай ніткай у валасах», 1927 г. Папера, пастэль.*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»**

**Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ**



**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага
рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-97-09
крытыкі і бібліяграфіі — 284-66-71
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-97-09
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3600 рублёў
Наклад — 2538.
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 16.01.2014 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 23.
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686